KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1923

№ 4.

ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК.

# Зьмест № 4.



Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠIAUSKAS. Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎСКІ

„KRYVIČ"

# КРЫВІЧ

МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ, КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА і К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА.

Адрэс рэдакцыі: Kaunas, Vytauto prosp. Nr. 30. (Lietuva).

Падпіска на поўгада з перасылкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 15 — (1:50 доляра)

Цана нумару паасобна . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Lit. 3 — (0:30 „

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і пакідае за сабой права пераправак і скарочаньняў.

| 1923 г. | ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК | № 4. |
|---|---|---|

## На Смаленскіх Сьценах.

Смаленскіх сьцен масыў патужны
ў бязсільлі разпластаўся;
забітай волі Крывічоў
мне ён нагробкам здаўся!..

Андрусаўскі злачын яго ўчыніў
сатрапіяй Маскоўскай:
і дзьвесьце з лішнім лет, цягаючы ярмо,
яго раджайны гоні
кармілі чужакоў і ворагаў пладзілі
Крывіцкае Пагоні.

Аж дзьвесьце цяжкіх лет кананьня
сьлязмі і потам абліваўся...

Смаленск!

Праз мукі, горасьці свае,
у рэшце-рэшт,
сьвятым для нас ты стаўся!..

## Чытаючы Гомэра.

Магутаў быт навекі прамінуў
кідаючы адно,
патомным на ўспамін,
прасьнёны сон паэты.
Чаруе ў ім
ня чынаў рытм, і ня высілак той
поўпастыраў князёў, пры сьценах Троі,
і не Ахілес-асілак,
а думаў бег, што геній роіў
між елачы жыцьця.

Адзіна ён,
патужны дух Гомэра,
стварыў старэтную Гэльляду;
яе сыноў нясьмертнымі ўчыніў,
прыгожасцью абдарыў!

## На оды Горацiя.

Як старае віно разьлітае у чары
залотнае дае ясво,
што йскрыцца у крыштале,—
так меніцца сьвятлом дасюль,
ў яго тварэньнях векапомных,
умца нясьмертны дух!

І як старэтны Вакха ў чарах дар
тхне ў сэрца нам цяплом,
так верш Горацiя акудны
дарыць красотаў
чар нязбудны!..

## На Чужыне.

(З народных матываў).

Зайшоў, забрыў бел-малойчык
у чужу, пастылую
чужыначку,
бусурмацкую краіначку.

Налілі-падалі бел-малойчыку
тры чары паўненькія,
ўсе тры раўненькія:

а ў першай чары
туга пякуча,
а ў другой чары
сьлёзы гаручы,
а ў трэйцяй чары
забудзь гаюча!
—„Выпій, выпій бел-малойча
тры чары паўненькія;
выпій, выпій ты, малойча, ўсё тры раўненькія...
—„Хоць я іх і выпью
я пьяны ня буду,
а родну старонку
павек не забуду;
хоць я іх і выпью—
з ножак не звалюся,
хоць на Божу пасьцельку
дамоў я вярнуся“...
Гэй,
Старана мая староначка!
Не магу цябе прызабыціся
і ў ночы сплючы, і ў дзень ходзячы:
а я ў ночы сплю ды ня высплюся,
а я ў дзень хаджу—прызамысьлюся...

---

## Песьня аб князю Вітауце.

(На старабеларускія матывы).

Ідзе Вітаўт па вуліцы
За ім нясуць дзьве шабліцы:
Слаўны Князь Вітаўт,
Слаўны Гаспадару,
Слаўна наша Гаспадарства!

Шаблі літы, злотам біты
У яшчар скуру апавіты.
Адна шабля для Спадара,
Друга шабля на Татара.
Стануў Вітаўт прад Кашовым,
Бліснуў ў сонцы шабляй новай;
Стукнуў грукнуў у падковы:
Гэй шыхтуйся пан кашовы
Гэй шыхтуйся збройна, жвава,
Дзе йдзе бітвы слаўна справа.
Кош ўвесь гукнуў з самапалаў,
з сямі-пядых ад запалаў,

Крыкнуў „Слава, Слаўны Княжа,
Вораг ў полі косьцю ляжа!
Славу Русі, Славу Жмудзі
Ў песьнях славіць будуць людзі“.

## Купальская песьня.

(На Народныя матывы).

Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі пяром, пяром;
На Івана Купала,
На Івана Купала!
Закрыўшы вочкі пяром, пяром,
Вітала хлопцаў чалом, чалом;
На Івана Купала,
На Івана Купала!
Вітала хлопцаў чалом, чалом,
Сьвятліла ночкі агнём, агнём;
На Івана Купала,
На Івана Купала!
Сьвятліла ночкі агнём, агнём,
Пляла вяночкі шаўком, шаўком;
На Івана Купала,
На Івана Купала!
Пляла вяночкі шаўком, шаўком,
Слыла Купалка цяплом, дабром;
На Івана Купала,
На Івана Купала!
Слыла Купалка цяплом, дабром,
Славу Купальлю пяём, гудзём,
На Івана Купала,
На Івана Купала!

Б. МЭОН.

## Аб справядлівасьці.

Мовіў нахмараны цар:

—Годзі! Я справядліў буду. Ніхай неба рашыць за нас спрэчку нашу і скажа, вінен ты ці не ? Я вялю рабу майму пайсьці за места і на пяску пустыні напісаць тваё імя, о нявольнік ! І калі вецяр не разьвее і захаваецца да раніцы напісанае, то, знача, праўда твая ў нашай спрэчцы—жыцьцё тваё прадоўжыцца.

— О, цар! ўсклікнуў бедны нявольнік.

І раб пашоў і накрэсьліў імя і ждаў і на сьвітаньні вярнуўся і апавядаў бачанае.

І мовіў цар:

— Не, нявольнік! Разьвеяна с пяском тваё імя—прысуд то безстаронны —ты павінен памерці!

— Зьлітуйся, прасіў паняволены. Зьлітуйся!

Падумаўшы мовіў цар:

— Я літасьцівы. Адложым да поўдня. Калі у поўдзень твой цень, о нявольнік, даўжэйшы будзе як ты сам, то гэта знак што ты павінен быць апраўданы—жыцьцё тваё прадоўжыцца.

І наступіў поўдзень і цень скароціўся вельмі.

З гордасьцю мовіў цар:

Цяпер ўсё ясна: ты павінен памерці. Засуджан ты двойчы. Не я цябе судзіў. Ня мной установлен прысуд. Я безстаронны быў. Я справядлівы!

Пераклаў В. Л.

---

ОСКАР УАЛЬД.

## Вучыцель.

Калі цемень агарнула зямлю, Язэп Арыматэйчык, з сасновым сьветачам у руцэ, зышоў з гары ў даліну. Ен кіраваўся да сябе ў дом.

І на жорсткіх камянях Даліны Роспачы, ён убачыў склоненага на каленях юнака голага і плачучага. Барвы мёду былі яго валасы, а цела — як белая краска; але ён пышамі параніў цела сваё і, замест кароны, пасыпаў валасы порсьцю зямельнай.

І валадар вялікай маетнасьці сказаў голаму і плачучаму юнаку: — я ня дзіўлюся таму, што гора тваё гэтак вяліка; таму што, безумоўна, Ен быў справядлівы чалавек. —

Юнак адказаў: Я плачу не па Ім, а па сабе. І я абяртаў ваду ў віно гаіў струпаватых і сьляпым вяртаў зрок. Я хадзіў па водах і з жыхароў пячэр выганяў нячыстых. У пустыне, дзе нябыло ежы, я карміў галодных і ўзьнімаў памершых з іх цесных дамовак—па майму загаду на вачах у множства людзей бязплодная ягадніца засохла. Усё што рабіў гэны чалавек, рабіў і я. І ўсё-ж такі яны мяне не расьпялі...

Пелаклаў А. С.

---

# Казкі.

### Аб сытой сьвіньні.

Тоўста сьвіньня стала, ўся пашла ў сала, пішчэць і то перастала, а бегаць ей хочацца горш першага. Пашла сьвіньня к доктару: „так і так“, кажа. Доктар загадаў ей травамі лячыцца. — „Трава, кажа, супроць сала здарова“.

Стала сьвіньня травамі лячыцца. Ад раньня да ночы траву жарэ, толькі, сала расьце.

Пашла сьвіньня ізноў да доктара: „так і так“, кажа. І доктар загадаў ей вадой лячыцца:—„Сплыве, кажа, сала вадзіцай“.

Стала сьвіньня воды піць, вада не тахціць, ад вады горш разсыцела.

Пашла сьвіньня ізноў да доктара—„так і так“, кажа. А доктар вялеў ей на сонцы ляжаць:—„Стопіць табе сонейка сальца з мясца“.

Пролежні наляжала, а яшчэ сыцей стала.

Што рабіць?...

І пашла тады сьвіньня да знахара. А той ей і кажа: — „Каб стала ты сьвіньня, здарова, не вада табе, не трава табе, не на сонцы ляжанка, а пуга ды палка, ды работа да поту,—дык сала бы і спала“.

## Дзед і ўнук.

Жыў дзед ды такі працавіты, што аж чорту стала завісна і быў у дзеда ўнук-дзяцюк, у хаце не сядзеў, працаваць не хацеў, не памочнічаў, а паўночнічаў. Дамоў толькі выспацца прыходзіў, а то ўсё на ігрышчах ды ў карчме.

Доўга дзед цярпеў ды ўгаварываў, не прыходзіць дзяцюк у розум. Узяло дзеда за жывое, ды і чорт з завісьці нацяміў. І прыдумаў дзед так: „што ўнук то дармо, а на мне ўсё ярмо, дык не бываць таму с сяго часу“.

Узяў дзед ўсё дабро і грошы і адзежу у карчму. І пачаў дзед гарэлку расьпіваць ды дабро прапіваць. Сьпярша ўнук абрадаваўся, кампаніі, маўляў, прыбыло, а пасьля, як у хаце ня топленай ды ня мецнай праспаўся, ды ўбачыў, што ні ладу ні дабра, прышоў унук у розум. А там дзед ўсю ноч гарэлку піў, ды народ сьмяшыў. Ходзіць дзед па кружалу, казыраецца. Стаў унук пад вакно ўгаварывае:

—„Ідзі, кажа, дзедка, дамоў, поўна хата шумы, як табе, старому, ня сорам!“.

А дзед яму:—„Быў я да сяго часу дурны, а цяпер ўжо не такі. Цяпер я ў карчме засеў, а ты што хочаш то і рабі!“

І стала с таго часу по новаму: дзед піў, прапіваў, а ўнук працаваў.

Чорту ўсё адно, што дзед, што ўнук не мінуе яго рук.

## Певень і гуся.

Заглядзеўся Певень на Гусю і да таго сказіўся, што не ў пару пеяць стаў. Куры вельмі ўстрывожыліся, гаманілі, раіліся. Пеўня лячылі,—не прыходзіць у розум.

Усе саромілі:

— „Лепей бы ты Певень, гарэлку піў“.

Раз у такі непрыстойны час запеяў певень, што самому сорам настала. І пашоў певень да знахара.

— „Памажы, кажа,—так мне Гуся палюбілася, што сонейку пеяць забыўся, куры праходу не даюць, жыцьцё абрыдла!“

— „А якая-ж такая твая ўлюбка?“—пытае знахар.

— „Ах! Мая краля-саколка сабой высока, галасок звонкі, хахалок тонкі, насок жоўты, вочкі як зоркі, ножкі чырвоныя, перайкі аксамітныя... Па травіцы ідзе—каліўца не пагне, а як сядзе на рэку—кука-рэку!

Бачыць знахар: саўсім спракудзіўся певень, напушчанае думае і кажа:

— „Ну і дурны-ж ты певень! Ты на сонейка доўга глядзеў і асалавеў... Ты што гэта мне нагаварыў? З тваіх слоў выходзіць—жар-птаха! А твая улюбка ўся як ёсьць гуся, ды і толькі! Такжа хараство знашоў! Сабой гарбата, нос як лапата, вочы як пацёркі, па траве як ідзе—земля гудзе. А ўжо што да „ку-ка-рэ-ку“, дык во табе, певень, мой сказ: ні тады ты, певень, павінен крычаць ку-ка-рэ-ку, калі гуся садзіцца на рэку, а павінен ты пеяць, пецел, як яснае сонца прымеціў.

Засароміўся певень, але ўзваротам пашоў паглядзець на гусю.

## Аб мядзьведзю і асінавым калу з голасам.

Здружыліся мядзьведзь ды асінавы кол з голасам. Здружыліся і разам на ўловы ходзяць. Мядзьведзю добра: што сам задзярэ, што кол забье, а ён, мядзьведзь, і зхрапае. Так яны два гады лавечылі, многа зьвярья накалечылі, а на трэйці год апамятаўся кол, дый кажа:

— Я, кажа, так-жа хачу сваё здаволеньне мець.

— А чаго табе трэба?—пытае мядзьведзь.

— Ды я і сам, кажа кол, ня ведаю!

Думалі, думалі,—кол ды мядзьведзь, — нічога не прыдумалі, адзін дурань, другі кол. І пашлі яны да вароны радзіцца. А варона кажа:

— Нельга, кажа, калу ніякага здаволеньня мець! Калі бье, ды ня рад, —гэта ужо апошняя справа... Ды ў кала на іншае і душы ня хопіць. Мядзьведзю—таму вун сколькі бруха дадзена, душы, жары, ды здавальняйся“...

Як пачуў гэткія словы асінавы кол, дык да таго зажурыўся, што мядзьведзю чэрап пашчапаў і сам аб яго разьбіўся.

Гэтак і скончыліся іхнія ўловы.

## Аб чорце бязродым.

Зажурыўся чорт бязроды: „чым я не як ўсе?“ І пашоў на зямлю радні шукаць. Туды, ды сюды, нет ведама куды. „Пайду, думае, да савы, яна птаха начная, можа і радня“.

Прышоў бязроды да савы. „Ось, — кажа, — ўвесь я тут! А можа ты мне цётка?“

Порскнула яму сава паміж вачэй:

—„Пашоў, кажа, паскуднік, я хоць начная, ды хіба-ж я такая? Я мышу лаўлю, а душ ня гублю!“

Вот, бязроды, і думае; „Пайду я да мядзьведзя, ён цяпло любіць, можа і радня“. Прышоў чорт да мядзьведзя:—„Вось, увесь я тут, можа ты мядзьведзь, мне дзядзька?“

Як ня вызьверыцца мядзьведзь:—„Ня ўводзь ў напасьць, ты чортаў сын, а то скуру зьдзяру! Я хоць ў кажуху груб, а ты—душагуб!“

Чорт і думае: „Пайду я да ваўка:“—Ось, кажа, я увесь тут, можа ты мне брат?“

Як заляскае на яго воўк зубамі:—„Пашоў к чорту, кажа,—а то разьдзяру! Я біць то бью, ды душ ня гублю, мне чорт ня брат!“

Куды-ж чорту ісьці, калі ўсе зьвярьё добрае?.. Глядзіць бязроды, ча-

лавек дровы бярэ;—„Дай, думае, хоць на сьмех папытаюся.“ — „Здароў, кажа, чалавеча, вось, увесь я тут, можа ты мне бацька родны“?

А чалавек падумаў, падумаў, ды-й кажа: — „Ты што-ж, байстро бязродае, ці што, будзешь?“

— А, кшталтам гэтага,—кажа чорт.

А чалавек падумаў, падумаў, дый пытае: —„А грошы ў цябе, чарцёнка, ёсьць?“

Бязроды яму:—„Гэтага дабра ў мене поўна гара!“

Як ня абойме чалавек чорта, ды як не загалосіць:—„А сыночак ты мой родненькі, хоць ты і з рагамі, ты з грашамі, хадзі-ж да мяне у хату!“

І зжылі чорт з мужыком грашовай сілай.

Перапрацаваў Т. О.

# Мысьлі Лабрюйера аб умысловай творчасьці.

1. Трэба старацца толькі аб тым, каб думаць і выражацца правільна, а не аб тым каб скланяць другіх да свайго густу і поглядаў: гэта было-бы лішне цяжкім прадпрыемствам.

2. Каб напісаць кнігу трэба быць майстрам, так сама як і да таго, каб рабіць гадзіньнікі.

3. Ня так лёгка зрабіць сабе імя выдатнейшым творам, як прымусіць цаніць пасярэднае, дзякуючы ўжо набытаму імю.

4. У мастацтве ёсьць свой пункт дасканальнасьці, так як у прыродзе ёсьць пункт дабраякасьці ці сьпеласьці: хто чуе і любіць яго, той абладае дасканальным смакам, а хто ня чуе і выбірае што далей або бліжэй яго, у таго сапсаваны смак, Есць, знача, добры і благі смак і спрачацца аб смаках можна.

4. Жыцьцё герояў збагаціла гісторыю, а гісторыя аздобіла дзейнасьць герояў, так што я няведаю, хто перад кім мае большы доўг: ці гісторыкі перад вялікімі людзьмі даўшымі гэткі ўдзячны матэрыял, ці вялікія людзі перад сваімі гісторыкамі.

5. Набор эпітэтаў—благая пахвала: факты хваляць чалавека, а ня спосаб апавяданьня іх.

6, Самы дасканальны твор, растаяў-бы ад крытыкі, каб аўтор яго хацеў верыць усім рэцэнзэнтам, з якіх кожды выкінуў-бы тое мейсца, якое яму найменш падабаецца.

7. Бываюць людзі выключна здольныя, з розумам на гэтулькі-ж шырокім, як і тое мастацтва ці навука, якім яны сябе пасьвячаюць. Дзякуючы здольнасьці адкрываючы новае, яны з навязкай вяртаюць навуцы тое, што атрымліваюць ад яе і яе асновэў. Яны выходзяць за традыцыйныя межы мастацтва, каб падняць яго, і адкланяюцца ад правіл, калі гэты правілы не вядуць да вялікага і высокага. Яны ідуць адны бяз кампаніі, але падымаюцца высока і пранікаюць далёка, заўсёды цьвёрдыя і самапэўныя. Натуры, пакорныя правілам, спакойныя, умераныя, ня толькі не дасьцігаюць іх вышыні, не захватваюцца імі, але і не разумеюць іх саўсім, а тым больш ня маюць жаданьня імкнуцца за імі: яны астаюцца спакойныя ў сваей сфэры і даходзяць да вядомага пункту становячага мяжу іх здольнасьцяў і веданьня; далей яны ня йдуць таму, што далей ня бачаць. Яны могуць быць першымі ў другой чарзе і выдзеляцца ў пасярэднасным.

8. Я радзіў-бы аўтору, роджанаму копістам і скромна ідучым у сваіх працах за кімколечы другім, выбіраць сабе за модэль толькі такія творы, ў якіх відаць розум, ваабражэньне і навет эрудыцыю: калі ён і не зраўняецца са сваімі арыгіналамі, то, прынамсі, прыблізіцца да іх і прымусіць чытаць сябе. Наадварот, яму, як падводнага камяня трэба ўнікаць патураньня тым людзям, каторыя пішуць „з натхненьня“.

9. Пісьменьнік які думае каб толькі дагадзіць духу свайго часу, клапоціцца больш аб сабе, як аб сваіх творах. Трэба не спыняючыся імкнуцца да дасканальнасьці, і тады патомнасьць здолее аддаць тую справядлівасьць, ў якой часам адмаўляе сучаснасьць.*)

---

ЯНКА ПАЛЫН.

# Аднабочнікі.

(Літэратурны нарыс).

## I.

... „У наш крытычны век трудна мець сталае пераконаньне. Сёньня яшчэ ведаеш, што істнуе Бог, што два разы два ёсьць чатыры, што істнуюць нейкія атомы, што зямля круціцца каля сонца, а заўтра, раптам, прыйдзе нейкі вучоны, можа толькі сьмелы махляр, разабье вашыя пераконаньні, веру дый дакажа вам, што Бога няма, што два разы два ёсьць пяць і г. д. і г. д.

„Каго падтрымаць, каму паверыць?...

„Ніхто, здаецца, так і ня выраша.

Яшчэ й цяпер, напрыклад, вучоныя спрачаюцца паміж сабой аб паходжаньню чалавека...

Адны вучоныя-багасловы—даказуюць, што чалавек зроблены з зямлі, другія, што ён паходзіць ад маўпы.

Гэтак, здаецца, чалавек і не даведаецца, ці ён з зямлі, ці з маўпы.

Адно пераконаньне, якое ўсё ж ткі трэба мець у нашы часы, ёсьць, здаецца, прычыннасьць падзей, нейкі прагматызм жыцьця.

„Здавалася-б ёсьць падзеі, якія ніяк ня могуць мець прычыны, алі ж як паглядзіш глыбей, дык пабачыш, што нічога бяз прычыны не бывае.

Напрыклад, усім вядома палітыка імпэратара Цэзара. Ніхто ніколі не падумаў бы, што такая малая прычына, як нос першай прыгажухі, Клеапатры. меў уплыў на ўсю рымскую гісторыю, а—між тым—гэта так. Каб нос Клеапатры быў на некалькі мілімэтраў даўжэйшы, можа ўся гісторыя пашла б інакш. Так сама, калі-б не зьляцелі анэкдатычныя яблакі з дрэва перад самым носам Ньютона, можа-б ён і не знашоў законаў прыцяганьня.

„Пад гэты закон прычыннасьці можна падвясьці каханьне.

„Чаму яно зьяўляцца? Таму, што прычынай ёсьць дзяўчына, ці хлапец?

„Заусім не... Таму, што ёсьць ціхія, заросшыя куточкі саду з асаблівымі паэтычнымі барвамі, з глыбокім нябесным сном—казкай, з невядомай таёмнасьцю стаўка, да якога дрэвы схілілі свае залёныя кароны і, бытцам думаючы глыбока, заснулі моўчкі,—таму яшчэ, што ёсьць вясна, калі кождая

---

*) Жан дэ-Лабрюйер вялікі францускі пісьменьнік XVII ст., радзіўся ў Парыжы ў 1645 гаду, памер ў 1696 гаду.

кветка сьмяецца і штосьці ґаворыць аб кволым, аб нябесным, аб каханьні. Ня было-б гэтай завадзі, ня было б каханьня, ня было-б паэзіі і, я думаю, ня было-б жыцьця"...

На гэтым мейсцы прамоўца спыніўся.

Гэта быў кіраўнік сёняшняга ўсепьянейшага кангрэсу, як яго звалі, студэнт Рабскі.

Высокі, з шырокімі плячыма, з раскошнымі доўгімі валасамі на вялікай круглай галаве, ён рабіў ўражаньне моцнага энэргічнага чалавека.

Куды толькі ён не пападаў, ён заўсёды пачынаў граць адну з першых роляў, выказуючы розныя, датуль яшчэ невядомыя таленты. Ен быў і весялун, і гумарыст, і сьпевака, і прамоўца, і арганізатар.

Каб не яго арганізацыйны талент, дык пэўна прыхеаўшае на вакацыі беларускае студэнцтва Энска (павятовага места Вітабшчыны) так і не пабачыла-б адзін аднаго.

Толькі ён яго разрухаў, злучыў і заахвоціў арганізаваць сьвяткаваньне...

Выбралі недалёка ад Энска прыгожы маёнтак, дзе Рабскі вучыцеляваў і меў кватэру, а затым у нядзелю й пачалі сваё „пьянейшае" паседжаньне...

Рабскі чуў сябе, як рыба ў вадзе. Прамова яго, як гаспадара, бытцам адчыняла сёняшні кангрэс і таму павінна была даць праграму дня.

Ня ведаючы, чым яе скончыць, ён спыніўся і пачаў пільна аглядаць сяброў.

Сярод цёмнай гушчы саду бялелі столікі. Некалькі галоў, схіліўшыся, ціха шапталі і ўсё з усьмешкай паглядалі ў староны. За адным сталом вялася нейкая надта вясёлая гутарка, так што паненка ажно занасілася ад сьмеху, кідаючы на кавалера іскрыстыя погляды.

За некаторымі столікамі падымаліся рукі з чаркамі, якія цішком ад другіх апаражнялі бутэлькі. Усім было дужа прыемна, што мовіцца прамова. — Што гэта значыць?—пытаў вясёлы погляд кождага.

Рабскі зразумеў значэньне гэтых поглядаў і таму далей перайшоў на самае істотнае.

—„Бяз каханьня няма жыцьця, бяз жыцьця няма паэзіі. Дзе каханьне, там і паэзія, і наадварот: дзе паэзія, там і каханьне. Хто згодны з гэтым, падымем свае чары вышэй і выпьем за каханьне. Слава!—

— Слава!—пракацілася па ўсяму саду і апошні водгук мужчынскага голасу дзесь зьнік у напаленым сонцам паветры.

За гэтай чарай пайшлі другія, а за імі пачаў пераліваццa ўсімі танацыямі малады гучны сьмех, які толькі вядомы аднэй загуляўшай моладзі.

Малады філалёг Лебядзёк даволі высокі, але худы юнак з шэра-блакітнымі вачыма, не даваў спакою сваей паненцы. Ен напружаў усю моц сваіх мазгоў, каб толькі задаволіць, зацікавіць яе, такую дарагую для яго істоту. Загінуў увесь глыбокі пэсымізм, засьмяялася зноў маладая фартуна, зноў запаліліся далёкія надзеі ..

Ен цешыўся, як дзяцёнак, калі спамінаў што сядзіць каля такой прыгажухі за адным столікам і адзін у яе шукае каханьня. Тут няма яму канкурэнта, тут яго, а не Рабскага, не каго іншага, гаспадарства.

Чаго толькі сьмешнага й арігінальнага сёньня ён не прыдумываў. Займаўся імпрaвізацыяй, перарабляў на свой лад беларускіх паэтаў, падбіраў сьмяхотныя запытаньні, прыказкі... А пачакаўшы; калі гарэлка пачала мацней ўплываць, ён асьмялеў і пачаў схіляцца да яе; ў рэшце й зусім нахіліўся.

— Багіня мая, сымвал паэзіі, сымвал хараства, дай мне ручку тваю пацалаваць.—

Ен браў яе за руку і, гладзячы, цалаваў ценкія, мяккія пальцы.

— Панове, сябры,—слова прашу, слова,—крыкнуў Лебядзёк, калі хмель яшчэ больш яго разабраў.

„Сябры! Я прапаную выпіць чарку лікеру за жанчыну.—

„Панове! Вялікая творчая прырода стварыла ня толькі чалавека, як ідэал скончанасьці, розуму, яна стварыла ідэал хараства, ідэал красы. Гэтакім ідэалам на зямле ёсьць жанчына.—

„Сябры! Што ёсьць вышэй на сьвеце за красу, што стаіць вышэй усяго на зямлі: жанчына! Перабярыце, панове, нават вышэйшыя панацьця і вы пабачыце, што яны ўсе жаночага роду. Воля, паэзія, навука, мараль, этыка, бацькаўшчына і шмат іншых. Хіба вы ня бачыце тут закону. Ня бачыце таго, што людзкасьць с прадвеку ўжо з жанчыны рабіла багіню красы і пакланялася ей. Паклонімся ж і мы сёньня перад жанчынай, перад ідэалам кволасьці, хараства й моцы.

„Я пью за жанчыну! Слава!—

— Слава!—зноў празгучэла яму ў адказ.

Зноў пачалі талохацца чаркамі, зноў палілася гарэлка, віно і яшчэ вальней пачула сябе кампанія.

Ўжо не адна галава ківалася над сталом, выйшаўшы з пад уселякай улады свайго гаспадара.

Абнімі ты мяне, дарагая,

Абніманьнем гарача—агністым,

—дэкламаваў Лебядзёк, цалуючы рукі сваей „багіні“. „Багіні“ так-сама пачынала ўжо кружыцца галава. Яна ўжо не памятала добра, што рабілася навокал, бо ў вушах штосьць зьвінела, гудзела і неяк пылала ў сярэдзіне.

Ледзь адышоўшы ад столу, яна зараз жа мусіла абапёрціся аб плечы Лебядзька.

— Пойдзем, прагуляемся,—сказала яна, калі Лебядзёк устаў, хіляючыся ад столу.

— Пойдзем, пойдзем, мая багіня, мая паэзія, пойдзем—і яны пайшлі.

— Ты ведаеш, я цябе ня сёньня кахаю,—казаў Лебядзёк па дарозе:— ты даўно ўладаешь маім сэрцам. Будзь таварышкай жыцьця майго, зоркай праводнай.

Зразумей, што маё сэрца сьціскаецца, плача, па табе, адзіная радасьць мая...—

Ен пахіліўся ды пацалаваў яе ў плячо. Яна ціха крыкнула і адняла сваю руку ад яго.

— Мы яшчэ ня так блізка знаёмы, сказала—яна: — ты сам толькі што казаў, што жанчыны—багіні. Хіба так паступаюць з багінямі. Ўсякі мужчына, нават такі ідэаліста, як ты, глядзіць на жанчыну, як на пахучую кветку, якую можна сарваць і прынясьці ў пакой, каб пахла. А потым, калі ссохне, выкіне вон... А ты зараз-жа памыкаешся да пацалункаў...

— Пачакай,—прамовіла яна:—ня думаў, што я нічога не памятаю. Хоць у мяне галава кружыцца, але ж я ў розуме...—

Лебядзёк зьмяшаўся. Ен думай, што сёньня, калі ён асьмялеў і калі а яе галава закружылася, будзе яго перамога... Ен здабудзе сабе права кў-

рыстацца яе каханьнем. Ужо з самага пачатку ён, знача, рабіў не тактычна. Але ён адважна зноў падыйшоў да яе.

— Слухай, мая ты каханая, мой квеце. Чаго ж ты на мяне гневаешся. Хіба ня можна да цябе прыміліцца?.. Ну, даруй мне, даруй... Дай руку тваю за гэта пацалаваць.—

Ен ўзяў за пальцы і паднёс руку да вуснаў. Яна не працівілася. Закрыўшы вочы, яна стаяла ня то, пакорная свайму лёсу, ня то, маральна вышэйшая за свайго прыхільніка.

— Пойдзем, сядзем, вун, каля бэзу,—сказаў Лебядзёк. Яна ціхай поступьпю пайшла з ім.

Яны ўвайшлі ў клёмбы і селі на траву, закрытыя ад сонца, ад людзей, ад усяго на сьвеце. Як тут было прыгожа! Зьнізу было цёмна, прахалодліва, а на версе, бытцам прыгожая страха вісела зялёнае лісьцьцьё. Дзе-ня-дзе праглядала сонца, граючы сваімі праменямі ды квола-блакітныя кавалачкі неба пазіралі ў люстра стаўка.

Лебядзёк, падаслаўшы плашч на траву, папрасіў сваю „багіню“, Кляру, сесьці і сам лёг кале яе. Адразу на яго тхнула водарам парфум і жаночага цела, невядомай яму нейкай смагі каханьня. Яму хацелася абхапіць Кляру, зацалаваць і ўзьнясьціся з ёй высока, высока ў царства ня сёняшных мар. Ен з нейкай хваравітасьцю глядзеў на галоўку Кляры, на яе спушчаныя павекі і хоць хацеў прытуліцца, але нясьмеліўся... Яна сама яму дапамагала.

— Ох, як мне цяжка пасьля гэтых напіткаў,—казала яна: — галава баліць. Дрэнна. Спаць хачу. Дай дзе-небудзь прылегчы.—Ен ўзяў яе галаву й палажыў сабе на грудзі. Яна не пярэчыла. Сьхіліла галаву і закрыла вочы... Толькі чуў Лебядзёк падыманьне ды апушчаньне яе грудзей... Ен ляжаў і глядзеў на неба, на кусты, на паснуўшую прыроду і яму, паказалася што жыцьцё ёсьць толькі паэтычны сон, які нам, атомам адвечнасьці, сьніцца толькі адзін раз. І як прыйдзе час цьвярозасьці, час сьмерці, мы зноў ідзём у свой заўсёдны сьвет, называючы гэтую прозаічную зьмену—сьмерцьцю. З гэткай істотай, так прыгожа, так добра жыць!.. І няўпрыцям вочы яго сталі вузейшымі, ўрэшце яны зусім зачыніліся.

Калі узбудзіўся, ён з жахам падняў галаву. Было ўжо цёмна... На ставок, на траву ляглі доўгія, начныя цені. Зімныя каплі расы ўжо пачыналі зьбірацца на галінах. Рабілася вільготна. Кляра ўсё яшчэ соладка спала. Лебядзёк падняўся, потым знова лёг. Хмель трошку прайшоў... Успомніў ён, як тут апынуўся. — Вось і нядачнік, пэсыміст!.. Ну, ў добры час!, падумаў ён і з усьмешкай паглядзеў у гару... Зноў зачыніў вочы, зноў падняўся... Трэба было аднак думаць, што рабіць з Кляраи. Спаць было немагчыма, бо надышла ноч. Разбудзіць яе ён не адважаўся. Падумаўшы крыху, ён рашыў нясьці яе на руках сонную да кампаніі і пакінуць у Рабскага на кватэры. Паціху ўзяў ён яе абедзьвемі рукамі, падняў і як нейкі скарб панёс. Яна збудзілася. Павяла соннымі вачыма навокал, зноў зачыніла іх, а потым, як бы спамінаючы штось, запытала сябе:

— Дзе я? дзе ж?—

— Ня пужайся,—адказаў Лебядзёк. — Ты са мной. Мы йдзём да Рабскага, пераначуем, не пужайся...

— Абымі шыю рукамі, лягчэй будзе ісьці...

— Мы хутка прыйдзем. —

Яна абхапіла яго сваімі цудоўнымі рукамі. Зноў зачыніла вочы. Лебядзёк быў на сёмым небе.

Ня ведаў, як ішоў. Ведаў толькі што сёньняшні дзень яго вялізарны паэтычны сон усяго жыцьця.

Гэтакія моманты не паўтараюцца...

І карыстаючы з іх, ён цалаваў яе...

II.

Калі ён прышоў з Клярой у сад, было зусім цемна. Большасьць кампаніі была разышоўшыся. На століках стаялі парожнія бутэлькі, талеркі, пабітыя шклянкі, валяліся кавалкі недаедзеных пірагоў, мяса, розных іншых перакусак. Навокал было накідана паперы, сьмяцьця... Карацей кажучы, агульны абраз пасьля гульні...

Але ўсё ж ткі яшчэ было вясёла. Усе, хто быў, чыста апьянелі і таму сьмех не на адну хвіліну не прарываўся. Рабскі пушчаў агнямёты.

Чароўнай стужкай узьвіваліся яны ў паветры, пужаючы цемру і гэтак жа прыгожа ляцелі на зямлю пад прывітаньне прысутных.

— Прыгожа! Слава!,—крычалі й ценкія й грубыя галасы.

— Дзіўна, дзіўна, дзіўна,—басіў тэхнік Камяловіч.

Непрызнаны паэт Сухавейка меў выпадак выпаліць экспромт:

— Ты сіпіш як зьмяя Агнямёту
й спадніцай і словам сваім...
Але-ж не... І з тэй вышкі палёту
Ўсё ж паклонішся вочкам маім.—

Валасны пісар Сьвінка Анэмфадзім гутарыў з тэхнікам Плаўскім.

— Яно ведама,—казаў ён, калі цемра асьвяцілася вялізарным сьвятлом агнямёту,—прыймаючы пад увагу, што зямля кружыцца каля сонца ў трыста шэсьцьдзесят пяць дзён, пяць мінут, сорак шэсьць хвілін і таму падобнае, значыцца, агнямёт мусіць адхіліцца ад свайго шляху... гм... таму падобнае.

— У-у-ух ты, як бахнула! Брава!—крыкнуў ён, што было моцы. Язык яго ледзь ўжо рухаўся, думкі блуталіся. Але ж ён належаў да тых людзей што як выпьюць дык, пачынаюць кождага чапаць і асабліва ахвотна апавядаюць аўтабіаграфію.

— Калі прыняць пад увагу, — пачаў зноў пісар: — што ў дзесятым, ці адзінадцатым годзе нашага стагодзьдзя, і таму падобнае, мелася зьявіцца камэта Галлея, дык, браток ты мой, што тады пачалося тварыцца... Я памятаю, што ксяндзы ў касьцёлах гаварылі казаньня аб сканчэньні сьвэту, аб прыходзе Антыхрыста, браток ты мой!.. Пісалі кнігі гэтакія, лістоўкі... Як пачалі мы тады гуляць, і таму падобнае, дык што толькі не рабілі. Апошняе прапівалі. Канец сьвету, дык канчай ўсё... Хай будзе запраўды канец сьвету...

— Аж не... Прыймаючы пад увагу, камэта чамусьці не зачапіла зямлі, нас, і таму падобнае. Але ж мы на славу, браток ты мой, пагулялі — з мужыкамі гулялі..

— Люблю, браток, сваіх мужыкоў... Ну, вось так люблю, што...“

Ен палез цалавацца да Плаўскага.

— Прымаючы пад увагу, браток ты мой, ну мы ўсе ж людзі, ўсе брацьця. Ведаеш, я ўсё магу зрабіць... Прыедзе мужык, папросіць паса, або там, разумееш, розныя падаткі. Пісар ўсё зробіць...

— Прынясі толькі троху гарэлкі ды перакускі, ну, скажам, парасёначка, яблачкаў, адным словам будзь чалавекам і таму падобнае; разумей, што ўсім трэба жыць, што дарма нічога ня робіцца. І ўсё добра... І я жыву, з кождым жыву... Прыймаючы пад увагу, і таму падобнае...—

Тут ён ня мог прадаўжаць думкі...

Галава яго нізка сьхілілася над сталом, ён пачаў ікаць і зваліўся з лаўкі. Плаўскі яго падняў, і пасадзіўшы на мейсца, адышоў...

З усяе кампаніі адзін толькі тэхнік Камяловіч быў мала падгуляўшы. Праўда, ён добра й „цягнуў“ гарэлку, бо быў моцнага фізычнага складу, вялікі, румяны з вясёлымі вачыма. Але ж сёньня яго цьвярозасьць тлумачылася простым спазьненьем. Калі ўжо большасьць ледзь трымалася на нагах, ён яшчэ толькі пачаў выпіваць. Паненка, з якой ён даўно быў знаёмы, сядзела за столікам неяк сумна. Яна чакала Камяловіча. Пабачыўшы яго, яна раптам зьмянілася. Вочкі яе зайгралі, заблішчэлі. Абліччa, не вызначаючаеся хараством, асьвяцілася нейкай сымпатычнай жывасьцю.

— Вы пэўна зачакаліся?—запытаў, падыходзячы да століка Камяловіч.

— Але... Я вас доўга чакала...—

Ен падышоў, пацалаваў яе ручку і, прывітаўшыся з другімі, нахіламі галавы, сеў блізка каля яе.

— Бачыце, выпьем чарачку за нашую парачку. Вы, здаецца, ня пілі без мяне зусім. Ну, добра, цяцер мы будзем другіх даганяць. Перакусім. Якое вам віно больш падабаецца, чырванае, ці белае?—

— Мне? Гм... Чырвонае,—адказала паненка, ня ведаючы добра, што ёй адказываць. Камяловіч спыніўся, ня маючы матэрьялу для размовы. Усе думкі яго неяк выляцелі адразу, калі ён сеў за стол перад гэтай жанчынай.

Ен думаў, думаў, але ня мог прыдумаць нічога важнага. — Не аб гэтых жа, чорт пабяры, гаварыць з ёй,—разважаў ён:—ну... зараз, гаварыў аб віне. Яшчэ штo б гэтакае?... Пятрушка, моркаўка, мяса, катлеты... Ага, піражкі.

— Скажыце,—сказаў ён моцна:—як вам падабаюцца мясныя піражкі?—

— Гм... Нічога... Дужа добра,—адказала паненка.—

Зноў паўза.

— А ведаеце, я дужа люблю зайца з брусаніцамі. —

— Але... Заяц з брусьніцамі ніштo. Смачна. Я бы й цяпер з апэтытам зьела. —

— Але-ж што за час прыйшоў... Якая дарагоўля... Няма нічога... Ну штож мы да свайго будучага вясельля справім?—казаў Камяловіч.

— Вы ўжо і на вясельле пераехалі! Яшчэ бацькі нічога не адказалі, а вы сваё. Будзе час, усё будзе. Цяпер ня тое, што раней. І з бульбы піражкі зрабіць можна. Я дужа люблю бульбяныя піражкі на масьле...—

— Але, мая дарагая.. Добра будзе і бульбяныя... Я іх таксама люблю... Але што ж мы... Загутарыліся... Трэба даганяць...—Ен наліў па чарцы віна...—Аб чым тут яшчэ гутарыць?—думаў ён паміж тым:—піражкі, заяц... пятрушка... Пачакай?.. Што ж я чытаў такога... Ага... Памятаю. Штось пра Ніцшэ чуў. Думкі аб жыцьці... Ну, вось, як небудзь разгутарымся... —

— Мне здаецца,—пачаў ён:—філёзофія—цяжкая рэч, правядловяй...—паправіўся ён:—непатрэбная рэч... Мне нічога не падабаецца... Адзін толькі яшчэ Ніцшэ. Той хоць заве жыць тут на зямлі. Няма, кажа, магчымасьці жыць, дык зрабіце, кажа, іллюзіі жыцьця. Вось, разумееце, як сказана. Або, кажа адківаць уселякую няверу ў сваю моц. Вер, бо маеш дзесяткі сходняў, па якіх дойдзеш да веды... чаго больш... Жыві, ды й ўсё тут.. —

— Ня люблю я Ніцшэ. Дужа цынічна ён кажа аб жанчынах... Арыгінальны ён варьят і больш нічога. —

— Так... Арыгінальны... Але ж аб жанчынах ён кажа праўду... Дарагая мая... На што ж нам філёзофія. Далібог, ня прыемна будзе бачыць у вашай асобе адваката... але ж затое, як будзе прыемна пабачыць вас гаспадыняй... і есьці зробленыя вашымі ручкамі пиражкі...—

— Пачакайце, пачакайце, ня спрэчайцеся... Выпьем яшчэ... Трэба даганяць...—

Паненка, ўся пачырванеўшы, сядзела на лаўцы. Яна глядзела на гэты тары, рамантычны сад, у які ўжо схадзіла ноч са сваімі доўгімі ценямі, са сваім цудоўным месяцам, і хацела толькі спамінаць, адчуваць.

— Каб усе дні жыцьця былі-б гэтакія, як сёняшні,—падумала яна — бы сказала: што жыцьцё ёсьць рай.—

— Ведаеце, што,—пачула яна як праз сон голас Камяловіча:—мне ўсё-ж кі заяц з брусьніцамі падабаецца лепш за ўсё, навет за Ніцшэ. Яно то й нічога бульбяныя піражкі, зробленыя вашымі ручкамі... Але ж заяц ды яшчэ з брусьнічкамі.—

— Ах... Слухайце. . Ці можна цяпер гаварыць, аб зайцу. Гэткая дарагоўля... Цяпер ня толькі бульбяныя піражкі на масьле, нават і бульба з капустай добра.—Дужа добра... Мне вельмі падабаецца..—

— Але,—сказаў Камяловіч,—наліваючы яшчэ па чарцы,—добра будзе й бульба з капустай... І мне падабаецца.—

Якраз у гэты момант падыйшоў Рабскі.

Ен быў ужо зусім вольны ад усякіх абавязкаў гаспадара. Нікога з госьцей не было: Лебядзёк пайшоў да хаты ў Энск, Кляру, якая жыла такжама ў горадзе, ён адвёў на кватэру; рэшта спала на сене. Аставаўся толькі адзін Камяловіч з паненкай.

І таму ён падыйшоў троху пагутарыць.

— Вітаю, сказаў ён, параўняўшыся з імі... Чакаеце пакуль месяц ўзойдзе?... Рамантычная прырода, рамантыкі людзі!

— Дазволіце?—казаў ён, паказуючы на лаўку.

— Калі ласка, калі ласка,—адказалі Камяловіч з паненкай разам.

— Ну, дык вось... Хутка месяц ўзойдзе... Раскошна будзе... Вы давайце свае напіткі, даядайце перакуску...

— Калі хочаце можаце начаваць у мяне; — ты на сене, а панна ў пакоі... пакуль што частуйцеся, не зьвяртаючы ўвагі на мяне... Я толькі эпізодычная асоба цяпер.—

— Выпьем усе разам, дзе там ня йшло,—сказаў Камяловіч, дастаючы з пад столу бутэльку моцнай гарэлкі.

— Выпьем, дык выпьем,—прамовіў Рабскі і начаў добрым тэнарам вядомую маскоўскую песьню, перарабляючы на беларускі лад:

— Мой бацька быў стралок,
А я—яго сынок.
Страляў ён птушанят,
А я страляў дзяўчат.—

— Ха-ха-ха, вось гэта пра вас якраз, сябра Камяловіч. Страляеце ўсё страляеце,—казаў Рабскі, апаражніўшы чарку...—Але ў гэтым толькі дробная маскоўская іронія... Больш няма нічога... Затое нашая народная, беларуская песьня, э-эх! тут табе й гумару, і сацыяльных пытаньняў...—

І яны доўга сьпевалі усім вядомую песьню. Сьпевалі так, як сьпеваюць людзі з добрымі галасамі, калі яны добра прамачылі горла. Пэўна та-

му й белы месяц, усьміхаючыся, ціха выплыў на неба. Асьцярожна, бытцам хаваючыся, падплыў ён да хмары бліжэй, каб паглядзець на сьпевакоў, і сярэбраныя прамені асьвяцілі „тройку“.

Гэ-гэ,—закрычаў Рабскі,—вун ён і хітры месяц ўзышоў.

Ці ня час нам ужо расхадзіцца? Пойдзем!.. Ці аставайцеся... А я пайду..

— Не, мы таксама пойдзем,—сказала паненка Камяловіча.

Яны памалу пайшлі да хаты.

III.

На другі дзень пачаўся „самааналіз“. Хто ўстаў зусім хворы, так што ні цытрыны, ні кіслая капуста, ні агуркі не памагалі і прышлося пралежаць, енчучы, цэлы дзень. У каго балела толькі галава, ад чаго лячыліся тэй самай гарэлкай. А былі й такія, у якіх балела адна толькі сьвядомасьць. Да іх належала „багіня“ Лебядзька—Кляра.

Пры ўспаміне аб учарайшым на твары яе зьяўляліся то белыя, то чырвоныя плямы. Яна не памятала, што было ўчора; памятала толькі, што йшла за Лебядзьком, што па дарозе Лебядзёк пацалаваў у плячо, што яны разам сядзелі на траве каля стаўка... А далей—туман, імгла...

Толькі адчувалася ёй, што здарылася шмат непараднага і злосьць на сябе за блізкае дапушчэньне Лебядзька кіпела ў яе грудзёх.

Яна—такая квеціна з надзвычайна прыгожай галоўкай, з цудоўнымі блакітнымі вачыма, магла дазволіць думаць Лебядзьку, што кахае яго.

Ен, той, Лебядзёк, нязграбны мядзьведзь, з доўгім, вузкім тварам, што закручываўся неяк падбародкам, ён, гэты мядзьведзь, які ня ўмее трымаць сябе ў грамадзянстве, адважываўся яе цалаваць. Плямы выступалі на яе твары.

Яна падыйшла да люстра. Перад ей была, бязумоўна, прыгожая, кволая істота. Са смакам апранутая ў раскошнае дэкольтэ, са стройна абутай ножкай, у шаўковых пантофліках, яна запраўды прыпамінала „багіню“. Не адзін хлапец пэўна йшоў бы паміраць за яе і памёр бы толькі з імянем яе на вуснах, так яна была прыгожа! І яна з самаздаволеньнем глядзела у люстра...

— Ага, вось што,—сказала яна адвярнуўшыся ад люстра, пазаву яго да сябе... Пагутару, памучаю і ўрэшце адпушчу, каб ня сьмеў ня толькі думаць, але й жыць тут. Зраблю бязумоўна...

Яна падбегла да пісьменага стала й шпарка, нэрвова пачала пісаць:

— Дарагі Лебядзёк! (Выбачай, ня ведаю твайго імя). Прыйдзі сёньня ўвечары а гадзіне шостай. Буду адна... Пагуляем... Чакаю... Твая Кляра.—

— Адэльця! крыкнула яна сваёй пакаёвай, злажыўшы, запіску.—Аднясі, будзь ласка, да Лебядзька, ведаеш, дзе жыве?.. Ну, вось... Пачакай толькі адказу. Калі не на запісцы, дык на словах..—

— Ну, бяжы!—

— Цікава даведацца,—пачала яна на самоце разважаць: — як ён аднясецца да ўсяго гэтага, да слова „пагуляем“. Чаго ласьне, ён ад мяне хоча.. Пэўна аднаго цела... Дзе такім мужчынам шукаць духовага багацьця... Што-ж?.. Сёньня даведаюся... Навяду пастку...

І яна некалькі разоў прайшлася па пакою.

— Вось што,—пачала яна голасна:—апрануся больш лёгка... Што тут прыдумаць гэткага хітрага. — І з небывалай яшчэ ніколі злоснай энэргіяй, яна пачала прыбірацца.

Праз гадзіну вярнулася Адэля і сказала, што Лебядзёк быў зьдзіўлены і што згадзіўся, як яна бачыла, з радасьцю... — Ен трошку хворы пасьля ўчарайшага,—адцеміла яна.

Пачаліся шпаркія падрыхтаваньні, за якімі яны не пабачылі, як падыйшла чаканая гадзіна. Адэля выйшла. Кляра засталася адна. Ціха чыкаў гадзіньнік. Неяк таемна стаялі пальмы ў вазонах і папугай у зялёнай клетцы, прыслухваючыся, глядзеў на іх.

Сонца кідала свае апошнія залатыя прамені. Стала неяк сумна і нават жахліва.

Кляра сядзела, ня рухаючыся, на канапе і з нецярпеньнем чакала прыходу.

Раптам пазванілі... Сэрца Кляры неяк забілася, сьціснулася і ледзь-ледзь яна ўтрымалася на нагах. Яна ўсё ж ткі хутка падбегла і адчыніла дзьверы. Перад ей стаяў Лебядзёк, прыбраўшыся, пачысьціўшыся ... і зьмяшаўшыся. Ен першы раз бачыў яе ў такой вопратцы і так зьмяніўшыся.

— Добры вечар, як непрытомны працадзіў ён. —

— Добры вечар. Заходзьце.—Яна правяла яго ў пакой і села зноў на канапе каля вакна.

— Вы трошку спазьніліся, праўда? — пачала яна, зьвяртаючыся да яго на вы:—я вас чакала дужа.

Аднэй было сумна... Я думала ўжо, што ня прыдзеце. Але то нічога... Троху пасядзім, пагутарым. Ведаеце, мне аднэй дужа не прыемна, сумна неяк ня свойска. Сёньня вы вольны, праўда?..

Мы пасьмяёмся, пазабайляемся, добра?

— З вялікай прыемнасьцю,—сказаў Лебядзёк.

— Я часткова ў вашым становішчы і тым больш прыймаю вашу прапазыцыю. Я пад вашым загадам... —

— Ну, вось і добра. Знача я зноў багіня, а вы толькі паж. І цудоўна! Сваё права я скарыстаю. — Яна залажыла нагу на нагу і рысы пекных ножак яскрава адзначыліся.

Лебядзёк удаваў, што не бачыць і глядзеў у яе вочы.

— Прыемна будзе дазнацца, як вы скарыстаеце,—засьмяяўся ён.

— Пачакайце... Трэба да вас падыйсьці дыплёматычна... Не магу-ж я адразу схапіць быка за рогі. —

— Эт, як сказалі?.. Знача вы мяне хочаце схапіць і прыймаеце за быка. Трэба быць з вамі асьцярожным. —

— Нічога вам не паможа, ні ваша асьцярожнасць, ні ваша хітрасць, бо ў мяне ёсьць засабы такія магутныя, што ўсё перамогуць. —

— Скажыце, — вымавіла яна троху пачакаўшы і пільна гледзячы на Лебядзька,—кахалі вы дагэтуль каго-небудзь, ці не?—

— О—ё! як ставіце пытаньне. Не магу адказываць усё ж ткі. Не памятаю... Здаецца... не.—

— А цяпер кахаеце каго-небудзь? —і нейкая ўсьмешка, зьмяшаная з энэргіяй, засьвяцілася ў яе вачах.

— Гэта, завецца, схапілі мяне за рогі? Але я дазволю сабе не адказываць. Не магу вам выказаць сваей тайны...—

— Ну, ня можаце, дык як хочаце. —

— Скажыце, будзьце ласка, мне адно: каго вы цалавалі ўчора ў

плячо? — Яна зноў з усьмешкай паглядзела на Лебядзька. Той ад гэтакага пытаньня заёрзаў у крэсьле. Твар лёгка пачырванеў, але хутка зноў прыняў нармальны выгляд.

— А хіба-ж вы ня ведаеце,—адказаў ён, злуючыся.

— Што й пытаць, калі самі добра ведаеце... —

— Ласьне... Я толькі сама хачу сказаць, каго вы кахаеце, хто сядзіць у вашым сэрцы... Якія ж тут яшчэ тайны!.. —

— Дык вы хочаце й напіраеце на тое, каб я сказаў, што—вы. Хай будзе так. —

— Ня тое, што я хачу, каб вы сказалі чаго ня было, ці няма. Канстатуйце факт. Ну, скажыце, чаму вы пацалавалі мяне ў плячо? Чаму? Не таму, што кахалі, не таму? Дзеля гульні, ці што?—

— Ох, не пытайце так... Дзе вы навучыліся гэтак вясьці дапросы? Хіба я магу адказываць на гэтакія пытаньні...

— Для чаго, ласьне кажучы, вы клікалі мяне?—

Ен пачаў стукаць пальцамі па крэслье.

— Слухайце, — Лебядзёк. Не хачу я вас ні дапрашываць, ні ведаць вашай тайны. Скажыце мне адну толькі праўду.—

Яна села ў крэсла, каля крэсла Лебядзька...

— Толькі праўду! Што вы рабілі са мной, калі я ўжо нічога не памятала... Я памятаю, мы сядзелі на траве, каля стаўка. А больш нічога не памятаю.—

— Ну, што я вам, ці з вамі, мог зрабіць. . Вы заснулі і я заснуў... А пасля прыйшла ноч...

Я вас правёў да Рабскага ў пакой... Ў усё... Цікава! Што я вам мог зрабіць?...

— Знача, вы спалі... Вы, здаецца, былі моцна падвыпіўшы... Хіба вы памятаеце ўсё, што рабілі... Але ж вы праўды ня скажаце...

— Цікава толькі, — пачала я на зноў. Адно цікава, чаму вы мяне пацалавалі ўчора. Ня ўжо не адкажаце?..

Яна квола схіліла галоўку і вабна пачала ўглядацца ў яго вочы. Ножка між тым мімавольна даткнулася да яго нагі. Лебядзёк хацеў прытуліць яе ў гэты момант і зацалаваць. Але павінен быў устрымацца.

— Чаму ж вам так хочацца ведаць, не разумею. Чаму вы на гэта напіраеце,—казаў ен: — няўжо ня ведаеце, вы ж самі сказалі, што ведаеце, як запаланілі маё сэрца. Чаго ж яшчэ? Якіх прызнаньняў чакаеце? —

— Ну, дык вось! Дзякаваць Богу, так-гэтак сказалі... Знача вы мяне кахаеце... Але як вы мяне кахаеце? — пытала яна ўсё з тым самым кволым нахілам галавы,—моцна, ці не?

— Але ж вы ўжо занадта,—адцеміў Лебядзёк.

— Здаецца, маеце справу з маім сэрцам і маімі нэрвамі. Я пайду, калі так. —

— Так і пойдзеце? Ці ж праўда? Пойдзеце і не пажалееце? I мяне кінеце, якую кахаеце, вашую багіню сэрца? А? Пойдзеце?.. —

— Прымушаны буду пайсьці... Дзе ж. Гэтакія пытаньні. Даведаліся, што я кахаю, а цяпер яшчэ хочаце ведаць, як моцна. Хто ж так пытае?

— Але ж сказаўшы адно, ня цяжка сказаць другое. Каго ж пужаецеся? Скажыце, я вас прашу, не адмаўляйцеся! —

Яна схапіла яго за руку.

Лябёдзька як агнём запаліла.

— Ну, калі ўжо так просіце,—скажу: моцна!

— Ну, а пакажаце, як моцна?—

— Што за глупства, праняслося ў галаве Лябёдзькі:—чаго яна хоча. Дзіўна. Я б ей паказаў, як я кахаю.

— Дзіўна, прамовіў ён. Усё дзіўна. І вашыя пытаньні, і вашая запіска, і вашае захаваньне... Абсалютна нічога не разумею.—

— Вы ўсё не разумееце. Чаго ж вы хочаце? Самі кахаеце ды яшчэ моцна. А паказаць нават тут, калі мы. на самоце, ня можаце. Пакажацэ, ці не? А то я пайду.—Ну, пакажыце, як моцна? —

— Паказываць ці не паказываць,—думаў Лебядзёк.—Я сам даўно хачу паказаць, як кахаю. А тут яшчэ яна сама просіць. Але ж ці будзе добра, бо відаць, яна штось задумала.

— Дык хіба вы не пакажаце? — Ну, пакажыце, як моцна. ня ўжо цяжка?—не адставала яна.

— Хочаце ўсё ж ткі... Ну, пакажу. — І ён абхапіў яе гібкі стан потым прыпадняў і пачаў моцна, салодка цалаваць.

— Годзі, годзі... Добра... Бачу... — шаптала яна ў ягоных абоймах. Ен адпусьціў яе і сеў зноў на крэсла. Яна падыйшла да люстра і пачала папраўляць валасы.

Ен радасна глядзеў на яе й думаў, які ён шчасьлівы, прынамсі будзе шчасьлівы. Цяпер ужо няма ніякага сумлеву, што яна яго кахае, бо сама прагнула яго каханьня. А яна пасьля яго каханьня толькі з агідай спамінала пацалункі... Цяпер ужо біцьцё сэрца прайшло, ўся нясьмеласць згінула... Засталася толькі вялікая злосць на чалавека, зрабіўшагася абрыдлым...

— Вось, цяпер я бачу, як вы мяне кахаеце, — казала яна, падходзячы да канапы... — Вось вам і нашае першае каханьне. Найлепшае, што ёсьць на сьвеце... О, вы, здаецца, ўмееце казаць на гэту тэму.—

— Казаць ня ўмею... Здаецца, ўмею толькі выказываць.—

— Ах, вось як... А я нават падумаць не магла... Паглядзеўшы на ваш твар і мядзьвежую фігуру, так цяжка падумаць...—

Лебядзька штось балюча ўшчыпнула. Але ён прыняў гэта за жарт.

— Няўжо пасьля таго. што было, можна так казаць, пачаў ён. — Давайце пагаворым сурьезна.—

Ен устаў і падыйшоў да яе.

— Я вас бязмежна кахаю. Каб я быў цар, кінуў бы карону да вашых ног, бо вы ёсьць вышэйшае за ўсё на сьвеце, вы ёсьць хараство. Цяпер я маю толькі адзін скарб: жыцьцё і яго я кіну да вашых ног. Што ж вы яшчэ хочаце? Чаго, якіх прыхільнікаў шукаеце. Я веру, пасьля ўсяго, што было тут, што вы так сама мяне...—

— Годзі, годзі,—прарвала яна.—Што за сэнтымэнтальнасьці. Нават не магчыма падумаць, што вы такі сэнтымэнталіст. Кажаце старымі зьбітымі сказамі. Кінеце ўсё да маіх ног,—жыцьцё сваё і г. д. Дзеля чаго мне вашае жыцьце? Вы—майстры казаць толькі такія словы, а потым, калі ня жыцьцё трэба ад вас, а толькі супрацоўніцтва, дык з вамі проста жыць ня можна, да таго вы слабенькія. Ня мужчыны, а якаясь надаедлівая камэдыя. Дзе ж жыць з вамі?—

— Я ўсё ж ткі вас не разумею... Быў момант. Здавалася шчасьце так магчыма, а цяпер вы...—

— Пачакайце, — сказала Кляра, ўстаючы. Лябядзёк сеў. Яна пачала хадзіць па пакою.

— Скажыце мне адно, толькі адно. Ня трэба мне ні вашага жыцьця, ні вашай кароны, нічога абсалютна. Толькі скажыце па праўдзе. Што вам ва мне падабаецца, што вы кахаеце? —

Яна стала перад ім, гледзячы цьвёрда ў вочы. Вусны яе былі сьціснуты. Твар бледны. Толькі цяпер Лебядзёк пабачыў усю роскаш маладога, здаровага цела. — Што ей сказаць? Ясна, што мне падабаецца,—думаў ён і малюнкі з мінулага жыцьця плылі перад вачыма.

— Адно слова, толькі адно слова,—сказаў ён, складаючы рукі на грудзёх.—Толькі выслухайце мяне... Сядайце, калі ласка...—

Яна ня села.—Кажыце, кажыце, я слухаю, — прамовіла толькі і пачала зноў хадзіць па пакою.

— Дарагая мая... Мы з вамі знаёмы ня сёньня... Памятаеце яшчэ трынадцаты год у Петраградзе. Нашае першае знаёмства... Успомніце толькі паседжаньня беларускага гуртка.. Як блізка мы былі, як вясёла гутарылі... Няўжо гэта для вас нішто... Мы ж так даўно бачыліся... А цяпер... Ня ўжо вы сурьезна?.., Малю... Не разьбівайце майго і уласнага шчасьця... Мы абоя будзем шчасьлівы...—

— Што за трафарэтнасьці,—перарвала яна са злосьцю...—Гаворыце, як гімназіст... Напіраеце ўсё: бачыліся, бачыліся... Гурток... Дык хіба я магла з вамі не размаўляць... з усімі сябрамі гаварыла, гаварыла і з вамі... Вы зноў енчыце... На што ўсё гэта? —

— Маё вам апошняе слова... Я бачу, што ўсё ж ткі надзея мая звалілася, загінула... Я быў яшчэ такі ідэаліст, што верыў у вашую мяккасьць... не мяккасьць, але не такую... не такую каменнасьць сэрца... Я бачу, што я разьбіты і ашуканы... Але ж... Хачу яшчэ ведаць адно..—Кляра перастала хадзіць і стала перад ім.

— Толкі адно...—Лебядзёк падняў голас.—Калі б вы пабачылі, што гіне чалавек і што толькі вы адна, адно вашае каханьне, можа яго ратаваць, зрабілі-б вы ахвару, пакахалі-б яго, ці не...—

—Ахвяру?... гм... Кахаць толькі дзеля ахвяры?... о, гэта такая вялікая ахвяра... Няўжо вы яе ад мяне чакаеце... Вы хочаце, каб я прыйшла да вас, як матыль на вагон, толькі апаліць крыльлі?... Тады вы, праўда, ідэаліст... Шкодны ідэаліст...—

— Слухайце... Я б не казаў усяго гэтага, каб вы ня былі маей апошняй саломінкай... Верце... Прайшло ўжо шэсьць, сем гадоў ад нашага спатканьня... Я—ня той.

— Ступіць ня маю куды... Верыце... Раз хацеў страляцца... Для мяне няма жыцьця... Вы бачылі, які я быў сумны, калі прышоў на гульню... Толькі вы зрабілі мяне вясёлым... І толькі вы можаце мяне вярнуць да жыцьця. Інакш сьмерць...—

Яна хацела штось сказаць...

— Пачакайце, калі ласка... Я зараз скончу... Сказау, што вы сядзіцё ў сэрцы яшчэ з 905 году... Мне было тады толькі дзесяць гадоў... Вось гэты самы Энск... падымаюць дырэктара гімназіі, каб выкінуць праз вакно.. Я пужаюся... бягу ад вучняў на вуліцу і... спатыкаю вас, стройную гімназістачку з доўгай касой... Яшчэ тады я зрабіў з вас багіню... Няўжо цяпер...

— Паверце мне, далібог, вы мая апошняя саломінка...

— Я згублю сябе...—

— Ах, які надаедлівы сум... Няўжо вы мяне хочаце расчуліць... Я добра ведаю, як кожды мужчына кажа: „застрэлюся“, „павешуся“, „гіну“, „ратуйце“, каб толькі расчуліць жаночае сэрца...—

— Дарма...—Яна адвярнулася да вакна й пачала нэрвова круціць фіранку. Твар яе паліўся як у вагне, вочы моца блішчэлі...

Лебядзёк сядзеў, апусьціўшы пакорна галаву. Цяпер яму, як бы стала ўсё роўна, што будзе далей.

— Чаму я яшчэ верыў, што магчыма шчасьце?—запытаў ён сам сябе.

Папугай, бытцам адказываючы, пракрычаў сваё традыцыйнае:—Дурны!

Стала зноў ціха... Толькі сумна чыкаў гадзіннік...

— Няўжо вы чакаеце ад мяне ахвяры?—абярнулася Кляра...

Лебядзёк спакойна на яе паглядзеў...

— Чаму ж вы самі ня можаце яе зрабіць.

Чаму вы, напрыклад, ня можаце адмовіцца кахаць мяне?...—

— Адмовіцца кахаць?— перапытаў Лебядзёк і замаўчаў... Кроў кінулася яму да твару.

— Але... Адмовіцца кахаць...—

Лебядзёк не адказываў...

— То вы маўчыцё?!—Голас яе неяк трэснуў.—Вы мяне яшчэ кахаеце!.. Але я добра ведаю, на што я вам патрэбна... Што вы кахаеца... Гімназістка, курсістка для вас усё роўна... Вам падабаецца толькі маё цела, вы толькі ганяецеся за маімі ножкамі, за формамі майго стану, за абрысамі маіх грудзей... А дзе ж, прапаведнік пашаны жанчыны, дзе ж духовыя багацьці?.. Іх вы не шукаеце... Вам усё роўна...—

Лебядзёк ускочыў. .

Яна стала перад ім і крыкнула:

— Станце зараз тут каля тых ножак, якія для вас—сэнс жыцьця, за якімі вы ня бачыце нічога другога... І вось на каленьках, дайце абецаньне, што ніколі ня будзеце блізка, што пакінеце наша места і аба мне забудзеце думаць. .

— Абецайце зараз!...—

Лебядзёк кінуўся да дзьвярэй.

— Не, не! пачакайце,—схапіла яна яго за рукаво.

— Дзьверы ўсё роўна зачынены... Ня выскачыце... Будзеце варьяцець, пазаву людзей... Не адпушчу, пакуль ня споўніце абяцаньня... Станьце хоць апошні раз перадамной і дайце абяцаньне.

— Ня будзеце тут болей, забудзеце мяне? абецаеце?—

— Адпусьціце... Хутчэй... Немагу... Хачу падняць на вас руку...

— Адпусьціце, ці не?—закрычаў на ўвесь пакой не сваім голасам Лебядзёк...

Кляра адскочыла і пазваніла...

Прыбегла Адэля.

— Стой тут, каб не пабіў...—

— Абяцаеце, ці не?...—

— Ну, ўжо... обяцаю... Дайце дарогу хутчэй... Дрэнна будзе...—

— Нічога... Павінны як належа разыйсьціся са мной, з маімі ножкам Вось вам яны. Цалуйце.—

Яна паставіла іх да ягоных вуснаў.

Ен мімаволі нахінуўся і пацалаваў.

— А цяпер, канец знаёмству... Бывайце!..—

Яна прыгожым жаночым рухам падала яму руку... Ен падаў ей рук але ня сьціснуў і не пацалаваў.

Толькі зараз жа кінуўся да дзьвярэй...

Дзьверы былі зачынены...

— Вы ўжо ляціцё?.. Вось дык кавалер!.. Ты бачыла такога, Адэля, га? Думае выляцець... Але ўжо адчыні яму... Хай ляціць па мядзьведжу... Па дай капялюш...—

— З Богам!—

IV.

Камяловіч між тым шчасьліва дайшоў да сваей мэты. Ня толькі па ненка, але й бацькі яе пабачылі ў ім прыгожага й прынаднага чалавека згадзіліся зьвязаць з ім свой лёс.

Яны папрасілі яго пераехаць на вёску кіраваць працай да таго час калі ён сам стане запраўдным гаспадаром... Вясельле было назначана пра тры месяцы. Да яго маладыя, пакуль што, не падрыхтовываліся, а толь цэлыя дні разам гулялі ды дурэлі...

Звычайна ў прыгожы, ціхі ранак, калі яшчэ ўсе спалі і было цёмн толкі дзе-ня-дзе пазіралі апошнія зоркі, яны прабіраліся праз сад, садзіліс ў лодку і ціха плылі па возяру.

Лодка застаўляла пасьля сябе мігаючый сьлед, вёслы плёскаліся гучна вадзе, але й гэта не прыдавала жыцьця малюнку: ўсё яшчэ спала. Спаў ма лады лес, спаў гледзячы ў ваду аір, спаў небасхіл зацягнуты сіняй імглой.

— Ў такія хвіліны жыць хочацца праўда?, — казаў Камяловіч паненц ў адну з гэтакіх паездак...

— Але... Дужа добра.Сёньня асабліва сьвежа. Так добра, так добра!..

Камяловіч адкінуў вёслы. Лодка з разгону ціха плыла... Маўчаньне бы ло поўнае.

— А ўсё ж ткі мы с табой людзі шчасьлівыя,—пачаў ён зноў. — Н ўсякі мае магчымасьць езьдзіць што ранак на возера... А мы вось с табой гуляем... А пасьля паедзем да хаты, пасядзім, падурэем... Ты ведаеш, шт ты моцна папра́вілася за гэты тыдзень...—

— Няўжо?... Ты таксама стаў паўнейшы.—

— Ну, вось бачыш! Чаго-ж нам трэба больш? Ў асягненьні прыемна супакою і ёсьць сэнс жыцьця.

— Ведаеш,—цягнуў ён, бачучы, што нарачоная ня хоча гутарыць— цяпер сярод гэтай дзіўнай прыроды думаю сабе: на што гэта людзі пад маюць рэволюцыі, вядуць палітыку, змагаюцца за перамогу партый.. Кам патрэбны турбуючыя ідэі, высокія філасофіі?.. Шукалі-б сабе спакою, пі елі, радаваліся карыстаючы кароткім жыцьцём, дык не!.. Ўсё шукаюць не кіх „шляхаў“.—

Ен замаўчаў. Нарачоная таксама маўчала.

— Я думаю,—цягнуў ён далей—як нашае жыцьцё пойдзе? Мы с таб —маладыя! Нам трэба ўзяць ад жыцьця ўсё, што магчыма... Ведаеш,

(х)ацеў спытаць цябе... хацела б ты мець парку рысакоў? А? праехаца?...— (Ё)н разсьмяяўся..

— Чаму ж не? Добра,—сьмяючыся адказвала нарачоная.

— Ну, дык вось: завядзём парку рысакоў... А потым: гэй, на бок людзі! Ха-ха-ха!..—

— Як ты сёньня празаічна настроены, засьмяялася паненка.

— Наадварот... Паэтычна! Рысакі—гэта-ж паэзія... Ну, а кухню мы с (т)абой будзем, мець! Гэ-гээ! Па тры пуды сабе вагі нададзём.—Ен зноў (р)азсьмяўся.

— Ого! Я цяпер важу чатыры пуды с паловай, а тады сем с паловай, (ш)то ж тады! Ты таўстухай хацеў бы мяне зрабіць.—

— Прынамні саліднасьць... Будзе коням што вязьці.—

— Я не хачу быць такой таўстухай...—

Лодка зусім станула. Небасьхіл ужо цалком пачырванеў. Лёгкі ве(ц)ярок парухаў аір.

— Што-ж як хочаш,—казаў ён пачакаўшы.—А ўсё ж ткі мы с табой (л)юдзі шчасьлівыя, га? Не ўсякі будзе, як мы...—

— Каждаму сваё. Што нам другія?.. Я ні на каго не зьвяртаю ўвагі.. (А)ле ж ад‘едзем троху.—

Ад‘ехалі.—

— Ведаеш,—зноў нахіліўся да нарачонай. Камяловіч: —я чытаў дый (с)ам Рабскі, здаецца, казаў, што багацьце-праступак,-рабунак... Ну, а я сабе (д)умаю: няхай вытвараюць маё багацьце другія, што з таго. Я тысячам (л)юдзей дам работу... Чаму тут абавязкова павінна загаварыць сумленьне? (Я) ні перад кім нічым не абавязан. Такі парадак рэчаў.

— Я ж кажу, што нам да другіх. Нашае багацьце для нас... Ня мы (в)інны, што мы—багатыя. Толькі дурні застаюцца беднымі... Яны самі й (в)інны, што бедныя.

— Мы с табой дзіўна аднадумны... Гета ведаеш, парука добрага ся(м)ейнага жыцьця... Дай я цябе за гэта пацалую...—

Яны пацалаваліся.

Сонца ўжо зусім узыйшло, дзень пачынаўся ў поўнай гожасьці.

— Але-ж, глядзі, ўжо й час сьнедаць,—сказаў Камяловіч, гледзячы (н)а чырвоную кулю сонца.

— Трэба ехаць!—

— Ну, паедзем...—

Павярнулі лодку й шпарка паехалі на сьнеданьне.

## V.

Лебядзёк пражыў тыдзень, нікуды ня выходзячы. Сорамна было перад (с)амім сабой, перад тымі вынікамі, да якіх даходзіў аналіз сьцюдзёнага (р)озуму.

Што такое ён, калі жанчына можа зрабіць з ім такую няпрыемную (г)історыю. Дый што за жанчына Кляра? Чаму так спляліся абставіны і так (т)рагічна, сьмешна прарвалася вясёлае жыцьцё? Чаму так хутка прышоў канец яго залётаў?.. Абрыўкі думак без парадку пачалі насіцца ў галаве... Спачатку ён нямог зусім думаць... Першыя два дні ён праляжаў на пасьцелі, закрыўшы твар рукой і толькі часам ускаківаў з клічам: які сорам!

Сорам быў надзвычайны. Пэўна ўсе цяпер у месьце ведаюць пра яго... Што рабіць?...

Паляцець бы куды-небудзь ад людзей, ад неправідлова склаўшагася жыцьця, можа-б ад самога сябе і там, у тэй благаслаўлёнай зямлі пачаць новае жыцьцё...

Ды няма гэтага мейсца...

Ўсюды людзі, благія людзі і ўсюды непраўднае жыцьце... А якія гэты людзі аднальковыя... Зьвяры можа нават чысьцейшыя... Штож Кляра, хіба зьвер?.. Так... Зьвер таксама. Яна як жывая ў сваім харастве праплывала перад ім... Ен толькі нэрвова парываўся з боку на бок і стагнаў. Потным, у другія дні, ён пачаў думаць больш аналітычна.. Праглядзеў сваё мінулае, кінуў вокам на сваю будучыну, ці няма там хоць якіх-небудзь балотных аганькоў, пашукаў хоць нейкай веры ў сваю моц, але нічога не знашоў...

Разабраў свае адносіны да людзей, прааналізаваў сваё мейсца ў жыцьці, сваю ролю ў грамадзянстве і таксама прышоў да самых пэсымістычных вынікаў. З людзьмі тут ён ня можа жыць... Ці ён толькі рамантык, ці ён толькі слабы бяз розуму ды волі чалавек, але-ж ён гіне ў гэтай таўпе...

Наперадзе сьцежак ужо няма... Мінулае-ж адны непаразуменьні... Знача, нашто жыць?..—

Так, усё цяпер ясна, зразумела... Ня можа ён яшчэ раз зрабіць глупства ды жыць...

Хіба толькі каханьне магло-б вярнуць яго да жыцьця і прымусіць забыцца прыкрае, асабліва каханьне такой прыгажухі як Кляра, але яно так сьмешна й хутка абарвалася, трэснула...

Засталося цяпер і ў жыцьці, і ў сэрцы дапаленае вугальлё попел...

І пад цяжарам пэсымізму ён часта за гэты тыдзень валіўся на пасьцель ды плакаў...

Раз ён сядзеў перад вакном...

Быў сонечны, прыгожы дзень... Блішчэла далёкая рэчка пераліваміі сьваімі, прыгожа глядзелі хаткі далёкага мястэчка, звонка крычалі гудкі параплаваў... Усё якраз, як калісь у гады чароўнага дзяцінства... Які ён быў тады, шчасьлівы, якімі сьветлымі вачыма глядзеў на сьвет... А цяпер няма яму будучыны... Ен ўспомніў песьціўшую яго матку—старушку... Колькі яна ўлажыла ў яго ласкі, каханьня і няўжо толькі дзеля таго, каб ён цяпер зразумеў, што жыць ня трэба...

Балюча стала... Закіпелі, загутарылі глыбокія, дзесь схаваныя творчыя струны і ён захацеў выліць свае мукі на паперу...

Ен падыйшоў да стала, задумаўся...

Потым пачаў:

### Апошняе даруй.

— Эх, вы, коні мае, коні! З вамі мая надзея, думка, маё жыцыцё... Паімчымся сёньня ноччу адсюль, далей, далей, ад гэтых бедных людзей, паімчымся ад гэтага сьмеху й барацьбы, ад мора крыві, асьветленага сонцам... далей ад людажэрства... Тут няма для нас бацькаўшчыны...

Мы — толькі госьці сярод ворагаў...

Мы — занадта чыстыя, занадта ідэальныя для гэтага сьвету, дзе паедае слабых практычны, прагавіты зьвер — чалавек, дзе з лепшых, сьвяцейшых імкненьняў сьмяецца брухаты залаты дзіватвор... Мы тут лішнія, нам няма

мейсца... Пэўна, мы не адны... Можа шмат ёсьць чыстага, маладога, што гіне пад гукі музыкі ды чарак з гарэлкой...

Адсюль, адсюль!..

Я абыйду сёньня свае родныя абшары, абгледжу малады сасняк, пушчы, дзе ў дзяцінстве слухаў байкі-праўды, і тады апошні раз прыду да вас...

— Эх вы, коні мае, ўдалыя коні!.. Я гладзіў вашыя грывы некалькі гадоў назад, а які я быў чысты, бойстры, як сьветла глядзеў на людзей... Я ўходзіў у жыцьцё як tabula rasa, а людзі надпісалі паганыя словы і зламалі мяне... І стаю я адзін у жыцьці і мушу загінуць ад чалавека, ад жыцьця чалавечага. Як дзіўна...

І няўжо мог прысьці да гэтакіх людзей Хрыстос?.. Няўжо могуць прышчапіцца сярод іх яго ідэі... Не... Хрысьціянства ня было жыцьцём і на будзе... Я загіну...

Але я — вольны сёньня... Я магу кінуцца цепер хоць у самыя глыбіны мора, падняцца арлом да неба, а потым разьбіць свае крыльлі аб скалы...

Я — вольны, людзі!.. Няма тых сумаў, няма тых кандалаў, няма тых тысячаў зьвярачых галоў, якія прыдумалі-б спосаб здушысць маю волю... Я пытаю вас, людзі, чаму я цяпер гіну? — Чаму мне няма куды ступіць? Вас гэта не датыча?.. Так... Вы сьмяецеся, скачаце, апранутыя ў шолкі ды атласы; вы носіце васьміпудовыя кодабы, ходзячы на версе грамадзкай драбіны... а я ўжо ня маю паветра жыцьця... Я гіну... Вы-ж прыціснулі мяне да зямлі і мой піск заглушаюць вашыя вясёлыя рагатаньні... А пад вашымі вялікімі будынкамі, пад вашым вясёлым, раскошным жыцьцём, пад вашымі пахучымі фігурамі бадзяюцца, як я, забітыя, закінутыя шкілеты, бяз радасьці, ды надзеі, на заўтрашні дзень, бадзяюцца сярод чорных, вільготных муроў... Гэта яны стаяць убогія, стаяць з шарманкамі, з піламі, чакаючы ў кутах вуліц вашага датку...

Так ёсьць!..

Вы пабудавалі турмы, нарабілі кайданаў, газаў, стрэльб; вы бьецё, забіваеце адзін аднаго... Вы садзіця ў турмы людзей, сковываеця ланцугамі, бьеце, як прыдзецца вешаеце, зьдзекуецеся...

Вы адрываеце людзей ад бацькоў, ад сясьцёр, ад братоў, запіраеце ў вамі збудаваныя вастрогі-казармы... А потым зноў, як знак найвялікшай справядлівасьці, гоніце іх на біцьцё братоў і бацькоў...

Мала таго... Вам усім, бедным і багатым, трэба збрудзіць душу, разьбіць яе, замучыць... Вы стварылі сучасную прастытуцыю... Гэта найвялікшы прагрэс, да якога дайшла ваша гуманнасьць...

Вы намножылі сірот, калек, сухотнікаў, самагубцаў... Толькі паслухайце, што кажа вам зямля, якімі морамі сьлёз яна поўніцца...

Але вам не цікава... Вы можаце ня думаць аб гэтым, бо вясёлыя гукі раялю вам будуць казаць аб вашым гожым жыцьці...

Пракляцьця вам!..

Вы чуеце мой голас, мой кліч?!.

Я ўзлячу сёньня на сваіх конях крозах і кіну свой перадсмертны крык...

Вам усім: вясёлым, бойкім, румяным, тоўстым, пьяным, ня чуючым майго стогну, ня ведаючым, што ёсьць мукі, што знача біцца ў болесьці аб зялезныя сьцены склепу, вам усім крычу я мільёнамі галасоў: „пракляцьце!“...

Я жыць хацеў...

А я ня магу жыць так, як хачу, бо кожды раз на мяне ціснуць зьверху ўсё большыя ды большыя масы змагаючыхся зьвяроў... Вы сьмяецеся над маей слабасьцю, вы хутка мяне прыцісьніце...

Я не дыхну... Але я сам паляту ад вас...

Я ня прыймаю вашага жыцьця на вашай зямлі...

Я паляту сёньня на маіх белагрудых конях, паляту высока й далёка ад вас...

— Эх вы, коні мае, маланкі коні!..

Мы паляцім з вамі праз лясы ды горы, над галовамі людзей, сьвішчучы ды пужаючы. Паляцім да тэй, якая прымусіла нас аканчальна ня верыць у кабет і людзей...

Я пашлю ей пацалунак ў паветры і скажу сваё апошняе: „даруй“...

А тады—шырокае мора—шырокая і „мяккая пасьцель“...

Тут ён спыніўся... Рукі дрыжэлі, ўсяго агарнула нейкая слабасьць...

— Вось, што знача натхненьне, падумаў ён:—выказаў, што так мучыла мяне... Ня мог не пісаць, як ня мог не плакаць... Цяпер аж лягчэй стала... Ен прачытаў напісанае. — Слабавата усё ж ткі... Ня так моцна, як хацелася... Але годзі... Ўсё роўна людзі нічога не прызнаюць... Пасьмяюцца толькі... Ніхто ня будзе ведаць, ніхто не захоча прызнаць, што я ў душы—паэт... Эх, людзі!..

Ен кінуў пяро.

Потым пачаў хадзіць па пакою... Пакой быў нізенькі, вузенькі, з цемнаватымі старымі шпалерамі. Толькі дзе-ня-дзе малюнкі добрых мастакоў на сьценках ды кіпы кніжак у куце паказывалі, што тут жыве студэнт. Адно вакно выхадзіла на двор але было так высока, што праз яго магчыма было бачыць толькі стрэхі дамоў ды коміны. Другое ж вакно аткрывала шырокі спазор на раку і далёкае мястэчка за ей. Направа ад вакна былі дзьверы... Перад вакном проста ад ўходу стаяў стол да пісаньня, побач яго было некалькі крэслаў. Недалёка ад стала ў куце стаяла шафа... На сьценцы каля яе вісела люстра... Побач з шафай, пад люстрам, стаяў просты драўляны ложак. Больш нічога ня было. Лебядзёк лёг на ложак... „Чорт яго ведае“, думаў ён: „можа трошку й хваравіты гэты пэсымізм... Я ж яшчэ ня ўсё спазнаў ў жыцьці. — Ня ведаў каханьня... Не, яшчэ трэба жыць.. Хоць пакахаць яшчэ каго-небудзь... Але ж, ці магу я пасьля Кляры кахаць каго-колечы?.. Пэўна, магу... Заўтра апрануся і пайду ў места... Ня стрымаў абяцаньня... дык што...—Што мне яна?... Я аб ей і так забыў...

## VI.

Але ж на другі дзень нічога не здарылася. Ен устаў з такім самым пэсымізмам... Проста сьціскалася сэрца і заміралі думкі, калі ён памыкаўся што рабіць...

Жыцьцё склалася неправільна... Нічога ён дагэтуль не зрабіў дадатнага і зрабіць ня мог... Што ён не рабіў, ўсё гінула... Нейкі закон праклядцья вісеў над ім... Ен пачаў думаць аб гісторыі з Клярай. — Да знаёмства з ёй ён быў безумоўна пэсыміст і думаў раз кончыць з сваім безкарысным жыцьцём...

Неўспадзеў ён бачыць яе... Знаёміцца з ёй. Ен — новы чалавек... Усё жыцьцё дагэтуль ня было нічога вартым. Ен жыве й радасьней глядзіць на

жыцьцё... Потым сад Рабскага, маёўка, салодкія пацалункі... Як чароўна... Але ўсё ня больш, як агнямёты жыцьця... Ен бязумоўна яе кахаў.

Шчасьце было магчымым, але не прышло. Яна не магла яго кахаць... Яшчэ быць знаёмай, гутарыць, нават пайсьці разам на маёўку і там падурэць яна магла-б...

Заўсёдныя сьпевы дыфірамбаў адбіваньне паклонаў перад ёй толькі гэта будзіла яе прыхільнасьць. Трэба ж было мець гэткія цэннасьці душы, перад якімі яна сама маглаб пакланіцца. Ен іх ня меў.

Яна не магла спакойна глядзець, што ён так заўзята дабіваецца яе каханьня. У час гульні, калі яна нічога не памятала, ён мог ёй Бог ведае, што нарабіць.

Просты сорам дзявочы змусіў яе пасьпяшыць і выбіць на заўсёды дур з галавы. Лебядзёк жа, думаючы аб гэтым, бачыў толькі нейкую накавованасьць, закон праклятьця.

Так з ім усё, так выйшла з каханьнем Кляры, так будзе далей... Бязумоўна сама прырода абыйшла яго, ня даўшы яму ні хараства, ні розуму, наагул нічога. Ен тут ні прычым, але жыць далей проста не магчыма...

Ен устаў і падышоў да люстра. Вялізарныя зьмены кінуліся зараз у вочы. Твар быў жоўтазялёны. Вочы неяк паглыбелі й пацямнелі.

Постаць уся выказывала нейкую змучаннасьць. Раптам пазванілі. Прынясьлі ад Камяловіча запіску:—„Дарагі Лебядзёк“, пісаў Камяловіч буйным, прыгожым характарам: „У нядзелю за тыдзень праўляю сваё вясельле. Будзь ласка не адмоўся прыйсьці. Як стары сябра, заву цябе спаткаць мае ў ходзіны ў новае жыцьцё.

Чакаючый цябе Камяловіч.

— Прасілі напісаць адказ на другой старонцы — сказаў прысланы хлопчык.

— Адказ?—зьдзівіўся Лебядзёк:—Добра напішу.—

Ен сеў пісаць, але задумаўся.

— Йсьці, ці ня йсьці. Яна там пэўна будзе... Сустрэнемся... Але цяпер усё роўна... Я рашыў зачыніць ім вусны.—Ен напісаў:

— „Дзякую за запросіны. Абяцаю быць. Лебядзёк“. Правадзіўшы хлопца, ён зноў сеў за стол.

— Мне цяпер усё роўна... Такі настрой, што мог бы пайсьці пад разстрэл, на фронт, або кінуцца з сёмага паверху... Так... Я гатоў...—

Ен паглядзеў у гару на вакно. Потым прайшоўся некалькі разоў па пакою. Нічога нават ня думаў... Усё было скавана гнеўнай розпаччу і здавалася такім спакойным, звычайным.

Толькі вочы занадта напружанна пазіралі з цемнаватым блескам з пад нахмараных павек.

— Можа мяне яшчэ што астановіць?.. — думаў ён, падыйшоўшы да вакна...

— Не... ня можа... Скончана... —

Дастаў паперу, раскроіў на два лісты. Потым прыгожа вывеў:

— Дарагія сябры!

Але на што пісаць, падумаў ён: хоць усё роўна... Рабіць няма чаго... Супакою душу, а магчыма на ўсялякі выпадак... Ен пачаў пісаць ліст:

„Яшчэ адно апошняе слова і дапаліцца лучынай маё безкарыснае жыцьце... —

Потым закрэсьліў усё і напісаў:

„Мілая Кляpачка!

Пэўна Вы будзеце зьдзіўлены такім зваротам да Вас і выкажыце зноў сваю добрародную агіду...

Але пачакайце... Хутка Вы будзеце ня так яшчэ зьдзіўлены і ня тое яшчэ пабачыце. Будзеце можа тады жалець мяне, плакаць, пытацца, ці ня ты былі прычынай такога выпадку... Не, мая Кляpачка, не, мой міленькі Выгрык!.. Зусім не...

Адзін я—вінавайца стаю перад Вамі на каленях і зьвяртаю да Вас сваё апошняе: „даруй“.

Адпусьціце мне ўсе мае грахі, бо я адыходжу ад Вас, я балей Вас не пабачу.

Можа я скончу жыцьцё самагубствам, але будзьце пэўны, што ня Вы—прычына гэтага...

Ня Вы—прычына, не...

О, Вы—чароўная, прыгожая Мадонна, Вы—сьвятое хараство, Вы—анял на зямлі... Вы тут ні прычым... Гэта ня Вы разьбілі маю адзіную надзею, можа мару жыцьця... Ня Вы прымусілі пабачыць зноў адваротны бок жыцьця й людзей... Не... Вы—далёкія ад гэтага, мая прыгожая крыніца цярпеньня.

Вашым тыгравым ножкам калі-небудзь злажыў бы паэму, а цяпер... цяпер...

Даруйце за ўсё, за ўсё... Спаўняю свае абецаньне і разлучаюся з Вамі на векі.

Далёкі ад Вас і тут і па за жыцьцём

Лебядзёк“...

Потым напісаў караценькую запіску: „Прашу нікога не вініць“...

Злажыў допіс, палажыў у канвэрт, надпісаў і ўжо хацеў адаслаць, ды пасьля раздумаў.

— Можа я аддам ей на вясельлі... Так... Пабачу й аддам ёй у рукі...—

* * *

Прыйшоў новы дзень. Лебядзёк устаў з тэй самай спакойнай розпаччу. Яму зноў маляваўся аднастайны дзень, як заўсёды. Нічога не прадбачылася цікавага, апрача мулкіх разважаньняў і енку. Не, з гэтым трэба скончыць хутчэй,—падумаў ён: — далей не магчыма. Хіба ў мяне ня хопіць волі?... Доўга ўсё зрабіць?... —

Гаспадыня з сьнеданьнем перарвала думкі... Ен сеў за стол і паглядзеў на яе.

— Што з вамі,— крыкнула з жахам гаспадыня.

— А што? —

— Не дай Бог, трэба можа паслаць па лекара... Вы ж бледны, ды вочы, як у вар‘ята, выбачайце. —

— Слухайце, цёця, бачылі вы калі-небудзь самагубца перад смерцьню?—

— Крый Божа, ніколі ня бачыла.—Старуха набожна перахрысьцілася.

— Шкада,—працадзіў Лебядзёк.

— Вы пэўна хворы? Скажыце, бо ў вас страшны выгляд, — казала гаспадыня.

— Ня можа быць... Вам здаецца... Я зусім здаровы. —

— Хто вас разьбярэ,—замарматала гаспадыня й выйшла...

Ен пасьнедаў, пасьля прылёг на пасьцель і пачаў глядзець на сваё мінулае з свайго сьмяротніцкага пункту гледжаньня, як асуджаны на сьмерць апошні раз аглядае жыцьцё навокал.

Жыць яму яшчэ хацелася, але ж па новаму, з маленства, можа з новым розумам тварам... новым чалавекам... Такому ж як ён жыць не было сэнсу. Што ж? Цяпер ён ступіць нікуды ня можа... Ня мае ні здольнасьцяў, ні патрэбнай энэргіі... Загіне ўсё роўна, незалежна ні адчаго іншага. Значыцца, трэба толькі адважыцца і раз назаўсёды скончыць...

Гаспадыня зноў увайшла...

— Не, вы ўсё ж ткі не здаровы,—прамовіла яна, гледзячы на лежачага Лебядзька:—трэба лекара пазваць...—

— Ай, цёця, нічога ня трэба,—сказаў, злуючыся, Лебядзёк:—я здароў.—

— Ага... вось... Чаму вы запыталі, ці ня бачыла я самагубца?.. Якое гэта мае значэньне... Ці ня думаеце вы?...—

— Ой, далібо? якія вы. Мала што прыйдзе ў галаву чалавеку. Мне так цікава было ведаць, як гэтакі чалавек выглядая.—

— Штось вы ніколі так не пыталіся, а галоўнае, ніколі так дрэнна не выглядалі.—

— Вучуся шмат... Ад гэтага... пэўна...—

—Хто вас ведае,—сказала яна і пайшла з начыньням.

— Як падумаеш,—разважаў Лебядзёк на адзіноце: — жыцьцё—толькі насьмешка лёсу.

Пусьціла чалавека, як рыбу ў нейкі жбан, невядомая рука; апаражняеды папаўняе патроху. А людзі думаюць, што яны самі твораць жыцьцё, што яны незалежныя ні ад чаго іншага... Шукаюць нейкіх сэнсаў істнаваньня іхнага. Пытаюць, што ёсьць жыцьцё.

А гэтага не зразумеюць, што яны толькі рыбы ў жбане вады вышэйшае іх істоты.

Так... Сэнс жыцьця не істнуе.— Разумны чалавек ня можа жыць... Жыве толькі маладумаючы, або ашуканец!.. Чаго ж тады я баўлю яшчэ...

Ен падыйшоў да вакна, паглядзеў на крук, нават зрабіў пятлю... Хацеў прасунуць галаву, але яго лёдам абліло ад жаху... Ен адышоў і са злосьцю кінуў вяроўку...

— Чорт пабяры!.. Яшчэ жыцьцё—дарага. Вусны яго былі пасінеўшыя. Вочы выказывалі нешта Мэфістофэльскае. Увесь твар быў зялёны.

Не, я ануча, трус... Не магу, што парашыў выканаць... Эх, такіх людзей разстрэліваць бы...

Ен ня мог ісьці па пакою. Ногі чагосьці дрыжэлі.

Сэрца моцна білася... Хутка сеў ён на крэсла.

Вось табе мужчына! Бязумоўна ні адна кабеціна ня можа зьвязаць са мной лёсу...

Як гэта аднак людзі адважаюцца кідацца з пятага паверху, або вешаюцца...

Ен лёг на пасьцель...

— Якія павінны быць моцныя людзі, думаў ён. Зялезныя людзі, ня то, што я—трус!... Так ён ляжаў аж да самага вечара, нават нічога ня еў. Думаў толькі, што няма выхаду ў жыцьці, а што скончыць самагубствам ён ня мае моцы.

(дакончаньне ў чародным нумеры).

# Матэрьялы да беларускага слоуніка.

Белы, сьветлы, ясны, пазней—свабодны; санскрыцкае *çvį, çvit, çveta*—ясны, белы, эпітэт тасаваны да бога сонца. Калі першапачатковая вы абрзьлівасць слова робіцца ня чоўкай ўжо слуху, яно звычай пдднаўляецца эпітетам, які часта і астаецца пры ім, на заўсёды. Гэткі эпітэт мы знаходзім у выражэньнях: белы сьвет і белы дзень; з іх першае атрымала значэньне ўсесьвету, слав. вселенная, т. зн. усяго відомага, асьвечанага, асьветленага, літоўск. *svietas*, стар. пруск. *svitai*, такжа ужываюцца ў абодвых значэньнях і як ўсесьвет і як стыхія сьвятла. Зраўняй літоўск. *baltas*, латыш. *balts* — белы, прыгожы, mare Balticum—белае мора. З імянем Белбога, здаецца, пераважна зьвязывалася паняцьце дзеннага святласонца. Гэту дагадку падмацоўвуе сьведчаньне нямецкай міфалогіі, дзе славянскаму Белбогу адпавядае бог святла, белага дня, сын Одына: *Bäldäg, Beldeg* (складное з бел і *däg, dag, tag*). Сонца упадабнялася бліскучаму вянцу, каруне на галаве нябеснага бога; яно называлася царом, валадаром сьвятла і дня і пазьней служыла эпітэтам пануючым асобам. Гэтак у умове Алега з Грэкамі упамінаюцца светлыя князі і дагэтуль жыве ў народзе эпітэт — белы цар. Такім самым шляхам англёсаск.: *bealdor, baldor* атрымала значэньне князя, караля, валадара. Апіраючыся на вышэйпрыведзеным, трэба думаць што і тэрмін Беларусь, акром значэньня сьветлая—ясная, вольная, тоўпіць ў сабе яшчэ паняцьце валадарная, пануючая, што зьяўляецца адгалоскам сівой старасьвеччыны.

Сьвет (сьвяціць) і сьвят (сьвянціць) з філолёгічнай стараны адназначны; па старасьветнаму пераконаньню сьвяты гэта белы, сьветлы, бо сама стыхія сьвятла зьяўляецца богам, непераносячым нічога цёмнага, нечыстага.

Красны першапачаткова азначала сьветлы, яркі, бліскучы, агністы; слова гэта звязана з паняцьцям: крэе — агонь, красьнік — старасьвецкае найменьне месяца красавіка; красьнік — дагэтуль называеца ў Вітабшчыне веснявое сьвята, адношанае то да Юрья то да веснавога Міколы. Красавацъ — даваць квет, краска — кветка (folium), красуня — прыгажуха, зкраса — клустасьць у страве, пакраса — аздоба, краса — прыгожасьць, красавацца — быць прыгожым, прыгажыцца.

Жыта аднаго караня з жывот (жыцьцё) і Жыва — багіня вясны.

Чорт ад „чорны“. У духоўнай літэратуры чорт мянуецца „князям цемры“, у немцаў чорт называеца — *der schwarze*, стар. санскрыцк. — *mirki* (зраўняй з нашым — мерат, морак).

Мара. Галоўнай эмблемай нячыстай сілы у славянаў была Марана, Морэна, Марва́ ад санскрыц. *mri*—паміраю, сьмерць, лац, *mors*—багіня сьмерці, зімы і ночы, аднаго карана са славамі: мор, паморак — пошастная хвароба, морак — цемень, мары — насілкі для нябошчыкаў, мара — нячыстая сіла, сонны кашмар, прывід, марыць — мучыць, мерат — чорт, зьмерк, меркаць, зьмеркаць—цемень цямнець, мрэц, мярцьвец мярляк — нябошчык, мярэкаць — мала знаць, біцца ў цямнаце, з трудом распазнаваць, разумець, марокавацъ — хмарыцца, дуцца, амарока — зацямненьне, марочыць дурыць, мярцьвець — заміраць, сморад, сьмярдзець — мець благі пах, хмара — туча, хомар, хомарна — (на Палесьсі) туман, імгла, мароз.

Плюта, лац, *plio* — дажджыць, чэск, *plušt* — дождж, слова азначае улеву, дажджлівы час, ад караня: плу-ті, плысьці, ліцца.

Зерыць—прыглядацца, зорыць — сьвятлець, сьвяціць, зрэнка — цэнтральны кружок у воку, зорка — гвязда, зірк, зіркаць, зырыць — хутка глянуць, глядзець, заранка — ранічная гвязда, Вэнэра, зарніца—далёкая бліскаўка, маланка, сьвігавіца. Літоўск, *zereti*—блішчэць, зіяць, чэск, *zira* — сьвеціць; зеціць рас.—созерцать.

Бачыць, санскрыцк, *bhas* — блішчэць і відзець.

Зенкі—вочы, зрэнкі, ад зе (і) яць—блішчэць.

Ноч. санскр nakta г. зн. час калі дзень памірае, нікне. Наша загадка кажа аб дні: „вечарам памірае, раніцай ажывае“.

Усток—усход сонца, слав. восток, ад слова цяку.

Захад і сонцасад; а такжа сутон, старана куды заходзіць сонца.

Сівер, старана сьцюдзёных ветраў, сіверна—сьцюдзёна, ветранна. Лац. *saevus* сярдзіты, люты, літоўск. *šaure*—паўночны, лінгвісты зближаюць з санскр. *savya*, зэндзк. *havya*, славянск. шуйца—левы, бо первабытны чалавек ставаў на малітву, заўсёды abліччам да ўсходу, ўстоку, і гэткім чынам зправа меў поўдзень (лац. *dexte*r, санскрыцк *dak—shina)*—правую, десную старану, а злева сіверную, паўночную.

Золата у Остром. еванг. злъчь, зълчь, польск. *zloto*, латышск. *zelts*! Золата рабіла ўражаньне жоўтага блеску, згэтуль адзін карэнь служыць для абазначаньня жоўтага колеру і золата (зраўняй ням *gelb* і *gold*. У нас замест: „усход сонца залаціць неба“ — кажуць: залачэе, залачыцца, золак.

Прыяцель, санскрыцк. *prijas* любімы чалавек, чэск. prуjtel.

Пярун старслав пряти, нашае: праць, пяру—біць, выбіваць пральнікам бялізну (прачка): „пярэ рубанцом“ — бье паленам; „каб цябе Пярун трэснуў“.

Тур. З найменьнем тура вяжуцца паняцьця аб скорым руху, бегу: турэц—быстраток на рацэ, турыць, гнаць, туровіцца—сьпяшацца, рупіцца, вытурыць—прагнаць.

---

Д-р А. ЧУЖЫЛОВІЧ.

# Мова, народ раса.

Арыйцамі называлі сябе першапачаткова панаваўшыя плямёны Усходняй Індыі, Пэрсыі і ўсходняй часьці Ірану, адкуль і пайшло гэтае найменьне. Па санскрыцку „агуа“ азначае пан, валадар. У процілегласць арыйцам, народы другіх рас называюцца у Індыі „dasa“ (раб, падданы), або „anагуа“ (не арыец, не валадар). Навейшая філалёгія называе цяпер арыйцаў індаэўропэйцамі. Гэтае найменьне пайшло ад таго, што Эўропа населена немаль выключна народамі, якія калі не на крыві, то па мове, прыналежаць да арыйцаў. Нямецкі вучоны мовавед Бопп, першы давёў, што ўсе, інда-эўропэйскія мовы паходзяць ад аднэй супольнай мовы, якой гаварыў народ, ад каторага паходзім мы ўсе, англічане і сэрбы, гішпанцы і украінцы, італьянцы і беларусы, немцы і палякі. Праматку ўсіх гэтых моваў прынята называць у англічанаў—інда эўрапэйскай, у французаў—арыйскай, у немцаў—інда-германскай мовай.

Моваведы XIX ст. распадзелялі ўсе вядомыя інда-эўропэйскія мовы на восем групаў. Кождая з гэтых групаў, ў свой чарод, складаецца з некалькіх самаістых аддзелаў, галінаў.

Гэты групы вось якія.

**1.** Уласьціва арыйская галіна дзеленая на аддзелы:

*а)* індускі адзел, дзе важнейшай мовай зьяўляецца санскрыт;

*б)* іранскі аддзел, дзе важнейшай мовай зьяўляецца старапэрсідзкая т. зв. зэнд.

**2.** Армянская галіна.

**3.** Грэцкая галіна.

**4.** Албанская галіна.

**5.** Італьянская галіна, дзе важнейшай мовай зьяўлецца лаціна, матка ўсіх т. зв. романскіх моваў.

**6.** Кельтыцкая галіна, некалі разпашыраная ў Эўропе, цяпер захаваўшаяся толькі часьцю ў Брэтаніі, Ірляндзіі і Шотляндзїі.

**7.** Германская галіна, дзе важнейшымі мовамі зьяўляюцца нямецкая і англіцкая.

**8.** Балта-славянская галіна з аддзелямі:

*а)* балтыцкім, дзе галоўнай мовай зьяўляецца літоўская;

*б)* славянская галіна.

Усе славянскія мовы зьяўляюцца гэткім чынам у вачах мовавeда толькі аддзелам балта-славянскай галіны інда-эўропэйскіх моваў.

Усе славянскія мовы з навучнага пункту гледжаньня разпадаюцца на:

**1.** Баўгарскую групу, зложаную з

*а)* стара-баўгарскай мовы, звычайна званай „царкоўна-славянскай“ (IX ст.).

*б)* сярэдня-баўгарскай мовы (XII ст.).

*в)* нова-баўгарскай мовы, разпадаючайся на два дыялекты—усходны і заходны.

**2.** Паўднёва-славянскую групу, зложаную з:

*а)* сэрбскай мовы,

*б)* хорвацкай мовы,

*в)* словінскай мовы.

**3.** Заходна-славянскую групу, зложаную з:

*а)* чэскай мовы,

*б)* славацкай мовы,

*в)* сорбскай (лужыцкай) мовы,

*г)* польскай мовы з некалькімі яе дыялектамі,

*д)* вымершай палабскай мовы.

**4.** Русінскую або усходна-славянскую групу, зложаную з:

*а)* крывіцкай або беларускай мовы,

*б)* украінскай або палуднева-русінскай мовы,

*в)* вяліка-рускай або маскальскай мовы.

Мовавeда з усіх славянскіх моваў найболей цікавіць стара-баўгарская (або „царкоўна-славянская“), вымершая палабская, выміраючая сэрбская (лужыцкая), і, як фэнікс, перад вачамі цяперашняга пакаленьня, адражаючаяся з ўласнага попялу, крывіцкая мова.

Усходна-русінская мова, якой дадзена найменьне рускай, ці расійскай з навучна-мовавeднай стараны невыяўляе сабой асаблівай цікавасьці. Усе безстаронныя філалёгі сваймі навуковымі працамі даказалі гэта. Аграмаднае значэньне расійскай мовы маецца перш за ўсё ў тым, што яна афіцыяльная мова аграмаднейшай дзяржавы. Пасьля расійская мова, гэта мова ў якой за апошнія тры пакаленьні. пісалі волаты пяра—Пушкін, Тургеньев, Дастаеўскі, Толстой. У гэтых двох фактах заключаецца прычына чаму руская мова ў цяперашнія часы займае, паміж усімі славянскімі мовамі, безумоўна першае месца. Затое ў гісторыі славянскай філалёгіі усходная-расійская мова займае ледзь не

апошняе мейсца. Тут ня толькі стара-баўгарская („царкоўна-славянская“), крывіцкая („беларуская“), але нават польская і чэская займаюць безумоўна больш выдатныя месцы. Расійская мова, пад люпай гістарычнага дасьледаваньня зьяўляецца малодшым семянінам чысьленнай славянскай сямьі, нямаючым немаль сваей ўласнай мінуўшчыны, вялікай будучыны якой аднак ня будзе запярэчваць ніводзін вучоны.

Разпашырацца аб узаемным ўплыве славянскіх моваў, або аб ўплыве неславянскіх моваў на славянскую, мы тут ня будземо, а скажам некалькі слоў датычна пытаньня, насколькі элемэнты другіх народаў ўплывалі на славянскія.

Найбольш чыстымі па крыві славянамі трэба лічыць Крывіцкі і Польскі народы. Чэхі безумоўна маюць ў сабе значную дамешку нямецкай крыві. Што датыча Баўгараў, то і іх трэба лічыць за славянаў, хоць ў іхніх жылах цячэ ня малая дамешка мангольскай крыві. У горшым палажэньні вялікарускі народ, які компэтэнтнымі вучонымі прызнаецца нават за неславянскі, ў лепшым прыпадку за славяна-мангольскі. Розьніца паміж баўгарамі і расійцамі маецца у тым, што баўгары зьяўляюцца прадуктам змяшаньня малалічэбных мангольскіх пераможцаў з пераможанай, народнай славянскай массай, а расійцы—прадуктам зьмяшаньня, стасункова малалічэбных, славянскіх пераможцаў з пераможанай мангольскай народнай масай. Там пераможцы утрацілі сваю мову і прынялі мову паняволеных, тут пераможаныя утрацілі сваю мову і прынялі мову пераможцаў. Прычыну гэтага рознаякага выніку ўзаемных ўплываў пераможцаў і пераможаных, у сягоняшніх баўгараў і сягоняшніх расійцаў, трэба, галоўным чынам, шукаць у тым, што мангольскае племя, перамогшае прашчураў цяперашніх баўгараў, прышло з берагоў Волгі на берагі Дунаю і ўтраціўшы гэткім чынам зьвязь са сваімі мангольскімі сваякамі, вельмі хутка разцякліся ў массе пераможаных, тым часам як славянскія пераможнікі манголаў, у сярэдняй і ўсходняй часьці вялікай усходна-эўропэйскай раўніны, не ўтрацілі зьвязі са сваімі крывіцкімі і украінскімі сваякамі і атрымлівалі ад іх, ад пачатку заваяваньня і па сягоняшні дзень, ўсё новыя сілы, у форме выходцаў ці гвалтам выведзеных жыхароў. Гэткім чынам славянскім пераможцам удалося зьнешня аславяніць мангольскую массу пры помачы мовы і рэлігіі—але ведама толькі зьнешня; па крыві-ж гэты манголы асталіся манголамі і не абярнуліся у арыйцаў, яны — выражаючыся мовай індусаў—былі і асталіся „апагуа“ г. зн. „не арыйцамі, а „dasa“ г. зн. „нізшай расай“, ня гледзячы на хрысьціянства і славянскую мову прынесеныя з берагоў Дняпра, Дзьвіны і Нёмана славянскімі пераможцамі на берагі Волгі, Окі, Камы і Дону.

Паміж Крывічамі і Украінцамі з аднэй стараны і мангольскімі плямёнамі Усходнай Эўропы з другой, адбыўся ад VIII да XIII ст. той-жа працэс, які прыблізна ў той-жа час адбыўся ў сярэдняй Эўропе, паміж немцамі з аднэй стараны і славянскімі плямёнамі з другой. Уся усходная часьць цяперешняй Нямеччыны выяўляе сабой — выражаючыся фігуральна — магілішча анямечаных славянскіх плямёнаў, падобна як увесь усход Расійскай дзяржавы выяўляе сабой аграмадную магілу аславяненых мангольскіх пляменаў. Гэты працэс можна разглядаць як рэакцыю на вялікае перасяленьне народаў, ад 4 да 6 стагодзьдзя нашай эры. Трыста гадоў спусьця пачаўся адваротны рух з захаду на ўсход. Немцы спярша заваявалі, пасьля анямечылі славянаў, якія жылі паміж Эльбай (Лабай) і Віслай; ведама толькі зьнешня: у жылах „немцаў“ насяляючых Брандэнбург, Мэкленбург ці Помэранію цячэ, за рэдкімі вынияткамі, блізка такая-ж чыстая славянская кроў, як у жылах жыхароў з берагоў Віслы ці Прыпяці. І наадварот: у жылах „славянскіх“ вялікарусаў цячэ, у большасьці здарэньняў, так-жа мала славянскай крыві, як у жылах

кіргізаў ці кальмыкоў. Для этнографа нямецкая мова Помэраніі служыць такжа мала азнакай нямецкага паходжаньня, як вялікаруская мова жыхароў самарскай, сімбірскай, валагодзкай губэрняў ня можа служыць азнакай славянскага паходжаньня. Розьніца гэта ў тым, што там ідзе мова аб розных народнасьцях прыналежачых да аднэй — арыйскай расы, — а тут аб розных народах прыналежачых ў дадатку да розных чалавечых расаў — арыйскай і мангольскай. З пункту гледжаньня антропалёгіі рожьніцы паміж Французамі і Італьянцамі з аднэй стараны і Крывічамі з другой, далёка не так вялікі, як рожніца паміж Крывічамі і Маскалямі.

Мы ведам, што патрыоты тыпу Іловайскага ці графа Бобрынскаганазавуць гэтае цьверджаньне грахом супроць славянства. Але навука — самы непадкупны судзьдзя. І працы вялікага вучонага Вірхова пакончылі — спадзяемся назаўседы—з поглядам, што азнакай расавай прыналежнасьці можа служыць гэткая прыпадковасьць як сямейная мова.

---

ЮРЫ ВЕРАШЧАКА.

# Старабеларуская калядка.

У часе выстаўкі беларускага друку у Коўне (25—28. III. 23) канонік Пропаляніс падараваў мне уніяцкі служэбнік, друкаваны у Супрасьлі ў 1726 годзе, а апраўлены ў Вітабшчыне, аб чым сьведчыць надпіс, на белай карціне, перад загалоўкам, гэткага зьместу: Ten Mszał jest oprawiony Roku 1790 M-sa Febr. Dnia 14. Iest oprawiony przez aktytorow Cerkwi Pierewoskiej *) y zapłacony Złtt. polskich 6, Dico 6. Заглянуўшы пад скуру апправы я заўважыў, што папка склеяна з паперы разлінаванай да нот. Размачыўшы ў вадзе гэту папку я знашоў у ей, акром нот, яшчэ тэкст каляднай песьні, пісанай лацінскімі літарамі. Маючы на мэце даць пазьней падробнае апісаньне песні і літэральны перадрук яе з клішой з арыгіналу, тым часам даю ў транскрыпцыі на рускія літары, паводле сучаснай беларускай пісоўні, ня зьмяняючы слоў тэксту. На маю думку гэта калядка ёсць одпіс з беларускай кантычкі, друкаванай у Полацку ў канцы XVIII ст. Гл. Карскі: „Бѣлоруссы“ (Т. III, IV). Тэскст такі:

У Бэтлееме, убогім доме,
У Іесіовым і Давідовым,
Ствpapыцель ніне ляжыць на сене;
Вол і асьляця грэюць дзіцяця.
Анёлы з неба ўсім даюць знаці,
Каб шлі пасполу Бога вітаці.
Самай паўночнай глухай гадзіны
Першы пастыры беглі к яськіні.
Кузьма з Дземьянам, прад Хрыстом панам,
Пад самым дахам сталі са страхам.
Першы Мікіта рад Бога віта
Пры ясьлях стаўшы, кучомку зьняўшы.
Саўка з Яхімам, сваім братымам,
Скора прысьпелі зара запелі.
Карусь з Тарасам гудзелі басам,
Бутрымка з Кантам пішчаць дышкантам
Дзямід з Данілам загралі міла.
Барыс з Пратэсам сьпяшалі лесам,
Міхайла долам сьпяшаў з Антонам,
Грысь з Маланьнёю гналі ральлёю.
Раман з Ігнатам, са сваім братам,

---

*) Казімір, сын Ягайлы, В. Кн. Літвы, у памяць выратаваньня сваей жаны ад утапленьня, 20 ліпня, у дзень Пр. Ільлі,—пабудавау у Беларусі некалькі праваслаўных цэркваў, між іншым у Вітабску, Вяліжы і Бешанкавічах, надаўшы ім у вечнае карыстаньне перавозы. (Віт. Стар. Т. V ч. I стр. XXXI). Гэты цэркві насілі названьне „перавозскіх“.

Плылі тудою Эўфрат ракою.
Ярэмка з Косьцям быў першым госьцям
Сядзеў ў куточку на палазочку,
Цяртуху нюхаў музыкі слухаў.
Назар з Карною, прад храміною,
Цераз канаўку паклалі кладку
Рупнай душою з рэзнай ступою.
Аўдзей паловы прынёс аслові,
Гаўрыла ў вечку бычаці сечку.
Зьвечна падданы усе Іваны
Рубяць масточак цераз паточак.
У той час рыбакі нуцілі ракі,
Усе па плаціцы далі Ўладыцы.
Ярмей з Гапонам валы з прыпонам.
Енас з Юргасам з пушчаў Літвіны
Нясьлі Хрыстові з салам бацьвіны.
Хімка с Агапкай, дзьве маладзіцы,
Ў дар Хрысту далі коўш галавіцы.
Астап з Макрэям, трэцім Нупрэям
Цяглі барана да Хрыста пана.
Піліп з Макарам са свойскім дарам,
З нівы радзімай, імі любімай,
Два хлябы ўзялі Богу падалі.
Малады й стары усе пекары
Разам з арачы нясьлі калачы.
Знахарка Дося сьпякла парося
Пакуль дасьпела, сама ўсё зьела.
З радасьці оны чарнцы паклоны
Ныне злажыці к Богу бяжыця.
І вы, чарнічкі, у чаравічкі
Абуйця ногі з радасьці многі.
Вы небажаты, малы хлапчаты
Сьпяшайця к Богу ў стайню убогу.
Кушнары з футура ня дрэце кутра,
Краўцы прастаньце скраўкі хаваці:
Сам Бог работу рачыць Вам даці.
Кавалі гвозьдзі зрабеце з копу
Абы абіці тую там шопу.
Ґантары гонтаў і лат дадайце,
Сталяры дзьверы хутка гатуйце,
А вы, слясары, іх прырыхтуйце.
Усе шныцары, купна з маляры,
Да тае шопы робце аўтары.
Шкляры балоны, да шопы оны,
Папрыпраўляйце, чэсьць Богу дайце.
А вы, стальмахі, робце лектыкі
Для прадвечнога Бога Ўладыкі.
А вы музыкі скрыпкі вазьмеце
І Бога Спаса развесялеце.
Рымары узды і хамуціны
Прывезьлі ў дары Божьй дзяціне.
Вяльможы паны, Грэкі, Рымляны
Чэсна ўхадзілі дары лажылі.
Дай-жа, о Божа, ўсім Цябе знаці
І на нябёсах блізь Цябе стаці.

---

**Semper militaris.**

# Беларусь - гістарычны тэатр вялікіх стратэгічных опэрацый.

Лацінская прыказка кажа, што кождая краіна мае сваю долю, назначаную ей неўмалімым конам. Есьць краі, якія праз ўсё сваё гістарычнае істнаваньне карысталіся немаль непарушным спакоем. Толькі рады ў гады і то на каротка, мімаходам, закранала іх вайсковая навальніца. Як ў шмат чым іншым, так і ў гэтым Беларусь не дазнавала прыхільнай ласкавасьці Долі.

Тры найвялікшыя войны новай гісторыі вяліся галоўным чынам на тэрыторыі Крывіцкіх зямель. Будучына Усходняй Эўропы вырашалася, за апошнія дваста лет, кожды раз, на абшарах Беларусі. Будучына імпэрыі Пятра Вялікага, у Вялікай Паўночнай вайне, была стратэгічна вырашана не над Палтавай, а ў Беларусі ў бітве пры маленькай вёсцы — Лясной, дзе ў 1708 гаду швэдзкі генерал Левенгаў, на чале 16.000 арміі, быў ў дрызг разьбіты Пятром Вялікім. Аграмадны абоз з багацейшымі прыпасамі для Карла XII, які стаяў пад Палтавай, трапіў у рукі расійцаў і доля швэдаў, аблягаўшых Палтаву, была гэткім чынам вырашана яшчэ да пачатку Палтаўскай бітвы. Перамога над Швэдамі атрыманая ў Беларусі, ўжо ў 1708 гаду, падгатавала Ніштадзкі

мірны трактат 1721 году, які падняў Масковію да роўні вялікіх эўропэйскіх дзяржаваў.

Яшчэ большае значэньне, як тэатр вайсковых апэрацый, адыгрывала Беларусь ў часе вайны 1812 году.

Напольён пастанавіў, адступаўшыя на ўсход перад ім расійскія войскі, прымусіць прыняць рашаючую бітву яшчэ на захад ад Дняпра. Яго план быў гэткі: разрэзаць адступаўшый расійскій фронт яшчэ на тэрыторыі Горадзенскай губэрні, абыйсьці расійскую армію, пад зьверхніцтвам генерала Баграціона, на граніцы Горадзенскай і Менскай губэрній, акружыць і прымусіць здацца гэту армію ў межах Менскай губэрні. Удача гэтага геніяльнага стратэгічнага плану азначала-бы перамогу над Расіяй і прымусіла-бы Аляксандра I да міру. На няшчасьце для Напольёна, яго брат. Іеронім, са сваей арміяй зрабіў ў межах Горадзеншчыны цэлы рад памылак. Баграціону удалося ў час вырвацца з настаўленых Напольёнам цянётаў і адступіць за Днепр. Знамянітаму маршалу Напольёна, Даву, які пасьпяшаў на перарэз за адступаўшай арміяй Баграціона праз Менск, ня ўдалося ўжо затрымаць расійцаў. Увесь вайсковы план вайны 1812 году разбурыўся. Напольён вельмі загневаўся на свайго брата Іероніма і выслаў яго, за несправунасьць, назад у Заходнюю Эўропу. Зробленую абмылку ўжо нельга было паправіць, Напольён пайшоў, на загібель сваей арміі, ў Маскву. Гэткім чынам доля Францускай арміі у 1812 гаду выращана была на абшарах Беларусі, таксама, ях сто чатыры гады раней, ў гэтых-жа самых мясцох выращана была доля Швэцыі і Карла XII.

Вайсковыя апэрацыі ў лістападзе таго-ж 1812 году на берагох Бярэзіны сумысна перабольшаны расійскімі „патрыотамі“. Ў істоце гэты вайсковыя апэрацыі ня мелі рашаючага значэньня для Напольёна і напольёнаўскай Францыі. У кождым здарэньні, са стратэгічнай стараны, апэрацыі лістапада 1812 г. ў Беларусі зьяўляюцца хутчэй сусьпехам вайсковага генія Напольёна і довадам няздатнасьці расійскіх генералаў, голаўным чынам Чычагова і Вітгенштэйна, няздолеўшых адрэзаць астаткаў Вялікай Арміі.

Спусьціўшы сто тры гады, на абшарах многапакутнай Крывіцкай зямлі, ізноў разыгралася страшэнная вайсковая трагедзія. Адступаўшыя перад немцамі расійскія войскі гналі з сабой нешчасьлівых жыхароў Горадзешчыны, Меншчыны і Віленшчыны і палілі сотні тысяч беларускіх сялянскіх будынкаў. Усё дарогі былі загачаны змучанай да паўсьмерці скацежай, вазамі і рухомасьцю беларускіх селян, з нямой роспаччу глядзеўшых на нішчаньне свайго дабра, зьбіранага высілкам некалькіх пакаленьняў.

Ня будземо далей апісываць падробнасьцяў гэтае страшэннае трагедзіі, добра вядомай сягоньня кождаму беларусу і зьвернемся да разгляду вайсковых апэрацый.

Падобна як Напольён у 1812 гаду, нямецкія генералы Гіндэнбург і Людэндорф думалі, восеньню 1915 году, закончыць вайну адным ударам: разрэзаць і пасьля акружыць расійскі фронт на абшарах Беларусі. Начальнік нямецкага генеральнага штабу, генерал Людэндорф, падробна апісвае гэты план у сваіх „Успамінах“. Рашаючую ролю у выпаўненьні гэтага плану павінны былі іграць 12-я нямецкая армія, пад зьверхніцтвам генерала Гольвіца, якая ішла праз Горадзеншчыну і 10-я нямецкая армія, пад зьверхнасьцю генерала Эйхгорна, якая заняла Коўну і Вільню, і якая кіравалася цяпер на Менск. Паводле плану генерала Людэндорфа нямецкія войскі павінны былі прарваць расійскі фронт і заняць Менск, за плячмі расійцаў. Удача гэтага плану безумоўна прывяла-бы да разгрому расійскай арміі і, паводле ўсякой праўдападобнасьці, да заключэньня нямецка-расійскага міру ўжо восеньню, або зімой 1915 году. На шчасьце для расійцаў план Людэндорфа так-жа няў-

даўся, як падобны план Напольёна 103 гады таму назад. Усесьветная вайна ня была закончана на абшарах Крывіцкай зямлі. Замест гэтага расійска-нямецкі фронт спыніўся ўдоўж Беларусі, разрэзаючы яе на дзьве часьці, аднастайна пацярпеўшыя ў чародныя гады ад вайсковых спусташэньняў рэквізыцый, грабяжоў і другіх наступстваў вайсковага змаганяня. Трагедзія беларускага народу і была ў тым, што ён цэлымі гадамі быў разрэзаны на дзьве часьці і што на яго гарбе, яшчэ 15 доўгіх месяцаў немцы і расійцы вялі барадзьбу аб перамогу. Іроніі долі забажалася, каб ні немцы ні расійцы, у рэшце-рэшт не сталіся пераможцамі, а былі пераможанымі. Яшчэ ў горшым палажэньні аказаліся самі беларусы: спустошаны страшэннай вайной беларускі край, лачнымі суседзямі, быў разьдзерты папалам: у аднэй гаспадарыць польскі шляхціц, а ў другой расійскі балшавік. І ня трэба быць прарокам, каб сказаць, што доля гатуе беларускія абшары і яшчэ раз быць тэатрам новых і, можа здарыцца, яшчэ большых вайсковых катастроф для суседзяў, бо кождае аружнае змаганьне паміж Варшавай і Масквой нямінуча разыграецца акурат на Беларусі, устройства паверхні якой ў вельмі высокай ступені адпаведае стратэгічным, а яшчэ больш тактычным мэтодам вядзеньня вайны, пры сучаснай тэхніцы вайсковага умецтва.

---

БРАЧЫСЛАЎ СКАРЫНІЧ.

# Маскальшчына і Эўропа.

Пад гэткім назовам чэская пісьменьніца, Волька Фастр надрукавала стацьцю ў № 230 „Národni politiky“. Дзеля таго, што ў стацьці разглядаецца вельмі цікаўкае і Беларусам пытаньне, падаём яе цэлую ў перакладзе. „Нямецкая інтэлігентная моладзь, кажа В. Ф., мае новую моду: знайшла Дастаеўскага, глытае яго творы і захоплюецца ім. Гэта шырыцца там як пошасьць, так што нямецкія мысьліцелі пачынаюць зварочаць ўвагу, пісаць шмат аб гэтым.

Дастаеўскага ў Нямеччыне лічаць тыповым Маскалём а яго погляды типова маскальскімі. Гэныя погляды розьняцца гэтак ярка ад поглядаў заходняга Эўропэйца а Немца ў асобнасьці, што творыць праўдзівую іх працілежнасьць; нямецкія мысьліцелі бачаць у іх „погляд Усходу“, які стаіць рэзка проці „поглядаў заходу“ і пытаюцца, ці не зьяўляецца зацікаўленьне нямецкай моладзі Дастаеўскім знакам, што усходні погляд пачынае праходзіць у Эўропу і выцясняць там дагэтуляшнія погляды заходу. Яны пытаюцца, ці з гэтае зьмены поглядаў трэба цешыцца, ці наадварот змагацца з ёю?.

У гэтым кірунку Немцы ад нас асталіся; мы, чэская інтэлігенцыя, знайшлі Дастаеўскага і яго літэратурных маскальскіх сяброў на цэлае пакаленьне раней; мы глыталі гэныя кнігі ўжо ў дзевяцьдзесятых годах, перад трыдцацьма гадамі. Так сама на нас рабілі яны глыбокі ўплыў. Як Славяне, мы былі духова бліжэйшымі, маскальскім пісьменьнікам мы былі мяккія, як яны; дзеля гэтага нас іхняя навука гэтак ня дзівіла, як цяпер дзівіць цьвярдых Немцаў. Ім гэта нешта зусім новае, аб чым не маглі й падумаць. Нам ня было новым, бо ў нашай душы Усход заўсёды ходаўся з Заходам, а дзеля гэтага мы заўсёды былі толькі напалавіну заходнікамі.

У чым-жа асноўная розніца, якой немагчыма пагадзіць паміж жіцьцёвым поглядамі Заходу і Усходу?

На Заходзе адрозьнююць дабро ад зла законам. Людзі заходняга сьвету маюць інстынктыўнае пачуцьцё меры і ўдзержуюць свае пачуваньні ў азначаных межах; людзі Дастаеўскага ня маюць пачуцьця гэтае меры і

сваіх пачуваньняў і запальчывасьцяў (страсьцяў) ня ўстрымліваюць. Эўропэйская културa паважае жыцьцё на гэтым сьвеце і стараецца, каб яно было гармонічнае. Яна перакананa, што чалавек мае й мусіць мець гэтулькі духовае сілы, каб усьцерагчыся праступку, што чалавек павінен і мусіць умець сабе загадаць, што павінен і можа сам собою авaладаць. Гэткае думаньне заходняга сьвету ёсьць арыстакратычнае. Яго ідэалам ёсьць чалавек удасканальнены духоўна й фізычна. Эўропа думала гэтак спрадвеку; пераняла гэты погляд на жыцьцё ад антычных Грэкаў і захавала сабе яго дагэтуль.

Наадварот, людзі Дастаеўскага (і іншых маскальскіх пісьменьнікаў), адрозьнююць добро ад зла не законам, але толькі пачуцьцём, дык ім шмат з таго, што мы лічым благім, не здаецца благім.

Асобы маскальскіх рамансаў ня маюць пачуцьця меры, ня стрымлююць сваіх пачуцьцяў і запальчывасьцяў але яны бязудзержныя і ня стыдаюцца гэтага, наадварот хваляцца гэтым. Жыцьце на гэтым сьвеце Маскалю быццам недарагое. У маскальскіх рамансах блізу што ня знойдзеце паміж інтэлігентамі чалавека гармонічнага. Маскалі задаюць сабе страшное пытаньне, які апошні сэнс мае тутэйшае жыцьцё і ці мае наагул які сэнс? Некаторыя адказуюць, што яно сэнсу зусім ня мае, дык здаецца ім лішняй наша моральнасьць, наша дысцыпліна, наша самапасьвята — хадзіла-б, значыцца, толькі аб тое, каб як найбалей на гэтым сьвеце „ужыць“. Іншыя правяць, што мэтаю жыцьця мае быць Бог, але іх Бог такі надлюдзкі, такі накшы ад харaства й сілы гэтага жыцьця, такі іншы, чымся чалавек, што да яго чалавек і дaступіцца ня можа; а з гэтага становішча немагчыма наагул якоесь гармонічнае людзкое жыцьцё. Людзі Дастаеўскага (й рэшты), ня маючы за што пэўнае прыдзержыцца, няпэўныя, хісьлявыя, несўпакойныя, бываюць жэртвамі цёмных інстынктаў, не патрапяць сабе загадаць. „Чалавек ня ёсьць гаспадаром сваіх інстынктаў“ гэта найакутратнейшае перакананьне Дастаеўскага (і рэшты). Чалавекам валадае або Бог, або чорт і нельга працівіцца злу.

А гэта найгрунтаўнейшы духоўны разьдзел паміж Заходам і Ўсходам.

Сьвет Дастаеўскага (і іншых Маскалёў) ня мае ніякае самасьвядомасьці заходняга чалавека. „Я чалавек і нічога людзкога не адракаюся!“—„Мы ўсе грэшнікі!“ Вось вучэньне Дастаеўскага. З гэтага становішча ніякае розніцы няма паміж людзьмі найнягоднейшымі і найдабрароднейшымі. Усе роўныя.

Усходні чалавек пакорны, бо ня можа змагацца сам з сабою; заходні горды, бо змагаўся сам з сабою і ў змаганьні перамог.

Мы, Чэхі, перад вайною хінуліся да думкі, што правільнейшы й вышэйшы поглян маскальскі, усходні, мы былі гэткія кволыя, што ледзь самі сябе не пыталіся. ці ня ёсць быцьцё нашага малога народу толкі перешкодаю ў разьвіцьці народу вялікага й магутнага, паміж якога нас доля паставіла.

Цяпер аднак мы вылечыліся ад гэтае ўсходняе хваробы.

А калі кажа хто, што маскальскі погляд гэта погляд, маладога народу, які з часам сусім возьме верх над поглядам састарэлага заходняга сьвету, здаецца нам, што гэта погляд абмылковы. Ці ня гэты маскальскі фаталізм барджджэй будзе пераняты з далёкага Орыенту, якога культура шмат, шмат старэйшая, чымся нашая?

Толькі стары чалавек збываецца энэргіі, сашчапляе рукі, робіцц фаталістам.

Але чалавеку маладому й дужому карціць гэтая абломаўская нядзейнасьць, гэта неабарона ад зла. Чалавек малады верыць, што яго воля ду-

жэйшая за ўсё іншае, я сваёй энэргіяй рупліва адкідае перашкоды на шляху да сваей мэты. Дык ці не заходняя Эўропа маладзейшая, чымся ўсходняя Маскальшчына? Ці не барждж эй маскальшчына, патрэбуе адраджэньня ад Эўропы, а не наадварот? Ці не патрэбна, каб орыентальную апатыю там адмяніла сьвежая, радасная, маладая энэргія Заходу?

Каторы погляд возьме верх сярод белых на зямлі: погляд заходні ці ўсходні? Некаторыя кажуць, што бытцам гэта будзе Ўсходні.

Заход ад гэтага бароніцца, Заход яшчэ ня хоча стацца другім Кітаем, а мы, Чэхї, ня гледзячы на тое, што па крыві належым да Славян, значыц ца да Ўсходу, прылучаемся ў гэтай справе да Заходу

Не, ня хочам паорыентальшчыцца, ня хочам загразнуць у орыентальную летаргію, містыцызм, фаталізм. Гэта мы, навучаныя цяжкімі дазнаньнямі, сказалі сабе зараз па вайне.

У Нямеччыне аб гэтым пытаньні думаюць толькі цяпер. А гэта так сама адзін з сымптомаў глыбокага змучаньня і слабасьці, гэтага раней так гордага, а цяпер гэтак крэпка паніжанага народу".

Нельга ня згодзіцца з вывадамі В. Фастр аб поглядзе заходнім і ўсходнім. Аднак некаторыя пабочныя яе думкі ў гэтай стацьці вымагаюць паправак.

Зусім справядліва адносіць аўтарка Маскалеў да ўсходняе культуры, але нельга гэтага рабіць з усімі Славянамі. Славяне, як з цывілізацыйнакультурнага боку, так па свайму географічнаму палажэньню і блізкай кроўнасьці па крыві з Балтамі (Ліцьвінамі, Латышамі й інш.), ды, хоць далейшай радні, з другімі арыйскімі народамі, адносяцца да заходу. Дзе вы знойдзеце ў Славян гэты шчыра азіяцкі містыцызм, што даходзіць ажно да хлыстаўства, дзе знойдзеце абшчыны (сябрыны), дзе знойдзеце непраціўленьне злу?

Старавечныя Грэкі пачыналі Азію на ўсход ад Дону, дзе й прырода мае азіяцкі выгляд, іншы чымся на захад ад гэнае ракі, але ніколі не пачыналі Азіі ад Дняпра ці Нёмна.

Іншая справа Маскалі: у іх ня толькі ўсходняя цывілізацыя з тонкім заходнім полерам, але, як шчыра прызнаюцца „эўразійцы", няма Маскаля, у жылах якога не цякла-б мангольская кроў.

Асобна трэ, сказаць некалькі слоў аб Украінцах. Іх пісьменьнікі кажуць, што паўночна заходняя земляробская Украіна, з сваёй заходняй цывілізацыяй, перамагла паўднёва-ўсходнюю сьцепавую й замяніла яе сьцепы ў нівы, але з сьцяпоў погляд усходні больш пашырыўся па Украіне, чым погляд заходні. Перавага земляробскае Украіны над сьцепавой дала перамогу этнічную украінскаму элемэнту, ад перамогі заходніх поглядаў над сьцепавымі, ўсходнімі, украінскія мысьліцелі спадзяюцца перамогі украінскае нацыянальна-палітычнае ідэі, і, лічаць патрэбнай працу, дзеля дапяцьця гэтае перамогі заходніх поглядаў ў Украіне.

Што В. Фастр так лёгка залічыла Славян да Ўсходу, можна выясьніць прывычкаю бачыць у маскалёх „славянскіх старшых братоў" і гэткім парадкам асаблівасьці маскальскія перанасіць на ўсіх Славян, бо інакш нарушылася-б жаданая славянская суцэльнасьць. Калі маскальскі погляд мог шырыцца ў Чэхаў, калі ён можа шырыцца ў Беларусоў, дык гэтаму прычына тая-ж, чаму ён цяпер можа шырыцца і ў Немцаў, прычына, як кажа В. Ф., у зьнямозе і слабасьці. Тут аналёгія чыста біолёгічнага закону: да слабога чалавека лёгка прыстаюць усялякія хваробы. Палітычныя-ж сымпатыі Чэхаў

да Маскальшчыны рабілі тое, што маскальскія погляды не здаваліся ім такімі дзіўнымі й прыкрылі, якімі яны здаюцца хоць-бы Немцам. Словы В. Ф., што —Чэхі паміж Немцаў і Маскалёў,—я разумею ў значэньні культурных уплываў, бо географічна—паміж Чэхіяй і Маскальшчынай ляжыць Украіна.

Трэба также адцеміць, што Дастаеўскі быў не Маскаль, але абмаскалелы Беларус, якога і бацькі пэўне ўжо былі абмаскаленыя. Як абмаскалены, Дастаеўскі мог выказываць ў сваіх творах чыста маскальскія погляды, тым балей, што ён дасканальна знаў маскальскае жыцьцё. Але нам апрача гэтага здаецца, што ў творах Дастаеўскага маюцца і элемэнты заходнія, беларускія. Якраз гэтыя беларускія, заходнія элемэнты й зьяўляюцца тым мостам, па якім творы Дастаеўскага робяцца даступнымі заходняму чытачу. Ведама, гэтаму памагае яшчэ геніяльнасьць Дастаеўскага як псыхолёга і мастака слова.

---

# Матэрьялы да беларускага зельніка.

Ніжэйпададзены слоўнічак собраны між 1911 і 1914 годам, часьцю ў Лепэльшчыне і Дзісеншчыне, а часьцю ў Пружанскім павеце (аколіцы Шэрашэва і Селец). Праверany і дапоўнены паводле: а) M. Federowski Lud Białoruski na Rusi Litewskiej“ T.I (Krakow 1897) і б) Носовіч „Словарь бѣлорусского нарѣчія“ (СПБ. 1870). Ня мог я дастаць, з вядомай мне літэратуры, Эўстахага Тышкевіча „Opisanie Powiatu Borysowskiego“ і стацьці Э. Ожэшковай „Ludzie i kwiaty“ друкаванай у „Wisle“. З апошніх двох прац, у першай маецца некалькі дзесяткаў найменьняў беларускіх расьцін сабраных у Барысаўшчыне каля 1820-х гадоў; у другой—найменьня беларускіх расьцін запісаныя у Горадзеншчыне ў 1890-х гадох.

Трэба заўважыць, што чыста беларускія назовы расьцін, у апошнія два дзесяцілецьця хутка пачалі народам забывацца, пад ўплывам чужой кніжнасьці, дзеля гэтага даўнейшыя запісі заслугоўваць на большую веру. Пры гэтым, часта бывае што назовы ў розных мяйсцох не зыходзяцца і крыжуюцца; прыкл.: каля Кубліч мне называлі Дурэц (Andromeda polifolium) Блёкатам (Hyostiomus niger), а ў Хралове (Дзіс. пав.) Шалеям (Cicuta virosa). Гэткія назовы прыходзілася устанаўляць шляхам сыстэматычных допытаў, прычым прыходзілася карыстацца перапіскай, ў якой, за некалькі гадоў, таксама, сабралася багата цэннага матэрьялу да беларускай батанічнай тэрмінолёгіі, які я думаю, ў адным з чародных нумэроў „Крывіча“, апублікаваць, як ужо усыстэматызаваны. Займаўся я справай зьбіраньня матэрьялаў да беларускага зельніка, не як спэцыяліст, а як аматар, між іншай сваей працай, дык калі ўкраліся якія памылкі, прашу сьвядомых гэтай справы, ласкава паправіць і не марокаваць лішне што ня выпаўніў ўзятай на сябе працы згодна вымогам навейшых дасьціжэньняў прыродазнеўства.

| | |
|---|---|
| Acer tataricum | Чорнаклен. |
| „ Pseudoplatus | Явар. |
| „ platanoides | Клён востралісты. |
| „ campestre | Клянец. |
| Aconitum | Барунка. |
| „ Lycoctonum | Мышабой. |
| „ Napellus | Барчак. |
| Acorus calamus | Аір, аер, авір. |
| Adonis vernalis | Чараквет. |
| Aegopodium podagraria | Сьнітка. |
| Agaricus deliciosus | Рыжык, рыжок. |
| Agrostema Githago | Тугаль, кукаль. |
| Ajuga reptans | Казакі. |
| Alchemilla vulgaris | Гусіные лапкі. |
| Alisma Plantago | Шаленец. |
| Allium Cepa | Цыбуля. |

| | |
|---|---|
| „ oleraceum | Часнык палявы. |
| „ sativum | Часнык гародны. |
| Alnus glutinosa | Альшына чорная. |
| Althea rosea | Мальва |
| „ officinalis | Сьляз гародны. |
| Amamta muscaria | Мухамор. |
| Amaranthus blitum | Зельбор, зельборнік. |
| Anagallis pheonicea | Дзарабейніца. |
| Andromeda polifolia | Дурэц. |
| „ calyculata | Пьянец, дурнапьян. |
| Anemone silvestris | Дуброўка. |
| „ nemorosa | Пралескі, пралесачкі. |
| Angelica silvestris | Дзягіль. |
| Anthericum Liliago | Вяночнік. |
| Anthyllis vulneraria | Пералётнік жоўты. |
| Arisarium | Клясьцец. |
| Aristolochia longa | Какарнак. |
| Armeria vulgaris | Барадульнік. |
| Arnica montana | Арнік, гарнік, купальнік. |
| Artemisia Abrotanum | Божадрэўка. |
| „ Absinthium | Палын |
| „ vulgaris | Чарнобыль, чарнобыльнік, быльнік. |
| Asarum europaeum | Капытнік. |
| Asplenium Filix femina | Папарацень, папаратнік. |
| Astragalus glycyphyllus | Паўзун лесавы. |
| Atropa Belladonna | Красаўка. |
| Avena sativa | Авёс, гавёс. |
| Azalea pontica | Азалія, палоткі. |
| Berberis vulgaris | Кісьлец, кісьлянка. |
| Beta Cicla | Бацьвіньне. |
| Betula alba | Бяроза. |
| Boletus edulis | Шчыры, праўдзівы грыб, баравік. |
| Botrichium lunaria | Ужавое зельле. |
| Brassica oleracea | Капуста. |
| „ Rapa | Рэна. |
| Briza media | Балотная мятліца. |
| Bromus secalinus | Кастрэц. |
| Brunella vulgaris | Чарнагубка. |
| Bryonia alba | Пераступ, пераступнік. |
| Bulbocodium ruthenicum | Бурандульнік, варыўнік. |
| Bupleurum aureum | Зайча капуста, валодаўнік. |
| Calamintha cenopodium | Тымянкі. |
| Calamintha acinos | Парушэнец. |
| Calendula officinalis | Нагаткі. |
| Calluna vulgaris | Верас, вераст. |
| Calystegia sepium | Павітуха. |
| Cannabis sativa | Каноплі. |
| Capsella Bursa Pastoris | Чарвец, чарвічнік. |
| Carduus acanthoides | Чортапалох. |
| „ crispus | Асот. |
| „ benedictus | Дзедзіль, дзядзюх. |
| „ palustris | Дзядоўнік. |
| Carpinus Betulus | Граб. |
| Carthamus tinctorius | Крокас, ламотніца. |
| Centaurea Cyanus | Валошка, васількі. |
| Chrysosplenium alternifolium | Мянюшкі. |
| Cicuta virosa | Шалей. |
| Cichorium intybus | Мачаўнік. |
| Cinnamomum zeylanicum | Цынамон. |
| Clematis integrifolia | Апавойнік. |
| Clinapodium vulgare | Крэселцы. |
| Cochlearia Armoracia | Хрэн. |
| Convallaria majalis | Канвалія, краспак. |
| Cornus sangvinea | Сьвідніца. |
| Coronilla varia | Паўзун палявы. |
| Crocus | Шафран. |
| Cucumis sativus | Гурок, агурок. |
| Cucurbita Pepo | Гарбуз. |
| Cynara Scolimus | Карштук. |
| Cyana cordunculus | Качах. |
| Daphne Mezereum | Воўча лыка, ваўчынец. |

| | |
|---|---|
| Datura Stramonium | Бялун, дурэц, дурнапьян, чортаў агурэчнік. |
| Daucus Carota | Морква. |
| Delphinium | Жывакост. |
| „ Consolida | Казелчыкі, казялкі. |
| Dianthus deltoides | Сардэчнік. |
| Drosera rotundifolia | Загардушка. |
| Eqvisetum arvense | Скрып. |
| „ hyemale | Вехатнік. |
| „ limasum | Яленец, ёльнік. |
| „ sylvaticum | Зялезьнік. |
| „ pratense | Арэшнік сьвінны. |
| Erica vulgaris | Верас. |
| Erigeron acer | Дольнік. |
| Euphorbia helioscopia | Малачай, месячнік. |
| Euphrasia officinalis | Пельнік. |
| Evonimus | Брусьлён. |
| Farsetia incana | Грымотнік. |
| Festuca | Асьцюк. |
| Filago arvensis | Касмотка, чарвяточнік. |
| Fragaria vesca | Паземкі, чырвоныя ягады, суніцы. |
| Fraxinus excelsior | Ясень. |
| Galium Mollugo | Урочнік белы. |
| „ verum. | „ жоўты. |
| Genista tinctoria | Прытуліца, жоўтазёл, жаўцічнік, жоўсцень. |
| Geum rivale | Смаляркі. |
| Glechoma hederacea | Разходнік. |
| Gnaphalium dioicum | Сухотнік, |
| „ uliginosum | Аплавічнік |
| Goodyera repens | Культанка. |
| Grataegus melanocarpa | Галабоднік, глот. |
| „ oxyacantha | Галабень. |
| Hedera Helix | Блюшч. |
| Helleborus niger | Чамярычнік, чамернік, чэмер. |
| Heracleum spondylium (Sibiricum) | Бядрыца, боршчаўка. |
| Herniaria glabra | Пяшчанка, заячнік. |
| Hieracium Pilosella | Ястрэц. |
| Hierochloa borealis | Зуброўка. |
| Hordeum vulgare | Ячмень. |
| Humulus lupulus | Хмель. |
| Hyacinthus | Гіяцынт, лабатнік, лабаток. |
| Hypericum perforatum | Сьвятаянскае зельле, сьвятаянкі, расанкі. |
| Hyoscyamus niger | Блёкат. |
| Hyssopus officinalis | Крузьбень, красьвень, красьвяк. |
| Iasione montana | Начнік, начніца, начаквет. |
| Impatiens | Бальзамінка. |
| Imula Helenium | Дзевасіл, дзевасільнік. |
| Iris | Касачы. |
| „ Pseudacorus | Касатнік. |
| Juniperus communis | Ялавец, яленец. |
| „ Sabina | Ялавечнік. |
| Knaucia arvensis | Раннік, гаец, гойнік, паўночнік. |
| Lappa tomentosa | Лапушнік, лапух. |
| Ledum palustre | Багун, багульнік. |
| Leonurus Cardiaca | Глухая крапіва шанта. |
| Levisticum officinale | Любчык, любіста сардэчнік, ладук |
| Lichen | Ліпаўнік. |
| Lillium candidum | Лілея. |
| „ Martag | Лілея палявая. |
| Linaria vulgaris | Блашчынец, лянок |

| | |
|---|---|
| Lolium tremulentum | Галавіца. |
| Lonicera Xylosteum | Бружэліна, сухадрэўка. |
| Lotus corniculatus | Руцьвіца, трызаўка. |
| Lychnis dioika | Панчошнік. |
| Lycopodium claratum | Дзераза. |
| Lycoperdon | Порхаўка, бздюшка. |
| Lynosyris villosa | Груднічнік. |
| Lysimachia Nummularia | Самазялённік, зімазялён. |
| Lytrum salicaria | Сьлёзьнік. |
| Malva Alcea | Сьляз. |
| „ crispa | Гардавіца. |
| „ rotundifolia | Шалезькі. |
| Matricaria Chamomilla | Румянка. |
| Medicago falcata | Баркун. |
| Melilotus alba | Сьвінуха. |
| „ officinalis | Малясьнік. |
| „ sativa | Стрыбальнік, вязельнік. |
| Melittis Melissophyllum | Уплаўнік. |
| Mentha arvensis | Мята, шанта. |
| „ srispa | Мята бахматая. |
| „ silvestris | „ перная. |
| Menyanthes trifoliata | Бабок. |
| Narcissus | Нарцыз, прымак. |
| Nepeta Cataria | Маліца. |
| Nicotiana rustica | Тутун. |
| Nymphea alba | Лілея вадзяная, латуцень белы. |
| Ocium Basilicum | Васілька лугавая. |
| Oenothera biennis | Дзіваннік дзікі. |
| Ophioglossum | Вужава зельля. |
| Orchis latifolia | Язвежнік. |
| Origanum Majorana | Майран. |
| „ vulgare | Мацярдушка, душанка. |
| Ornithogalum | Вярбельнік. |
| Oxalis | Кісьлятніца. |
| Paraver somniferum | Мак праўдзівы. |
| „ officinalis | „ самасей, відук. |
| Pedicularis palustris | Прорва, гнідпік. |
| Petroselinum sativum | Пятрушка. |
| Phaseolum vulgaris | Пасоля, хвасоля, жыдоўскі боб, касьляч. |
| Pimpinella Saxifraga | Ядранец. |
| „ Anisum | Ганыж, аныж. |
| Pinus silvestris | Хваіна, хвоя. |
| Pirola sekunda | Станоўнік бабскі, сісінец. |
| Plantago | Трыпутнік. |
| „ lanceolata | Міжыперсьніца. |
| „ major | „ гладкая. |
| „ media | Шпарнік, шпарніца. |
| Platantera bifolia | Чараўнік, прычар. |
| Polygonum Bistorta | Вобарацень, кастацец. |
| „ Persicaria | Драсён чырвоны. |
| Populus nigra | Топаль. |
| „ alba | Ясакар. |
| „ tremula | Асіна. |
| Potentilla Tormentilla | Дзеравянка. |
| Prunella | Чарлянка, чорнагалоўка. |
| Primula veris | Грабелькі. |
| „ officinalis | Ключыкі. |
| Prunus avium | Чарэшня. |
| „ padus | Чаромуха, чаромха, калакуша. |
| „ spinosa | Шыпшына, жасьцер. |
| Pulsatilla patens. | Друмель. |
| „ pratensis | Дрымотнік. |
| Quercus | Дуб. |
| Ranunculus | Курасьлеп. |
| „ aeris | Жарквет. |
| „ arvensis | Курасьлепік, курынец. |
| „ Fcaria | Чыстацел. |
| „ Fammula | Прышчынец, прышчаўнік. |
| „ repens | Жаўтушнік. |

| | |
|---|---|
| „ scelaratus | Нарыўнік. |
| Rhamnus catharlica | Крушына |
| Rosa | Рожа, рўсальніца, русакрасьвіца. |
| Rubus edesius | Ажына. |
| „ fruticosus | Маліна. |
| Rumeks Acetosa | Шчавей, шчаўе. |
| „ Aecetosella | Шчаўлюк. |
| „ Hydrolapatum | Конскі шчавей. |
| „ obtusifolius | Карнач. |
| Ruta graveolens | Рута. |
| Salvia officinalis | Шалвей, дужэц. |
| Sambucus Ebulus | Бэз. |
| „ nigra | Бэз чорны. |
| Satureja hortensis | Чалібор. |
| Scabiosa | Вераднік, перапелячнік. |
| Scilla bifolia | Пралескі. |
| Silvia dunetorum | Жаўрэц. |
| Secale cornutum | Вароня вока, клышы, клышоўнік, спарынец. |
| „ cereale | Жыта. |
| „ cer. ver. multicaule | Ярыца. |
| Sedum acre | Адцытнік, сытнік. |
| „ Telephium | Залозьнік. |
| Sempervivum | Скочка, гартанка. |
| Senacio vernalis | Нятупнік, нічавей. |
| „ Jacobea | Гойнік, сухотнік. |
| Silene inflata | Лусьнец, лускаўка, калетнік, |
| Solanum Dulcamara | Глісьнік, залознік. |
| „ tuberosum | Бульба. |
| Solidago Viraurea | Уплаўнік. |
| Sorbus Aucuparia | Рабіна, гарабіна. |
| Spirea | Спырнік. |
| Statica | Жудрэц. |
| Stellaria media | Макрэц, макрыца белая. |
| Svertia obsuta | Гарчанка. |
| Symphytum officinale | Жывакост. |

| | |
|---|---|
| Syringa | Бэз. |
| Tanacetum vulgare | Піжма. |
| „ Balsamite | Калуфар. |
| Taraxacum officinale | Багатка. |
| Thalictrum augustifolium | Руцьвянка. |
| „ flavum | Вярэдаўнік. |
| „ majus | Падучнік. |
| Thymus serpyllum | Чабор, чабрэц. |
| Tilia | Ліпа. |
| Trifolium montanum | Дзяцеліна. |
| „ arvense | Мядуніца, мядунка. |
| „ agrarium | Мядзеліна. |
| Trollius curopeus | Купальніца. |
| Tulipa sylvestris | Гардук. |
| Tussilago Farfara | Падбел. |
| Urtica dioica | Крапіва. |
| Valeriana officinalis | Аурыян, валерьян[illegible] |
| Verbascum | Каўтычнік, дзяв[illegible]н |
| Veronica Baccabunga | Бабоўнік, казарост |
| „ officinalis | Сухотнік лесавы. |
| Viburnum Opulus | Каліна. |
| Vicia | Боб. |
| Vicia pisiformis | Гарошак, гарошнік. |
| Vinca minor | Барвінец, барвінак. |
| Viola canina | Уразьнік, парушэнец. |
| „ tricolor | Браткі, брат з сястрою |
| Vitis hederacea | Блюшч. |
| Zea mais | Кукуруза, какорыца. |

В. Л—кі.

ЯНКА СТАНКЕВІЧ.

# Патрэбна борздая дапамога.

Гэтакая борздая дапамога патрэбна дзеля ўдзяржаньня й разьвіцьця нашых сярэдніх школ.

Ня будзем тут гутарыць аб беларускіх сярэдніх школах у Беларусі, якая пад камуністамі, бо там іхнае разьвіцьцё залежыць наўперад ад беларускіх культурных сіл палажэньне гэтых школ ня так благое ў прыраўнаньні да школ іншых часьцей Бацькаўшчыны, ня будзем казаць аб дзьвех беларускіх сярэдніх школах у Лацьвіі (гімназія ў Дзьвінску й Люцыне), бо там пры справядлівых адносінах да беларускага насяленьня латыскага ўраду, школы гэтыя матэрьяльна забясьпечаны, ім нічога не грозіць і разьвіцьцё іх узноў такі залежыць, можна сказаць вылучна, ад працы сьвядомых і наўперад культурных Беларусоў, затое мусім зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсяго нашага грамадзянства на крытычнае палажэньне беларускіх сярэдніх школ у заходняй Беларусі.

У заходняй Беларусі ёсьць 5 беларускіх прыватных гімназій: у Вільні, Навагарадку, Радашкавічах, Нясьвіжы й Гарадку. У Вільні гімназія чыста беларуская, гэта значыцца, што выкладоваю моваю ў усіх клясах зьяўляецца мова беларуская. Гэтая-ж, здаецца, гімназія і ў Радашкавічах. У Навагарадку, Нясьвіжы й Гарадку ў 3—4 старшых клясах навука вядзецца ў расійскай мове а ў 4 малодшых па беларуску, пры гэтым так, што з кожным новым годам аднэй беларускай клясаю робіцца балей (летась было па 3, сёлета па 4, к налецьцю будзе па 5 і г. д.).

З усіх гэтых школ толькі адна віленская гімназія даставала да сёлетняга школьнага году нязначную ўрадовую дапамогу, іншыя 4 гімназіі гэтае дапамогі ніколі не даставалі, а сёлета й віленскай гімназіі дапамога адабрана. Дык усе пяць гімназій мусяць існаваць на свой собскі кошт, г. зн. на грошы, што плацяць вучаньнікі ды мо яшчэ на падмогу ад сьвядомага (бо несьвядомае ня дасьць) беларускага грамадзянства.

Прыгледзімся ўважней, у якіх варунках гэтыя школы. каб пазнаць, якая іх можа быць барацьба зе сваё быцьцё.

Непрыяцеляў беларускія сярэднія школы пад Польшчаю маюць гэтулькі, што трэба дзівіцца як яны трываюць. Наўперад перашкоды з боку польскае ўлады. Ня будзем аб іх шмат казаць, кожды хто хоць крыху знае жыцьцё ў заходняй Беларусі, ведае як цяжка там адчыніць беларускую школу і працаваць у ёй. Другую перашкоду робіць абмаскалелае беларускае вучыцельства ды такая-ж абмаскалелая часьць праваслаўнага духавенства.

Кім-жа зьяўлюецца вучаньнікі нашых гімназій, г. зн. тыя, хто сваёй платаю за навуку маюць удзержаваць гімназію? Апрача віленскае гімназіі, дзе вучыцца й крыху дзяцей урадніцкіх, духоўных ды дзяцей сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі, беларускія клясы ўсіх іншых нашых гімназій запоўнены вылучна дзяцьмі беларускіх сялян. Жыды, якія вучацца ў маскальскіх клясах беларускіх гімназій, у беларускія клясы на правінцыі дзяцей не пасылаюць. З сялян-жа, якія ймкнуцца пасылаць сваіх дзяцей у гімназыю, толькі нязначная частка можа плаціць за навуку сваіх дзяцей. Рэшта пры ўсім старэньні гэтае магчымасьці ня мае, асабліва у цяперашнія нягодныя часы, калі ўсё зруйнавана, усюды трэба даць а дастаць няма скуль.

Дык вось як бывае. Спачатку школьнага году ў беларускіх гімназіях дзяцей поўна. Але як пачнуць толькі спаганяць плату за навуку як 3/4 іх разьбягаюцца, адны варочаюцца дамоў, а іншыя пераходзяць тут-жа ў польскія гімназыі і пол. вучыцельскія сэмінарыі. Пераходзяць таму ў пол. гімназыі, што ў іх, як урадовых, плата за навуку шмат меншая, чымся ў бела-

рускіх, а ў пол. вуч. сэмінарыях і сусім за навуку ня плацiцца. Ды у беларускіх гімназіях астаюцца толькі дасгатныя, навет толькі тыя з іх, якія або праўды нацыянальна-сьвядомы, або балей ненавідзяць палякоў, . чымся любяць сваю кішаню,

Важнымі прычынамі таго, што нам цяжка ўдзержаваць нашы сярэднія школы, зьяўляецца, як бачым, няпрыязныя адносіны ўлады й несьвядомасьць нашага народу.

Але не адны гэтыя прычыны. Аўтар гэтых радкоў сам асабіста знае многіх гаспадароў—беларускіх патрыётаў, якія, ня гледзячы на сваё жаданьне, ахвоту і здольнасьць да навукі дзяцей, з прычыны свае нястачы ня могуць іх вучыць у гімназіі. Зьвернем тут увагу на тое, што яшчэ дагэтуль блізу што ў усіх народаў большасьць вучанікаў сярэдніх школ складаюць дзеці буржуазіі бюрократыі й паноў. Сяляне-ж найчасьцей абмежуюцца агульнымі пачатковымі школамі (як прыкладам у Чэхіі 5 гадоў пачатковае школы й 3 гады мескае школы). Гэткім парадкам мы ня толькі мусім доляцца з няпрыязнымі да нас адносінамі ўлады і з нашымі „нацыянальнымі“ хваробамі, як несьвядомасьць народу, рэнэгацтва інтэлігенцыі й г. д., але й адначасна тварыць тое, чаго яшчэ ня маюць іншыя дужэйшыя, сьвядомыя нацыянальна й свабодныя народы—тварыць сярэднія с я л я н с к і я школы. Гэта зьяўляецца іншай галоўнай прычынаю таго, чаму нам тварыць сярэднія школы так цяжка. Але тварыць іх мусім, бо ад гэтага залежыць, ці мы адродзімся, станем свабоднымі й шчасьлівымі, ці не. І мы іх створым; гэта паказывае нам прыклад нашых бліжэйшых суседзяў—Ліцьвіноў Латышоў і Эстонцаў, якія так сама як мы, утраціўшы сваю інтэлігенцію, мусілі каваць яе з народнае гушчы, з сялян. М ы і х з м о ж а м с т в а р ы ц ь, к а л і з а х о ч а м, і з а в і н ё м с я к а л я г э т а г а п р а ц а в а ц ь, а л е с а м і я н ы н я с т в о р а ц ц а. Іншымі славамі, калі мы пакінем нашыя сярэднія школы доляцца адным за сваё істнаваньне, дык яны бяссумлеву загінуць, але калі ўсе сьвядомыя Беларусы пачнуць арганізавана памагаць сваім сярэднім школам, дык яны выдзяржаць цяжкі час у сваім жыцьці і шчасна пачнуць разьвівацца.

Патрэбу гэткае арганізаванае падмогі зразумелі беларускія студэнты ў Празе й арганізавалі ўжо „Т-ва прыяцеляў Беларускае сярэдняе Школы“. Т-ва гэтае мае мэту памагаць наагул сярэднім беларускім школам у зах. Беларусі, але наўперад хоча памагчы беларускім 4 клясам гімназіі ў Навагрудку. Гэтая гімназія перажывае найкрытычнейшую часіну. У вышэйшых (маскальскіх клясах Навагородзкае гімназіі большасьць вучняў складаюць дзеці жыдоўскае буржуазіі, тады як у малодшія (беларускія) клясы жыды сваіх дзяцей не пасылаюць. Дагэтуль было так, што ўся плата за навуку, ня гледзячы з якіх кляс яна дастана, ужывалясяна на патрэбы ўсяе школы. Цяпер жа бацькі-жыды вучняў маскальскіх кляс і абмаскалелае вучыцельства вышэйшых кляс, лічачы несправядлівым, што грошы дастаданыя з вышэйшых кляс ідуць і на ўдзяржаньне кляс малодшых з якіх дастаецца недаволі платы за навуку, адлучылі ў справах аканамічных маскальскія клясы ад беларускіх. Пры гэткім палажэньні 4 беларускія клясы Новагородзкае Беларускае гімназіі без энэргійнай падмогі грамадзянства прымушаны будуць зачыніцца.

Вельмі патрэбна, каб гэткія т-вы арганізаваны былі і ў многіх іншых мясцох.

Пасылаць дапамогу беларускім сярэднім школам у заходняй Беларусі можна ў Цэнтральную Беларускую Школьную Раду (адрэс: Вільня, Віленская вул. № 12 кв. 6).

Доля нашых сярэдніх школ залежыць ан нас. Дык ратуйма іх! Мы спадзяёмся, што й грамадзянства спагадаючых нам народаў паможа нам у гэтай справе.

---

# Запіскі.

**З прыгоннай мінуўшчыны, або-аб упорстве беларускага селяніна.** У № 9-м журнала „Об‘единіе“ з 1911 г. знайшоў я цікавы артыкул аб упорстве беларускага селяніна. У 1840 г. чыноўнік Міністэрства Унутраніх Спраў, Шчукін, апісываючы жыцьцё прыгоньнікаў, між іншым, піша: „Мы вялікарусы ня можам нават мець паняцьця аб беларускім хлебс. Дзеля гэтага трэба самому бачыць і папрабаваць яго“. Далей ён апісывае падробна гэты хлеб: як намалочаные зёрны ня сеюць і ня веюць, а з мякінай разам мелюць, пасьля чаго выходзіць „мука крупная са сьпіцамі“. З гэтай мукі нават не прасеянай выпякаюць хлеб, які, калі ўзяць у губу дык „зараз-жа пачуеце ня языку і паднябеньні застрамкі, а калі праглынуць, ў жываце будзе рэзь“. І далей гэты чыноўнік шчыра тлумачыць прычыну беднасьці селяніна беларуса: „памешчыкі і арэндатары пьюць селянскую кроў“. Іначай мяркаваў аб гэтым ў 1824 г. Беларускі генерал губэрнатар князь Хаванскі. У весь карэнь зла бачыў ён у благой волі і ўпорстве самога селяніна. І вось памятаючы дзенна і ночна аб дабрэ краю надумаў ён „для фізычных сіл беларускага народу паправы строга забараніць карміцца пушным хлебам, а асабліва з саломай, зрабіўшы забарону гэту ведамай праз апавешчаньне яе ў царквах“, аднак на свой адказ гэткую сурьёзную рэформу губэрнатар ня ўзяў, а раней сьпісаўся з Міністэрствам.

Халодны і цьвярозы Пецярбург паглядзеў на справу іншымі вачамі: „Калі ў беларускіх губэрнях і стала звычайным карміцца пушным хлебам то гэты звычай натуры чалавечай праціўны ня мог мець іншай крыніцы, акром заусёдна не выстарчаючый ураджай. Каліб знайшлося магчымым зрабіць ураджай больш багатым, то тлумачэньне селянам наагул было-б лішнім, бо гэты звычай, есць хлеб з саломай, як мінула б патрэба, сам сабой сыніўся-бы і селяне ахвотна зьвярнуліся-бы да лепшай і больш сытнай ежы. У адваротным здарэньні ніякія срогія забароны ня могуць мець ўплыву“.

Але гэта адповедзь не ахаладзіла князя і ён зноў піша: „Праўда, што першапачатковай прычынай звычаю селян карміцца хлебам з мякінай быў безумоўна недастатак прадуктаў. Але пазьней гэты звычай абярнуўся ў прывычку, каторая і пасьля таго як мінуў недастак, асталася ў сіле“.

Далей даводзіць ён, што нават у раджайные гады, калі Беларусь значны лік хлеба вывозіла праз рыжскі порт заграніцу, селяне ўсё роўна карміліся хлебам з мякінай. „Есць і такіе памешчыкі“, прагаварыўся пад канец добры князь, „каторыя стараюцца падтрымліваць паміж селянамі звычай карміцца хлебам з мякінай“.

Ці князь пераканаў міністэрства, ці яно не хацело укрыўдзіць вернага слугу, але урэшце пайшло на спатканьне яму: дазволіла, зрабіць селянам „навуку, але срогіх спосабаў не стасаваць“. Дзеля прыкладу патомным гэтая пастанова зьмешчана ў 39-м томе „Полного Собранія Законов“.

Даволі характэрны артыкул як малюнак палажэньня беларускага селяніна ў першай палове XIX стагодзьдзя. Зразумела тут я выбраў толькі найбольш характэрные мейсцы. На жаль больш акуратных дат аўтор не прыводзіць, таму праверыць праўдзівасць гэтых дакумэнтаў не зьяўляецца магчымым, а прыходзіцца пакідаць іх ня сумленьні аўтора.

Ул. Пігулеўскі.

**Андрэй - Казімер Ягайлавіч.** Малодшы сын Ягайлы і Софіі Гальшанскай, Казімер, на Беларусі і наагул ў Русі вядомы быў пад імем Андрэя, напр. у Васкрэсенскай летапісі (П. С. Р. Л. VII. 256: „Ондрѣй

Казимир“) у беларускай Четьі 1489 г. („Король Андрэй“) К. Стадніцкі (Bracia Władysława Jagiełły, 144) кажа: „Umiano u nas dołożyć starania, aby prawda historyczna zmąconą została, albo nigdy swiatła nie ujrzała. Ale zastanowić musi, że kroniki ruskie prawie zawsze Kazimierza Jagiellończyka nazywają Andrzejem, a czasami dodają, że był odszczepieńcem“. (Умелі у нас далажыць старэньня, каб гістарычная праўда была зацемнена, або ніколі сьвету ня бачыла. Але трэба заўважыць, што рускія летапісі немаль заўсёды Казімера Ягайлавіча называюць Андрэям, а часам дадаюць, што быў праваслаўны). Казімер правёў ўсю сваю маладасьць ў Беларусі, гаварыў па беларуску, любіў беларускія звычаі так, што сам асабіста перэадзеты і пад маскай, хадзіў у Вільні віншаваць знатных асоб на Вадохрышча. У капліцы св. Крыжа ў Кракаве, на Вавэлю, дзе пахаваны Казімер, дагэтуль маецца славянская надпісь якая кажа, што (праўдападобна 1470 г.) „благоизволеніем, мудростю бога отца всемогущего пописана бысть сия каплица повелѣніем великодержавнаго короля Казимира за божей милости короля польского и великого князя литовского и руського и инш. и его королевое прѣнаяснѣйшей паней Елизаветы ис поколѣнья цесарского, Внука пренанезвытяжнейшаго цесара Жигимонта пана земли ракуское а ческое, вгорское“ (Зраўняй Н. Дашкевича. „Замѣтки по исторіи литовско-русского государства“, 107—108.—І. Пер вольфа. „Славяне их взаимныя отношенія и связи“. 165—166). Уся гэта капліца была разрысавана ў беларуска візантыцкім стылю, майстрамі выпісанымі для гэтай мэты з Беларусі. Л. А.

**Маскоўскія пaслы 1646 г. як абаронцы беларускай мовы.** Пры перэгаворах паміж польскімі і маскоўскімі пасламі ў 1646 гаду вынiклі недаразуменьні па поваду мовы ў дыплёматычных зносінах, паміж Рэчыпаспалітай Польскай і Масковіяй. Польскія пасяы напісалі дакумант польскай мовай, на гэта маскоўскія паслы запротэставалі кажучы: „Издавна повелось, что грамоты королевскія къ великому государю пишутся бѣлорускимъ писмомъ, и теперь, мимо прежних обычаевъ, по польскі писать не годится; да у порубежных воеводъ и переводчиковъ нѣт“ (здавён установлена, што лісты каралеўскія да вялікага гаспадара пішуцца беларускім пісьмом, і цяпер, супроць папярэдніх обычаяў, па польску пісаць ня гожа; ды ў пагранічных ваеводаў і перакладчыкаў німа). І мова беларуская на далей асталася мовай дыплёматычных зносін паміж Польскім каралеўствам і Маскоўскім царствам да канца XVII ст. (Соловьевъ, Ист. Россіи X. 136). С. Т.

**Казарскія вуліцы ў беларускіх гарадох.** У многіх беларускіх гарадох істнуюць „казарскія“ вуліцы. Па недаразуменьню шмат хто лічаць, што ў названьнях гэтых вуліц крыецца памяць аб пасёлках народу „Хазараў“, або „Казараў“. Гэты памылковы погляд трапіў нават ў расійскую гістарычную літэратуру. Полацкі магістрат палічыў, ў 1909 гаду, патрэбным паправіць „памылку“ ў названьні вуліцы, занёсшы на дашчэчку: „хазарская улица“, замест—казарская. Усюды, дзе істнуюць „казарскі“ вуліцы, яны распаложаны паблізу гарадзкога выгану, падобна як і „свінскія“ і азначаюць, што вуліца вядзе да казінага выгану. Гэткім чынам істнаваньне ў гарадох „казарскіх“ вуліц ня можа і ня служыць довадам зносін іх з казарскім царствам. Так сама прозьвішчы: Казарын, Казар, Казарскі Казарэвіч не паказуюць на паходжаньне гэтых родаў з Казарскага народу. Наш карэспандэнт, родам з Палесься, ў гэтай справе піша ў „Крывіч“ вось што: „Каза-

рамі на Палессі называюць селяне гарадзкіх жыхароў (мяшчанаў) затое, што яны, дзеля нестачы пашы, гадуюць коз, замест кароў і казінае малако і мяса спажываюць, замест кароўяга. Найменьне гэтае мае заўсёды пагардлівы характар і часта служыць прычынай боек паміж селянамі, прыехаўшымі на кірмаш у горад, і дробнымі мяшчанамі“. Словам у аснову „казарскіх“ вуліц у нас паложана паняцьце „каза“, а не народ „Казары“, ці „Хазары“.

О. У.

**Галцяі і галцяйства.** У беларускай актовай мове даволі часта сустрачаюцца словы: „г а л ц я й, г а л ц я й с т в а, г а л ц я і, л ю д з і п р ы г а л ц я в е л ы я, а такжа і ў кніжнай старабеларускай мове, прыкладам у Камянецкай (з Камянца Літоўскага) Чэты 1489 г., ў значэньні: г а л ц я й—бедны, г а л ц я й с т в а—беднасьць. Пры перакладзе беларускіх дакумэнтаў на лацінскую мову, словы гэты тлумачацца—*nihil tenent, nihil dant*. У адным з дакумэнтаў „галцяямі“ названы бадзячыя музыканты, скамарохі, але агульна гэтае слова тасавалася да людзей „голых“, „пагалелых“, немаетных, гультаёў, зусім ў тым-жа значэньні, што ў цяперашняй расійскай мове — „босяк“, „босяки“, „босячничество“.

С. К.

**Прафэсар Аляксандр Брукнэр і Беларусы.** Вядомы славіст Аляксандр Брукнэр, аўтор абшырнай гісторыі польскай літэратуры і многіх манаграфій па славянаведаньню не абмежыўся залічаньнем беларускіх літэратурных помнікаў XV—XVI сталецьцяў у польскую літэратуру і беларускіх слаunion багацьцяў у польскі слоўнік, фальшуючы гэтым гістарычную і навуковую праўду, але сваё прасьледаваньне беларушчыны выразіў яшчэ ў 1918 гаду доўгім лістом зьвернутым да нямецкай окупацыйнай ўлады. Ліст гэны зьяўляецца брыдкім пасквілям на беларусаў і беларускае адраджэньне. Шаноўны вучоны не палічыў ніжэй сваей годнасьці высьмейваць нацыянальныя імкненьні беларускага адраджэньня. Ен запэўняў немцаў, што беларускай нацыі ніколі не было, што беларуская мова—гэта толькі селянскі дыялект ў некалькіх губэрнях. Па адрэсу беларускіх дзеячоў дапусьціўся звыклай рыначнай лаянкі. Словам, паважны прафэсар перамалываў ўсе тыя довады супроць беларусаў якія можна знайсьці на старонках польскіх эндэцкіх газэт і трэбаваў ад немцаў, апіраючыся на сваё нямецкае паходжаньне, каб яны не дапушчалі разьвіцьця беларускага адраджэньня.

Нямецкія паруччыкі і капітаны аказаліся больш безстароннымі чым выдатны польскі прафэсар: просьбу Брукнэра, апублікаваць яго пашквіль на беларусаў ў газэтах Обэр-Ост, адкланілі: „бо гэты ліст па тону і зьместу можа разпаліць нацыянальную неяпрыязьнь ў акупаваных правінціях“.

В о ч а в і д з е ц.

**Філолёгічныя закмеўкі.** Неславянін, якому здараецца мець датычнасьць са славянскімі мовамі, ўражаецца аднэй асаблівасьцю беларускай мовы. Гэта пачатковае **в**, каторае у словах таго ж караня маскальскай або польскай мовы адпадае. Прыкладам: вострый і острій, вухо і ухо, вось і ось, вакно і окно, вока і око, і г. д.

Не ўдаючыся тут у разважаньні аб гэтым і не памыкаючыся вытлумачыць гэтае, цікавае з філолёгічнага пункту погляду зьявішча, лічу ня лішнім напомніць, што агульна грэцкая мова (у самым шырокім сэнсе гэтага паняцьця), якая, як вядома разпадалася на некалькі, даволі далёка разыходзіўшыхся, дыялектаў, здабыўшых навет літэратурнае становішча, мела тую-ж асаблівасьць, што датыча згуку **в**. У той час як мова афінскіх пісьменьнікаў згуку **в** зусім ня знала, яго ўжы-

валі другія грэцкія плямёны, называючы гэты згук „дігальма“. Вось некалькі прыкладаў:

віно — oinos і woinos
дом — oikos і woikos
дзела — ergon і wergon
год — etos і wetos

Грэцкія граматыкі, асабліва александрыйскія філолёгі бачылі, ў гэтым пачатковым згуку азнаку старадаўнасьці данага дыялекту і дзеля гэтага прыймалі эольскі дыялект, які пачатковае **в** захаваў да самых позных часаў, за самы старадаўны з грэцкіх дыялектаў. Напомнім тут што прафэсар Браслаўскага унівэрсытэту, Абіхт, лічыў беларускую мову за найстарэйшую з паміж усіх славянскіх моў. Ч. У.

**Эпітэты і мэтафары.** Найбольш характэрызуюць самабытнасьць мовы яе эпітэты і мэтафары, г. зн. тыя найменьні рэчам, якія дае народ пад найсьцем мастацкай творчасьці. У расійскай напр. мове агульна вядомы эпітэты: к о т - в а с ь к а, к о с о л а п ы й м и ш к а, з м ѣ й г о р ы н і ч, т р а в к а - м у р а в к а і г. п. У нашых аўтараў адраджэнцаў мы часам сустрачаем чужыя эпітэты, якія надаюць іх творчасьці прыкры для беларускага вуха, чужы колёрыт; і гэта у той час калі беларуская мова аблaдае сваімі ўласнымі эпітэтамі і мэтафарамі. Пазнаньне беларускіх народных эпітэтаў і мэтафар павінна быць адным з галоўнейшых заданьняў нашай этнографічнай і літэратурнай працы. Для прыкладу падаю тут горстку беларускіх эпітэтаў і мэтафар, сабраных ў зборніках Раманава, Шэйна, Безсонава, Крачкоўскага, а часьцю запісаных мной ў аколіцах Пружан, Дзісны, Лепэля і Быхава.

к о т—мурчак, курневіч;
м я д з ь в е д з ь—мармыль, мармулевіч;
с а б а к а — брэхта, брэхтулевіч, курта.
г у с а к—плавандзей;
і н д ы к (калакут)—гаўдзюлевіч;
в о ў к—гмырмель, хапун, самаглод;
в е в ё р к а—крутомка;
л і с і ц а—сястрыца, лыгманка;
с ь в і н ь н я—рохля;
з а я ц—курцік, крывандзей, касавуры, касавур;
к а р ш у н—курацап;
г о л у б—брукач;
в а р о н а—каркуха;
р а к—паўзун;
с а р о к а—белабока, шчакатуха;
б у с е л—даўганогі, кургузовіч:
м у х а—шумуха, палятуха;
в у ж а к а—сіпуха, верацейніца, падкалодніца;
п е в е н ь—пятуховіч, кудакевіч, кукарэцкі;
я ч м е н ь—вусач, вастач;
а в ё с—лахмач;
п ш а н і ц а—бялуха, ярая пшаніца, ярая пшонка;
ж ы т а—ядраное, залацістае;
г р э ч к а—мархлячка;
г а р о х—павівач, стручак, бурчак;
а р э х—лузгач;
б я р о з а—касатая, белагрудая, белая;
к о л а с—залацісты, ядрысты, бажадарчык;
м я д ы—густыя, бруштовыя, ліповыя;
т р а в а—віхратніца;
д у б р о в а—зялёная, драмуха;
м е с я ц—ясен, ясны, перакрой,—ноўчык, маладзік;
с о н ц а—красна;
г в е з д ы—часты, густы, дробны;
в е ц е р—буен, лістадзёр, лістагон, шугавей, сьвістун, пасьвістач;
м я ц е л і ц а—паўзуха;
м о р а—сіня;
м а с ь л я н і ц а—каўзуха;
д з е ў к а—чорнаброва; зара ясная;
д о ч к і—лябёдкі, перапёлкі;
с ы н ы—салаўі, сакалы;
г а с п а д ы н я—ластавіца, зязюля;
ц е л а—бела;
к о с ь ц і—жоўты;
р у с а—каса;
к р а с н а,—панна;
ч э с н а—жана;
б е л—маладзец;
м о л а д а с ь ц ь—буесьць;

магіла—вечны дом, цёмен церамок, вечна ціш, нямая, утульніца;
руда—золата;
чыста—серабро;
гарэлка—ташчаначка, акавітачка;
лістом—слацца: лістом зелянюсенькім прад табой маладзюсенькім;
зязюляй—кукаваць (плакаць);
макам—разсыпацца;
хмелям—віцца;
сакалом, ластавіцай—палётываць;
пчолкай увіхацца;
сонцам сіяць;
асінай дрыжэць;
на драждҗах расьці;
калінай цьвісьці.

В. Л.

# Агляд культурнага жыцьця Беларусі.

**Пачатак заняткаў у Белар. Дзярж. Унівэрсытэце.** З 20 верасьня пачалося выкладаньне лекцыяў на ўсіх факультэтах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

**Беларускія падручнікі.** Народны Камісарьят асьветы Сав. Беларусі апрацаваў другую кніжку, пасьля лемэнтара, і здаў у друк.

**Друкаваньне беларускіх кніжак заграніцай.** Народнаму Камісарьяту Беларусі запрапанавана прыгатаваць сьпіс беларускіх кніжак, якія нямогуць быць надрукаваны у Беларусі і з тэй прычыны будуць здадзены у друк заграніцай.

**К пабудоўцы мэтэоролегічнай обсэрваторыі.** Народнаму Камісарыяту Земляробства перададзены дом № 16 на Унівэрсытэцкай вул., для пабудоўкі мэтэоролёгічнай обсэрваторыі.

**Праца гр. Сержпутоўскага.** Прыехаўшы дзеля навуковых прац на Беларусь вядомы навуковы працаўнік Сержпутоўскі даставіў у Інстытут Беларускай культуры капітальную працу „Быт беларуса“ і зборнік прыказак у ліку 7.000 сабраных ім на Беларусі.

Т. Сержпутоўскі апрацоўвае беларускі слоўнік. Ужо зарэгістравана ім дла слоўніка больш 30.000 слоў.

**Да выданьня на беларускай мове кніжкі Радавага законадаўства.** Выдавецтва „Савецкая Беларусь“ рыхнуе да другу кніжку выкладчыка Бел. Дж. Ун. Гуткоўскага „Агульныя грунты радавага законадаўства“ як ССРР., гэтак і Беларускай Рэспублікі.

Гэтая кніжка будзе скарыстана як падручнік пры вывучэньні радавага права ў школах.

**Беларускі культурны рух на Смаленшчыне.** У канцы жніўня і ў пачатку верасьня ў Смаленскай губэрскай цэнтральнай бібліятэцы адбылася выстаўка беларускага друку—тых кніг і часопісаў, якія, з вялікімі цяжкасьцямі былі сабраны Беларускай губэрскай сэкцыяй. Выстаўка дала смалянам шмат цікавага, бо большая частка з іх дагэтуль ня ведала, што ў беларусаў ёсьць кніжкі ў беларускай мове і нават такія, як гісторыя, географія, задачнік і інш.

Пасьля выстаўкі аб'явілася шмат жадаючых пачытаць што-небудзь беларускае, асабліва гэта прыметна сярод моладзі.

**Беларускія грамофонныя пласьцінкі.** Хор Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатру, які цяпер знаходзіцца ў Маскве, ўжо наяпяў на грамофонныя пласьцінкі некалькі №№, як напр. „Адвеку мы спалі“, „Гэй сябры ўдалыя“, два дуэты з музыкальнай драмы „На Купальле“ пад акамп. квартэту і інш. Хор яшчэ прапяе народныя песьні, якія і будуць запісаны.

**К зьезду паталёгаў.** У Петраградзе адбыўся зьезд паталёгаў, на які ад Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту делегаваны праф. паталёгічнай анатоміі І. Т. Цітаў.

# Агляд прэсы.

## Адкрытае пісьмо да Пана Міністра Унутраных Спраў.

Пане Міністр!

Я адтрымаў з крыніцы. зусім заслугоўвуючай на веру, весткі аб тым, што робіцца ў палітычным аддзеле Беластоцкага вастрогу:

„Палажэньне палітычных арыштаваных ў Беластоцкім вастрозе цяпер вельмі цяжкое. Ґаладоўкі ідуць за галадоўкамі. Палітычныя галадалі 6 дзён. Тады адміністрацыя стала стасаваць штучнае кармленьне, каб зламаць галадоўку. Адзін з арыштаваных памёр з голаду. Пасьля гэтага галадоўка стала агульнай. Галадоўка выклікана цяжкімі ўціськненьнямі і немагчыма грубымі адносінамі. Некаторыя часовыя паляпшэньні выкліканы былі папярэднімі галадоўкамі.

Загаладалі і кабеты. Звольнены ад галадоўкі толькі Вера Маслоўская, Сяргей Баран і Зося Старасельская, як зусім хворыя. Усіх галадаўшых на трэці дзень сталі штучна „аджыўляць“, пры гэтым абходзіліся зусім пазьверску. Палітычных кабет пачалі карміць, літэральна зьдекуючыся, разам з угалоўнымі. У сьценах беластоцкага вастрогу толькі і чуваць разьдзіраючыя душу стогны палітычных па камэрах і карцэрах... Гэта—„кормяць“... Калі ня прымеце мераў, дык застануцца жывымі толькі тыя трое хворых, што не галадаюць...

Кормяць вось як: тры разы на дзень рэдкім жыткім наварам. Пачынаюць карміць на другі, на трэці дзень галадоўкі. Пры кармленьні выкручваюць назад рукі, разьзіраючы палкай рот, каб уставіць кішку.. Немагчыма перанесьці крыкаў зьдзекаваных... Кажуць, з кабетамі абходзяцца пры гэтым „далікатней“. хоць у большасьці—абкрываўленыя раты. А што робіцца ў мужчынскім аддзеле,—слоў ня хваціць апісаць! Тут кармленьне пераходзіць у запраўдную оргію зьдзекаў, бо арыштаваныя робяць спраціў проціў гвалтаў. Тут літэральна ліецца руччом кроў. Можна сабе ўявіць, як карыстаецца гэтым пакровам гуманнасьці гэтая „армія збаўленьня“—вастрожная адміністрацыя, якой у поўную і бяскантрольную ўладу аддана стольківжыцьцяў...

Зварочваемся да паслоў Беларускага Клюбу з мальбою аб абароне. Прышлеце камісію дактароў, прыежджайце самі. Паглядзеце на „збаўленых ад голаду“ ахвяр гуманнасьці вастрожнай адміністрацыі... Аўгеня Матэйчук і Захаровіч пасьля паноўных „кармленьняў“ зусім аслабелі... раты ў іх разарваны... твары напухлі... Ждом камісію дактароў з нашымі пасламі“...

Пісьмо напісана ў пачатку жніўня. На жаль я толькі цяпер атрымаў залежаўшаеся пісьмо.

Даводзячы ўсе гэтыя зусім точныя весткі да Вашага ведама, Пане Міністар, пакуль што адкрытым пісьмом у газэце, выяўляю сваю глыбокую пэўнасьць, што Вы, Пане Міністар, зробіце зараз-жа загад аб спыненьні чыненых ў Беластоцкім вастрозе гвалтаў вастрожнай адміністрацыяй, калі яны яшчэ ня спыніліся і аб разьследаваньні для выяўленьня і пакараньня вінаватых у нячуваных зьдзеках над безбароннымі людзьмі, якіх дапусьціліся ў Беластоку прадстаўнікі вастрожнай улады.

Пасол Сойму *Браніслаў Тарашкевіч*
Вільня, 28/VIII—23 г.

**Дабрадзействы „польскага гаспадара.** Пасол Воліцкі, ў „Robotniku“, апісываючы палажэньне ў Лунінецкім павеце сьцьверджае факт нялюдзкіх зьдзекаў і гвалтаў тутэй

шай паліцыі над мясцоваю беларускаю люднасьцю.

„Вось літанія прозьвішчаў пабітых на адным толькі паліцэйскім пастэрунку ў в. Велуце ў працягу двох тыдняў:

„Янка Холад быў пабіты два разы прыкладамі карабінау і паранены штыком,—на лбе рана глыбінню $1^1/_2$ сант. Калістрат Холад—уся галава ў ранах, падбітыя вочы, цела пабіта прыкладамі. Ігнат Шмал пабіты прыкладамі, Дзямьян Гардзюк, Марія Гардзюк, Кацярына Наворыч, Сьцяпан Шыйц, Матрэна Холад, Аляксей Холад, Васіль Холад, Марка Клімчук, Адам Драбовіч, Гардзей Каховіч, Грыгор Муха, Васіль Шуляк—усе пабіты прыкладамі, паранены штыкамі.

„Можа хто думае, што людзі гэтыя зрабілі нейкае страшнае праступленьне—тымчасам яны зусім нявінны.

„Як доказ за што бье паліцыя хай паслужаць гэткія факты: Параска Арэхава, маючы хворага каня, не хацела даць паліцыянту падводы,—хворую, бо рабілася гэтае на другі дзень пасьля таго, як радзіла яна дзіця, замкнулі пад арыштам, пакінуўшы 24 гадзіннае дзіця дома. Натуральна, што дзіця дома памёрла. Марку Клімчука пабілі двойчы прыкладамі, пасьля зьвязалі яму рукі і кінулі на лаўку, так, што галаву меў у нізу, а ўсё цала ў гары, адны паліцыянты сядзелі на яго нагах, а другія лілі яму ваду ў рот і ў нос, жадаючы, каб прызнаўся да нязробленага праступленьня, а вечарам пасьля гэтых мучэньняў яго звольнілі, як нявінаватага.

Таксама паліцыя ў Кажан-гарадку вядома з сваей дзікай жорсткасьці. Арыштаванаму Грыгору Зімічу за тое, што забіў цялё, не замэльдаваўшы паліцыі, зьвязалі рукі і ногі завязалі рот і білі праз мокрую анучу ў пяты і па ўсім целе нагайкамі“.

І гэта робіцца ў Польшчы XX веку, тэй Польшчы, якая так пышыцца свэей культурай! Гэтыя кашмарныя зьдзекі напамінаюць страшныя пыткі з часоў сярэднявекавай інквізыцыі. Ці могуць быць такія выпадкі ў праваьой дзяржаве, дзе істнуе дэмократычная констытуцыя? Гэта-ж сьмела можна сказаць, што крэсовая паліцыя Польскай Демократычнай Рэспублікі пабіла рэкорд паліцэйскіх зьдзекаў з часоў панаваньня Крывавага Раманава.

І азлаблёнае насяленьне само бярэцца за аружжа і мсьціць за гэтыя зьдзекі. Выпадкі забойства паліцэйскіх, войтаў (якія ўсюды, як цьвердзіць той-жа пасол Воліцкі, назначаюцца старостамі—усеўладнымі царамі ў сваіх паветах), ураддоўцаў—усё часьцей спатыкаюцца у нас на крэсах. Істнуюць цэлыя аружныя аддзелы, якія вядуць сыстэматычную барацьбу з мясцовай паліцыяй і адміністрацыяй, знаходзячы спогад сярод мясцовага насяленьня. На гэтае зьвярнуў увагу на шпальтах таго-ж „Robotnika“ пасол Маліноўскі. Аб гэтым піша і Воліцкі: „Хто знаў псыхолёгію спакойнага беларускага селяніна і пабачыць яго цяпер, павінен заўважыць, што стаімо ў пярэдадні нейкіх непакоячых пераменаў. Усюды чуваць, што „штосьці мае быць“.

І далей:

„Ня трэба дзівіцца, што насяленьне, якое ня мае ўласных школаў, пастаянна прасьледуецца праз адміністрацыю, бывае біта праз паліцыю і абшарнікаў, вызыскуецца страшэнным спосабам праз вялікую зямельную ўласнасьць—бунтуецца“.

І што-ж на гэта ўрад? Заместа таго, каб заспакоіць жыцьцёвыя патрэбы беларускага працоўнага народу, высылаюцца паліцэйскія аддзелы для ліквідацыі бандаў, а гэта знача, што спакойнае насяленьне чакаюць новыя паняверкі, бо пакуль пераловяць бандытаў, дык у першую

чаргу адчуюць гэтае сялянскія сьпіны і пяткі.

Урад ня хоча бачыць, што палітыка крэсовай адміністрацыі вядзе да гэтых забурэньняў у краі, а віну за ўсё зваліває на бальшавіцкія, нямецкія і літоўскія коншахты, на агітацыю беларускіх паслоў, на шкодныя ўплывы беларускіх газэтаў і г. д.

Час зьмяніць у корані палітыку на крэсах бо можа быць позна.

Я. Л. („Вольны Сьцяг" № 7).

**Аб чым гаварыцца у пісьмах у Рэдакцыю газэт выходзячых пад Польшчай.** Кажан-Гарадок, Лунінецкага пав. Бьюць, бьюць і бьюць. Які нумар ня возьмеш нашай беларускай газэты ў кождым знойдзеш, што там пабілі, там пакалацілі, а там забілі чалавека. Было і ў нас здарэньне, якое я і хачу вывясьці на сьвет. У нашай мясцовасьці ёсьць загад, калі колеш сьвіньню ці парасся, рэжаш курыцу ці цялё, трэба даводзіць аб гэтым да ведама паліцэйскага пастэрунку. І вось-жа грам. Зіміч Рыгор не паслухаў гэтага загаду і цяпер сядзіць у вастрозе. Але перад тым, як пасадзіць паліцыя яго „пагладзіла", але так пагладзіла, што ён будзе навет і па сьмерці помніць. Завязалі галаву, заткнулі рот і білі па чым толькі папала. Потым намачылі палатно пакрылі ім цела, каб не нарабіць сінякоў і зноў білі. Білі па пятах. Але і гэтага было мала. Сярэдня-вяковая інквізыцыя не дадумалася-б навет да гэтага. Вынялі penis і білі па ім бізунамі і пстрычкамі. Дык вось якое здарэньне было ў нас. Куды не павернешся таукуць і бьюць. Хто-б да нас толькі ня прыйшоў ўсе таўкуць і бьюць, рабуюць і забіраюць. Само собою навязываецца пытаньне. Хто-ж нас ня будзе біць? Хто і ў нас будзе бачыць людзей? Пры якой уладзе і мы будзем грамадзянамі сваей зямелькі? Тыя, хто яшчэ ня думалі над гэтым, няхай падумаюць.

Падарожны. („Вольны Сьцяг")

# С-пад Расіі.

**К пераводу дзелавадства Н. К. Земляробства на беларускую мову.** Калегія Народнага Камісарыяту Земляробства пастанавіла ў цягу 2 месяцаў перавесьці дзелаводства на беларускую мову.

**Газета на 6-ці мовах.** Цэнтральны Камітэт Рэспублік пастанавіў выдаваць урадовы „Весьнік на 6-ці мовах: расійскай, украінскай, беларускай, турэцка-татарскай, армянскай і грузінскай. „Весьнік" будзе першым часопісам, у якім будуць выключна друкаваца урадовыя пастановы і абвесткі.

**К аднаўленьню г. Барысава.** Згодна з пастановай Рады Народных камісараў Беларусі арганізаваны Камітэт дзеля кіраўніцтва працаю па аднаўленьню г. Барысава. Сябры камітэту выехалі ў Барысаў дзеля азнаямленьня з становішчам гораду на мейсцы, дзеля распрацоўкі пляну аднаўленьня гораду і выбару мейсца для пабудоўкі цэнтра гораду.

Камісіі даручана арганізаваць фонд для аднаўленьня Барысава і прыцягнуць прыватных асоб к удзелу ў гэтай справе.

**Дробны крэдыт для рэбочых** Цэнтральны Рабочы Каапэратыў пастанавіў для пробы пачаць выдачу тавараў рабочым у крэдыт, з выплатай яго ў тэрмін ад пэнсіі да пэнсіі.

Крэдыт будзе давацца ў таварных рублёх.

Ужо пачата выдача тавараў у крэдыт рабочым электрычнай станцыі, заводу „Энергія", Гарбар. заводу і Народнай сувязі.

# С-пад Польшчы.

**„Вольны Сьцяг“ зачынены.** ыдаваная ў Вільні беларуская часопісь „Вольны Сьцяг“, згодна з астановай Акружнага Суду, ў Вільні ачынена. „Вольнага Сьцягу“ вышла 0 нумараў, з якіх 4 было сканфіскавана па загаду Камісара Ураду . Вільні. Рэдактар Я. Лагіновіч, цягецца пад суд па 129 і 263 арт. К. К.

**Аднаднёўка „Сьцяг Волі“.** 7-га кастрычніка ў Вільні выдадзеа была аднаднёўка „Сьцяг Волі“ кая па загаду Камісара Ураду сканфіскавана за артыкул: „Сялянская і аботніцкая кляса ў бліжэйшы гістарычны пэрыяд“.

**Полёнізацыя.** „Dziennik Wileński“ паведамляе, што Інспэкторыят школьны на гор. Вільню 37 вучылёў віленскіх школ зусім звольніў сьць чуткі, быццам 60 вучыцялёў рыехала з Галіцыі ў Вільню для авучаньня дзяцей у пачаткавых школах. Гэта ў той час, калі мясцоыя пэдагогічныя сілы марнуюцца ез пасад, дзеля таго, што ім па неразумелай для іх прычыне ня хоуць даць польскага грамадзянства.

**Хоць крыкні ратуй.** Беларусая моладзь вёскі Зарэчча, Гораенскай воласьці, Нясьвізкага павеу хацела зладзіць беларускае прадаўленьне і паставіць п'есу „П.С.Х.“, е стараста Нясьвіжкага павету ня аў дазволу. Калі запыталі прычыу адказу, дык пачулі, што пан тараста ня хоча, і тут усяму канец.

**Канфіската.** Кніжка Сулімы Што такое „Wyzwolenie“ з беласкага пункту гледжаньня“ 4-га верасьня сканфіскавана па загаду камісара ўраду гор. Вільні.

**Адвакат Бабянскі,** абаронца ў часе вядомага беластоцкага працэсу злажыў у Найвыйшэйшым Судзе ў Варшаве пратэст проці тлумачэньня Апэляцыйным Судом 21 артыкулу Констытуцыі, дзякуючы якому тлумачэньню дэпутат Сойму Сяргей Баран быў заарыштаваны і дагэтуль сядзіць ў Беластоцкім вастрозе, ня гледзячы на тое, што Сойм ня выдаў яго. Найвышэйшы Суд запатрабаваў прысляць ў сьпешным парадку ўсю былую судовую справу у Беластоку.

**Пасля вядомай галадоўкі палітычных арыштаваных** ў Беластоцкім вастрозе найбольш актыўныя з іх як Аляксандар Станкевіч. Кастусь Матэйчук, Сьцяпан Жабінскі і інш. вывязены з Беластоцкага вастрогу ў Пазнань.

**Канфіската і вобыск.** Па загаду Камісара Ураду гор. Вільні сканфіскаваны № 15 „Вольнага Сьцягу“ за артыкулы „Пaслы і грамадзянства“, Правал Польшчы, „Сяляне і Работнікі“, у якіх прадугледжаны праступленьні з арт. 154 і 129 К. К. 3-га верасьня ў рэдакцыі „Вольнага Сьцягу“ быў зроблены сьцiслы вобыск. Нічога, апрача канфіскаванага нумару газэты, ня знойдзена. Пры гэтым шукалі ў кішанях і портфэлях тых асобаў, якія ў той час заходзілі ў рэдакцыю ў сваіх справах.

**Беларуская друкарня.** Группа ксяндзоў-беларусоў купіла у Вільні друкарню са шрыфтам і машынамі дзеля друкаваньня беларускіх кніжак духоўнага кірунку.

# З Літвы.

**Слоўнік геомэтрычных і трыгономэтрычных тэрмінаў** злажылі: К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі Расійска-беларускі і беларуска-расійскі). Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Выйдзе з друку у гэтым месяцы (лістападзе), кніжка формату 13—19 цм; будзе мець 120 страніц друку.

**Ліга беларускай культуры.** 25 кастрычніка у Коўне адбыўся сход працаўнікоў на ніве беларускай культуры, на якім грам. К. Душэўскі зрабіў даклад аб патрэбе утварэньня „Лігі Беларускай культуры“, якая ў першы чарод аб‘еднала-бы беларускую інтэлігенцыю на эміграцыі, і выкарыстала-бы яе працаздольнасьць у кірунку літэратурна-навуковым, а па другое— Ліга зьвязаўшыся з краёвымі беларускімі культурнымі установамі магла-бы прычыніцца да сыстэматызацыі і большай пляновасьці у працы на полі беларускай культуры. Як прыклад цяперашней неарганізаванасьці нашай пролегент прывёў такі прыклад тэрміналёгія да анатоміі і фізыалёгіі, апрацаваная В. Л. і надрукаваная у № 1 „Крывіча (у чэрвені), выклікала крытыку. Выдавец, у даным выпадку Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве, звярнулася праз прэсу да беларускіх культурных працаўнікоў і установ з просьбай прысылаць папапраўкі і дагэтуль, акром двох трох асоб, надаслаўшых цэнныя увагі, рэшта ,,папраўчыкаў“ дало літэральна макулятуру. Дзеля гэтага, паводле прэлегента, Ліга павінна: а) падлічыць і угрупаваць каля сябе беларускія сілы, б) зрабіць разпадзел працы, в) узяць у свае рукі ініцыятыву апрацоўкі патрэбных кніг для беларускай школы ў паразуменьні з іншымі навуковымі беларускімі установамі. Сабраньне выбрала камісыю дзеля апрацоўкі статуту „Лігі Беларускай Культуры“.

**Яшчэ дэлегаты ад беларусаў у Амэрыку.** Па ініцыятыве груп прымаўшых удзел у сумесным выступленьні перад Лігай Нацый ад грамадзянстваў: Украінскага, Беларускага, Літоўскага і Немцаў высланых з Польшчы, мае быць сарганізавана камісыя, якая выедзе у Амэрыку дзеля азнаёмленьня эмігрантаў, названых нацыянальнасьцяў, з палажэньнем іх пабратымаў пад Польшчай. У склад Камісыі увойдуць і прэдстаўнікі ад беларусаў, знахолзячыхся цяпер у Літве.

# З Латвіі.

**Беларуская Пачатковая школа ў Рызе.** З гэтае восені ў Рызе адчыняецца Беларуская Пачатковая Школа. Кіраўнікам школы намячаецца гр. М. Дзямідаў. У школу ўжо запісалася каля 100 вучняў. Цікава адзначыць той факт, што большасьць гэтых вучняў зьяўляецца дзяцьмі працаўнікоў з фабрыкаў і заводаў.

# Беларусы у Амэрыцы.

**Белараская агітацыя ў Чыкаго.** Беларуская грамадзкая дзеяльнасьць па арганізацыі беларусаў у Амэрыцы вядзецца энэргічна. 4-го жніўня ў районе Кедзі Эвеню, дзе знаходзіцца значны лік беларусаў, у працуючых у ,,майпах“ (ліцейных заводах) адбыўся сход, на якім пастаноўлена, адкрыць першы аддзел Беларускага Народнага Таварыства, а на 18 жніўня прадназначаны Сход на Фулертон эв. Пасьля акцыя пе-

ранясецца на Саўт Чыкаго. З гэтуль перакінецца на ўвесь штат Іллінойс і сумежныя з ім другія штаты. Нагул цяпер справа беларуская ў Чыкаго пастаўлена добра. Народ да вызваленьня сваіх братоў у далёкай і дарагой Беларусі адносіцца прыхільна і многія пачынаюць актыўна працаваць у гэтым напрамку. Сіла беларускіх праціўнікоў што раз зменшаецца і не за гарамі ўжо той час, калі ўся тутэўшая калёнія будзе аднэй магутнай беларускай сілай.

**Новыя беларускія працаўнікі**. Актыўные рады беларускіх працаўнікоў павялічваюцца новымі энэргічнымі сіламі. У Чыкаго на верх жыцьця выплылі за сваю выдатную працу на дабро Беларускага Народу такія асобы: Ч. Міхайлоўскі (брат вядомага нашага пасла) М. Лукашэвіч, І. Жукаў, Вялічка, Власен, Ліхойга, Шарабалька і Рамановіч.

**Беларускі камітэт у г. Чыгаго** сабраў на карысьць бедных сіротаў, якія вучацца ў Радашкоўскай беларускай гімназіі пяцьдзесят пяць доляраў і 75 цэнтаў ахвяр. Грошы гэтыя перасланы праз Ноел Стэйт банк на імя Більдзюкевіча.

## З усіх старон.

**Зьезд нацыянальнасьцяў у Жэнэве.** У часе апошняга, у верасьні г. г., паседжаньня Лігі Нацый адбыўся зьезд прадстаўнікоў паняволеных Польшчай нацыянальнасьцяў: Украінцаў, Беларусаў, Літвіноў і выселеных з Польшчы Немцаў. Прадстаўніні кождай, з вышэйназваных нацый падалі у Лігу свой мэморандум аб палажэньні сваей нацыі пад Польшай. Беларускі мэморандум быў надрукаваны асобнай кніжкай у французскай і асобнай у англіцкай мове і быў даручан усім дэлегацыям дзяржаў, якія уходзяць у склад Лігі Нацый. Мэморандум складаецца са ўступу ў католым гаворыцца што на захопленай палякі беларускай тэрыторыі, палякамі становяць нязначную меншасьць і што беларуская болшасьць тэрыторыі на захад ад лініі Рыжскага Міру імкнецца да сваей уласнай дзяржаўнасьці. У першым разьдзеле апаведаецца аб нішчэньні папалякамі нашых уцекагоў, аб колёнізацыі беларускіх зямель палякамі, аб зьдзеках на грунце не прызнаваньня грамадзянамі Польшчы уцекачоў. У другім разьдзеле прыведзены факты культурнага прасьледаваньня беларусаў, аб закрываньні школ, аб недапушчаньні беларускай мовы у урадых. У трэцім разьдзеле пералічаны прасьледаваньні характару паліцыйна-адміністратыўнага, у гэтым ліку аб пабоях і зьдзеках у турмах; прыведзены факты з апошняй галадоўкі у Беластоцкай турме. У вывадах сказана што Беларусы ніколі не пагодзяцца з падзелам сваей бацькаўшчыны і вымагаюць установленьня адкінутага Лігай Нацый плебісцыту аб дзяржаўнай прыналежнасьці Заходнай Беларусі. А пакуль што каб была утворана часовая (да плебісцыту) камісыя Лігі Нацый, у якую павінны увайсьці і прядстаўнікі няпольскіх нацыянальнасьцяў (т. зв. меншасьці) дзеля кантролю адносін палякаў да другіх нацыяў. Мэморандум падпісаў В. Ластоўскі.

Сабраўшыяся у Жэнэве на зьезд прадстаўнікі Украінцаў, Беларусаў, Літвіноў і выселеных палякамі Немцаў адбылі сумесную конфэрэнцыю і вынесьлі яшчэ супольную рэзозюцыю, гэткага зьместу:

**Рэзолюцыя** прадстаўнікоў Украінцаў, Беларусаў і Літвіноў прыгнечаных Польшчай і Немцаў выгнаных Урадам Польшчы, сабраў-

шыхся на Конфэрэнцыі у Жэнэве 23—25 верасьня 1923 году.

Прадстаўнікі Украінцаў, Беларусаў і Літвіноў, прыгнечаных Польшчай і Немцаў выгнаных Польшчай, сабраўшыся у Жэнэве 23—25 верасьня 1923 году і пасьля абмяркаваньня палажэньня утворанага выш мянаваным нацыянальнасьцям. Урадам Польшчы, сцьвердзілі, што адносна іх не спыняецца стасаваньне несправядлівых спосабаў скіраваных або да поўнага зьнішчажэньня іх, або да поўнай іх полёнізацыі.

Нашы нацыянальнасьці пазбаўлены ўсіх сваіх правоў, здадзены на ласку сваіх прыгнетацеляў. Не кажучы еб пазбаўленьні грамадзянскіх правоў, нашы пабратымы зьяўляюцца абьектам самых жорсткіх прасьледаваньняў.

Польскі урад адбірае нашу зямлю, калёнізуючы яе палякамі; яно выганяе нашых братоў, асабліва інтэлігенцыю з роднага краю; яно забараняе ўжываньне нашай роднай мовы у адміністратыўных установах і судах; яно шырыць польскую школу, закрываючы нашы нацыянальныя школы; яно не дае магчымасьці адкрываць нашы нацыянальныя арганізацыі; яно забараняе пашырэньне нашых газэт, забіраючы рэдактароў у турмы; многа палітычных, кінутых у турмы, прымушаны апавяшчаць галадоўку і яны паддаюцца мукам у часе допытаў і г. п. і г. п.

Гэткая палажэньне ня можа далей трываць!

Веручы высокой місыі, прынятай на сябе Лігай Нацый, мы зьвяртаемся да яе, уважліва просячы, заступіцца, заапекаваўшыся нашай нацыональнай годнасьцю, у інтэрасах цывілізацыі, нават у інтэрасах эўропэйскага міру.

Апіраючыся на нашых дамаганьнях, згодна мэморандумам, якія мы падаем ў гэты самы час, мы зьвяртаемся з верай да Сабраньня і да Рады Лігі Нацый.

1. Украінцы, Беларусы і Літвіны протэстуюць супроць пастановы Конфэрэнцыі Амбасадараў ад 15 сакавіка 1923 году, дытычучай усходняй граніцы Полшьчы, падпарадкаваючай гэткім чынам часьць Украіны, Беларусі і Літвы Польшчы, і просяць:

а) перагледзіць мянаваную пастанову, як пярэчачую сэнсу Вэрсальскага трактату, які прызнаў плебісцыт, як канечны варунак пры вызначаньні граніц, нават у стасунку да зваяваных краёў (Шлезвіг, Верхняя Сілезія, Усходная Прусія і т. д. і т. д.)

б) абасьпечыць, пад сваей апекай землям украінскім, беларускім і літоўскім права свабоднага самаазначаньня.

2. Немцы выгнаныя з Польшчы просяць прымусіць стасаваць умову аб меншасьцях, якую Польшча абавязалася перад Лігай Нацый выпаўняць і прымусіць яе вярнуць ім іх пагвалчанае права.

3. Усе вышэй мянаваныя нацыянальнасьці цросяць выслаць небаўна у Польшчу кантрольную камісыю каб спыніць несправядлівыя злоўжываньні якіх яны зьяўляюцца абьектам.

Пісан у Жэнэве 25 верасьня 1923 г.

*Праф. др. Лозинскі*, дэлегат Украінскай Нацыянальнай Рады быўш. Віцэ-Міністр закардонных спраў.

*В. Ластоўкі* быўш. Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

*Праф. др. Раніс* быўш. Старшыня літоўскага культурнага Т-ва „Рытас“ у Вільні.

Дэлегат сувязі Немцаў *Др. К. Я*

**„Таварыства Прыяцеляў Беларускае Сярэдняе Школы“**. 4 верасьня арганізаванае ў Празе Т-ва будзе памагаць беларускім сярэднім школам у заходняй Беларусі і ў даным часе наўперад зьверне галоўную ўвагу на падмогу беларускім клясам Навагорадзкае Беларускае гімназіі, якая перажывае надзвычайна крытычны мамэнт. Сябрам т-ва можа быць кожды, хто абавяжацца плаціць у касу т-ва 10 чэскіх карон у месяц. Пакуль што сябрамі т-ва зьяўляюцца блізу што адны беларускія студэнты, сяброў ужо каля 30 чал. Некаторыя з іх давалі па 10 ч. кар. з ліпня месяца яшчэ перад закладзінамі Т-ва. На агульнай зборцы 4-га верасьня з трох чалавек: Аляксандра Шаха, Лаўскага і Ксенофанта Бусьќі выбраны часовы прэзыдыум Т-ва. Да працы Т-ва вельмі спагадна аднесіцца грам. Мікола Вяршынін, старшыня Беларускае Грамады ў Празе, які зьяўляецца й сябрам Т-ва.

Калі часьць беларускіх студэнтаў змагло з сваіх скромных грошаў аддаваць па 10 карон чэскіх у месяц, дык трэба спадзявацца, што беларускае эміграцыйнае і неэміграцыйнае грамадзянства рупна возьмецца за арганізацыю падобных таварystваў.

Адрэс праскага т-ва Прыяцеляў Беларускае сярэдняе школы: Praha II, Venzigova 4.

**8 беларускіх матурыстаў**. Сёлета ў жніўні месяцы скончыла матуральныя курсы ў Езофове (Чэхія) 8 Беларусоў.

**Зьезд вучыцялёў сярэдніх школ**. Сёлета 27—30 ў Празе чэскай быў зьезд вучыцялёў сярэдніх школ. У зьездзе прыймалі ўчасьце прадстаўнікі 18 народаў. У часе зьезду Чэхі ўладзілі багатую выстаўку сваіх сярэдніх школ. На выстаўцы былі паказаны кнігі для сярэдніх школ, прылады, карты, прэпараты, вучаніцкія працы, дыяграмы і інш.

Зьезд на сваіх працоўных зборках разглядаў розныя сярэдняшкольныя пытаньні і рабіў аб іх свае пастановы.

Аб пэдагогічным прыгатаваньні вучыцялёў сяр. школ зьезд зрабіў гэткую пастанову:

„Зьезд, выслухаўшы рэфараты аб пэдагогічным прыгатаваньні, думае што не немагчыма пагадзіць розныя погляды, якія былі выказаны. Думае, што першае, чаго трэба вымагаць ад вучыцялёў, ё грунтоўная агульная адукацыя, злучаная з глыбокім знацьцём собскае адумысловасьці. Зьезд думае далей, што пэдагогічнае прыгатаваньне праведзенае ў патрэбнай меры паводле духа, традыцый і патрэб кождага народу, пададзенае разумным злучэньнем мэтоды філёзофічнае а гісторычнае з практычным навытараньнем, можа памагаць а разьвіваць пэдагогічныя здольнасьці, якія астаюцца незаменнай собскасьцяй (уласьцівасьцяй) дзеля вучыцеля.—2 Зьезд думае далей, што пры агульным прыгатаваньні вучыцялёў трэба мець на ўвеце гістарычнае разьвіцьцё агульнае культуры і тае адумысловае веды (навукі), якую мае хто вучыць, каб яго вучэньне магло разьвіваць у дзіцяці духа творскага й самастойнасьць думаньня. Пробная пара́ на пэдагогічнае прыгатаваньне не павінна быць дармовая“.

Аб маральным узгадаваньні вынесена гэтая рэзалюцыя.

„1. Зьяўляецца самазразумелым жаданьнем, каб спосаб вучэньня моральнасьці прызнаваў свабоду сумленьня й свабоду думаньня. 2. Дык няхай хоць які будзе гэты спосаб, зьезд думае, што сярэдняшкольнае вучэньне само сабою мае цану ўзгадавальную і ўмаральняючую. 3. Зьезд думае далей, што моральнае ўзгадаваньне мае вясьці вучаніка да самастойнага й крытычнага

разумаваньня на дарозе да дабра. 4. У школьным пляне вышэйшых кляс павінна быць вучэньне філёзафічнае, абымаючае ня толькі псыхолёгію й лёгіку, але так сама крытычную й безтаронную гісторыю моральных ідэяў і мэтафізычных тэорый. 5. Гэтае вучэньне павінна быць даручана адмысловаму вучыцелю філёзофіі.

Аб адносінах паміж школай і сям'ёй:

„Зьезд думае, што трэба вельмі жадаць судзейнасьці паміж школаю і сям'ёю. Думае, што гэтая судзейнасьць можа выпаўніць вялікую службу сярэдняй школе а разьвіць пачуцьцё брацтва і ўзаемнін паміж асобнымі школамі. Але што гэтая судзейнасьць ня мае даваць бацькам права проста мяшацца да парадку й працы сярэдніх школ а да назначаньня вучыцельства й пагатове".

**Нямецкі урад і беларусы у Усх. Прусіі.** Рэдакцыі „Крывіч" не ўдалося гэтага лета паслаць экспэдыцыю дзеля абсьледаваньня беларускага жыхарства у Усх. Прусіі, але затое удалося навязаць кантакт з беларусамі у Прусіі. 16 верасьня г. г. прадстаўнік прускіх беларусаў быў у начальніка краю, Генерал-Губэрнатара (Ober-Präsident) Усходняй Прусіі, якому рабіў даклад аб беларусах жыхарах Прусіі. Быўшый пры гэтым намесьнік Цэнтральнага нямецкага ураду, доктар Зір, жыва цікавіўся дакладам і быў вельмі зьдзіўлен заявай, што у прылягаючых, да быўшай сувальскай губэрні, паветах Усходняй Прусіі, знаходзіцца многа безпярэчнага беларускага элемэнту аднастайнага з жыхарамі суседняга Аўгустоўскага павету. Генерал-Губэрнатар Усходняй Прусіі сказаў, што далейшая полёнізація усходня-прускіх беларусаў ня можа і ня будзе дапушчана. Згодна конституцыі Нямеччыны, ўсе меншасьці населяючыя яе, маюць аднастайнае права на нацыянальнае разьвіцьце, а асабліва маюць права на нацыянальную школу. Намесьнік сказаў даслоўна: „У нас маюцца ўжо літоўскія і польскія школы, якія утрымліваюцца на дзяржаўны кошт. Зусім справядліва, каб і беларусы, калі гэткія маюцца у Усх. Прусіі ў патрэбным ліку, атрымалі свае нацыянальныя школы з выкладам ў сваей роднай мове. Перш за ўсё трэба установіць прыблізны лік беларусаў. Губэрнатар ў Аленштэйне, пад загадам якога знаходзяцца паветы Бяла, Лык, Іоганісбэрг і Марграбова, атрымае загад безадвалочна зрабіць на мейсцах сьпіс беларусаў і вынікі паведаміць у Кенігсбэрг".

Л. А.

# Кнігапісь.

ТАРАС ГУШЧА (Якуб Колас). У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ. ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б. КЛЕЦКІНА. ВІЛЬНЯ. БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ. 1923. СТАР. 185 in 8°.

Угэтым сваім доўгім апавяданьні Т. Гушча (псэўдонім у прозе Кастантына Міцкевіча) зьяўляецца гэткім-жа якім ён ёсьць пад найменьнем Я. Коласа ў паэзіі; у якой няма трагічных сцэн і спляценьняў, наадварот усё дзеецца неях супакайна й бытцам мякка. Але гэтая мякчыня, выцякае з глыбінь душы, памастацка і з любасьцю намалявана. Чытаючы кнігу, памалу ўцягаешся ў гатае, здаецца, звычайнае жыцьцё, яно няўпрыцям захоплюе нас, робіцца нам любым, дарагім.

У апавяданьні прадстаўлена жыцьцё беларускае вясковае інтэлігенцыі у пэрыод, што папераджаў беларускі рух. Тут яшчэ няма руху, але відаць, што ён зара мусіць пачацца і можам нат пазнаць, хто бу-

дуць яго першыя піонэры. Бачым смутны абраз гетае інтэлігенцыі. Большасьць вучыцельства, пісар, яго памочнік і інш. гэта бязыдэйныя людзі; вышлі яны „ў паны“, дзяржацца свайго панства й стараюцца яго палепшыць, абдзіраючы цёмны народ. Як борзда выраджаецца гэткая „інтэлігенцыя“, бачым з хвэльчаравага, сына, Максіма Гарошкі, які ня мог убыць у ніводнай школе, п'янчужка й мястачковы лавелас. Сухавараў гэта той тып, што прыносіў да нас „культуру“, якая борзда дала гэткія рэзультаты, як прадажная жанчына, рэч нячуваная датуль на беларускай правінцыі. Затое сымпатычнымі тыпамі зьяўляюцца вучыцялі Лабановіч і Турсэвіч. Гэта ідэйныя людзі, яны ймкнуцца да сьвятла, хочуць рабіць дабро, але ідэя іх яшчэ ў тумане. „Культура“ іх дужа не зачапіла. Гэта людзі з чыстымі беларускімі душамі. Вось погляд Лабановіча на жанчыну; „Лабановіч прыпомніў размову са сваёю старожкаю і зацікаўлены глянуў яшчэ раз на гэту пасаду. Паслушнае і ўслужлівае ўяўленьне ўжо рысавала яму вобраз дзяўчыны, гэту й прыгожую краску, узгадаваную ў глухіх барох. Лабановіч ніколі, навет у думках, не пазваляў сабе зьняважыць дзяўчыну. Адно слова „дзяўчына“ выклікала ў душы яго чысты й прыгожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк. І цяпер ён прыпомніў два ці тры здарэньні ў сваім жыцьці, калі гэтыя вобразы глыбока западалі ў яго сэрца, але ён і намёкамі не сказаў ім пра гэта (стар. 18). І пагляд на жыцьцё ў Лабановіча ідэалістычна здаровы. „Што ні кажы,“ думае Лабановіч, а жыцьцё, ужо само па сабе, ёсьць радасьць, вялікае шчасьце, бязцэнны дар. Есьць дзьве важныя часьціны, з якіх складаецца жыцьцё й яго глыбохі сэнс і хараство—чалавек і прырода. Бо ніколі ня страціць для нас цікавасьці чалавек, бо праяўленьне яго разуму бязьмежна, бо дарогі яго ня вызначаны, бо формы яго жыцьця і яго ўзаемнаадносін да другіх людзей бясконца размаітыя, аканчальна ня выяўлены й ніколі ня могуць стаць аканчальнымі. А прырода! Колькі вялікага здаваленьня дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачыма кождага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе многалучныя напісы—хіба-ж гэта ня ёсьць шчасьце?“ (стар 10).

Але адначасна ў ім ё й некатарае думаньне хваравітае, уплыў усходні пераз школу й маскальскіх пісьменьнікаў. Уплыў гэты праяўляецца ў пытаньні „У чым сэнс жыцьця?“ Чыста беларускі, заходні погляд выказаны словамі бабулі старожкі, якую не зачапілі ніякія ўплывы. Цікаўны дыялёг вучыцеля з сваей старожкаю:

— Дык ты, бабка, ня ведаеш, чаго мы на сьвеце жывём?

— Не, панічок, ня ведаю! Каб вы папыталіся ў дрэва, чаму яно расьце, дык хіба-ж бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць.

— Так, баба, ты кажаш праўду. Ня ведаем мы, чаго на сьвеце жывем.

— А на вошта, панічыку, й ведаць? Жыве чалавек, і жыве пакуль бог яму прызначае. А прыдзе час яму памерці—памрэ.

Падлоўчы зьяўляецца адным з тыпаў беларускае шляхты. Ен дэспот у сямі, але ўсё-ж такі многімі шчыра беларускімі рысамі свайго характару здабывае сабе сымпатыю ў чытача.

Вельмі харошым беларускім тыпам зьяўляецца дачка падлоўчага Ядвіся. Гэта шчыра беларуская засьцянковая краска. Сюды трэба аднесьці Габрыньку, яе сястру, й Чэся. Надта цікаўна, што Ядвіся Т. Гушчы мае агульную падобнасьць да Белевічанкі ў „Патопе“ Сянкевіча і да дзявоцкіх тыпаў у творах А. Міцкевіча. Ня ёсьць гэта аднолькавыя людзі, але ў іх ёсьць падобнасьць

радавая, сямейная. Гэта сьведчыць аб суцэльнасьці й выразьлівасьці беларускіх тыпаў і беларускае псыхікі.

Важна было-б заняцца наагул прыраўнальнем беларускіх тыпаў сучасных нашых пісьменьнікаў з тымі беларускімі тыпамі, якія далі нам пісьменьнікі Беларусы, што пісалі ў чужых мовах.

Гледзячы на ўсю гэтую вясковую інтэлігэнцыю, „палескае глушы“, думаеш сабе: што, каб усе гэтыя людзі абняты былі ідэяй Беларускага Адраджэньня? Наўперад бязыдэйныя духоўныя лянуцькі й соні сталіся-б людзьмі працавітымі і грамадзка-карыснымі. Не зьмяніліся-б толькі Сухавараў ды Максім Гарошка, але іх і ідэя непацяглула-б. Кожды прадставіць сабе, якую вялізарную працу зрабіла-б уся гэтая інтэлігенцыя дзеля свайго народу, калі б была сьвядомаю. Палеская глуш перастала-б быць глушай. Вось адна з многіх патрэб і карысьцяў Беларускага Руху!

Знаходзім „У палескай глушы“ й харошае апісаньне беларускае прыроды. Прыкладам:

„Шырокі гасьцінец з двума радамі старых бяроз зьбягаў з горкі раўнюсенечкаю сьценкаю кудысь на захад, і чым далей, тым гусьцей здаваліся гэтыя разьвісьлья таўстыя бярозы, усё болей і болей зьніжаліся яны, а потым зьліваліся ў адзін шнур і замыкаліся сабою самымі, як-бы яны ўпіраліся ў лес і хаваліся за лінію небасхілу.

Есьць штосьць нязвычайна прыгожае ў гэтых прывольных старасьвецкіх шляхох Беларусі. Шырока й размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў, злучаючы паветы, губэрні й цэлыя краіны. Колькі хараства й чароўнага прывабу ў сініх іх далях! Колькі новых малюнкаў, сьвежых матываў і таёмных здарэньняў абяцаюць яны вачом і сэрцу падарожнага! З якою нязвычайнаю сілаю парываюць яны да сябе і як моцна дакранаюцца да струн тваё душы! Якая-ж сіла залажана ў гэтых прасторах неабнімных родных шляхаў, якую ўладу маюць яны над табою, неспакойны, вечна заклапочаны падарожны?“

— Хараство беларускае прыроды адзываецца ў душах яе дзяцей:

— „Зірні, ты зірні: якое гэта прыгажство!—казаў Турсэвіч сябру, паказваючы з ганку свае кватэры на роўны шлях і на увесь малюнак, што раскрываўся перад імі: — які разгон, які прастор! Які вясёлы тон малюнку і колькі ў ім разнастайнасьці!“

Пачуцьцё роднага хараства вызывае ў будучых піонэраў беларускага руху нездаволеньне проці несправядлівых адносін чужнікоў і сваіх да нашае Зямлі й Народу:

„Я аднаго не разумею,—сказаў Лабановіч, любоўна агледзіўшы ўвесь краявід:—у нас столькі прыгожства, столькі багацьця формаў і фарбаў, і край наш вялікі й разнастайны, а мы ня бачым, ня хочам гэтага бачыць. Аб нашым краю зложыўся пагляд, як аб краю бедным, заняпалым. І нідзе мы ў падручніках па географіі ня знайдзем больш менш сталага апісаньня Беларусі. Што такое наша Беларусь? А гэта, бачыш, заходняя акраіна Расіі. Чым яна слаўна? Нічым. Вось балоты там ёсьць ды яшчэ на ўвесь сьвет вядомая хвароба—каўтун. І мы з гэтым лёгкадумна згаджаемся, мы ўсё гэта прыймаем на веру, бо над намі пануе шаблён, шаблён пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы зьмест іх. Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго!“ (стар. 80).

Чысьціня мовы мае такое вялікае значэньне ў нашым адраджэньні й нацыянальным жыцьці, што канечна трэба зварочаваць увагу на мову кожнае новае кнігі. У першай палавіне „У палескай глушы“ мова можна сказаць благая, нячыстая, але ў другой палавіне мова нішто, хоць і там не без барбарызмаў. У першай палавіне аўтор доляецца з чужымі, най-

балей маскальскімі ўплывамі, у другой-жа ён іх здоляў і беларуская мова ў яго выліваецца прыродна й хараша.

Каб прасьцерагчы ад барбарызмаў, лічу патрэбным іх балей-меней усе вылічыць тут.

Я й б о г у — маскалізм, бел.— дальбог, дальбо, да душы

п р ы м е ц і ц ь, з а м е ц і ц ь, з а м я ч а ц ь, н е з а м е т н а — маскалізмы, бел.—прыцеміць, зацеміць, зацемляваць, няўпрыцям; у значэньні зацеміць—зрабіць знак, можна ўжываць яшчэ зазначыць. Словы прыцеміць і г. д. запісаны мною ў пав. Дзісенскім, Полацкім, Лепэльскім і Слуцкім.

П р а в е—пол., бел.—блізу што.

К а б е ц і н а — пол., ужывае яго не адзін Т. Г. а тым часам пабеларуску будзе жонка або жанчына, жаноцкі.

н е п а с р э д н а я, н е п а с р э д н а с ь ц ь — маскальскі баўгарызм, пабеларуску трэба сказаць непасярэдні або беспасярэдні, непасярэднясьць. Па **н** будзе гук мяккі, бо маем сярэдні.

ш к о л ь н ы я п р ы н а л е ж н а с ь ц і—маск., бел.—шк. прылады

ч а с, ч а с ы—маск., бел.— гадзіна, гадзіньнік, час пабел. значыць тое, што памаск. „время". На стар. 36 аўтар і пачаў ужываць „гадзіньнік".

х в і л я, х в і л і н а—пол.—часіна, якое слова таксама ўжыта на стар. 24.

п а п а с ь ц і—маск., бел.- -лучыць (націск на у) трапіць, злучаць.

а д л і ч н ы м і стральцамі—маск.. бел.— закатнымі... Запісана ў Ашм. пав.

н а б і ц ь р у к у—маск., бел. — навытарыцца. Слова асабліва ўжываецца ў Вітабшчыне (гл. Нікофороўскага).

п а б р ы т ы—маск. Кажацца брытва, але галіцца, пагаліцца, паголены.

л е п ш а я а д я г о к в а т э р ы— пол. Пабел. дзеля прыраўнаньня ўжываецца прыймя з вінавальным склонам. лепшая з а яго кратэру.

ш л я х э т н ы— пол., бел.—дабрароднасць.

у ц і х а й в а д з е ч э р ц і в о д з я ц ц а. Наўперад на водзяцца, а вядуцца, а далей і ўся прыказка маскальская. Пабел. кажуць: ціхаз вада берагі рые.

шум вагонных к а л ё с. Бел. калёсы=маск. телега, у вагоне ніякіх калёс няма, а ёсьць—колы.

п а т р а к т а в а л а — пол., бел. пачаставала.

д р у г—пол., бел. прыяцель.

н е д о і м к а—маск., бял.—недабор. Гл. і ў сл. Насовіча, стар. 330: недабор падаткаў.

в і д о ч н а—пол., бел.—відавачна, відавочны.

ш л а—маск., бел. і ш л а.

а д л у ч ы ц ц а—гаспадыня часта адлучалася,—маск. бел.— адыходзілася, пабел. адлучылася зн. тое самае, што—вылучылася.

р а з с ь в я т а, д ы к с ь в я т а— маск.,„раз" пабел. ў значэньні „калі" ніколі ня ўжываецца трэба сказаць. калі сьвята ігд.

былі не ўладох—маск., бел.—былі ў звадзе, злосьці.

з і м н і я д н і—маск.. бел. зімовыя дні.

с п а с о б н ы х вучняў--маск., бел. здольных вучняў.

в о п ы т н а м у—маск., бел.—дазнанаму, ад дазнаваць (—испытывать), практыка—дазнаньне—опыт,

ш к о л а а д с т а е—маск. Адставаць можа папера ад сьцяны, але людзі й школа астаюцца (ад каго).

н е д а т ы к а л ь н ы—пол., бел.— незачэпны.

спаткаўся Л. гуляючы па чыгунцы, або: а пагуляць мы пойдзем— маск. Пабел. або гуляюць у якую гульню, або гуляюць—нічога ня робяць, або гуляюць—скачуць. Тут-жа трэба сказаць — прахаджаючыся, а на праходак мы пойдзем.

з а м к н ё н ы я в у с н ы. Дзьверы, вокны зачыняюцца, стол, ложак засьцілаецца, чалавека коўдрай а каня гунькай накрываюць. Кніга, вочы, вусны так сама зачыняюцца. Апрача

гэтага вочы можна яшчэ заплюшчыць, а вусны сьцісنуць, стуліць. Кажацца яшчэ заперці, засунуць, заваліць хату, дзьверы. Замкнуць замкнёны значыць заперці, заперты на замок. Дык вусны будуць сьцісьненыя, стуленыя, або зачыненыя.

вялікае вам дзякуй. Дзякуй мужчынскага а не ніякяга роду. Трэба сказаць—вялікі вам дзякуй. У бел. мове іменьні ніякага роду канчаюцца на о (акно), на е (поле). на а (збожжа) і на я (імя, племя), але ніколі не канчаюцца на й, таксама, як на й ніякі род (neutrum) не канчаецца ў ніводнай слав. мове.

рашыў не паказавацца—маск., бел.—пастанавіў і г. д.

настроіў струны—маск., бел.—наладзіў, лад струн.

хвэбра, бел.—трасца, цётка.

у зьвязку з праяўленьнямі, бел. — у сувязі і гд., зьвязак-жа значыць тое самае, што клумак, маск. „узелок“.

бракуе сіты—пол., бел,—нестае.

занавеска (ля вакна і г. п.) —маск., бел., запавеска.

громка, громкая справа—маск., бел.—голасна, галосная справа.

рабочы—маск., бел.—работнік.

збавеньне, бел.—збаўленьне або спасеньне.

тарчалі—маск., бел.—тырчэлі.

цятрадзь—маск., бел. сшыток.

нядзелі на дзьве—маск., бел. —тыдні на два, а нядзеля—адзін з дзён тыдня.

сьмешны паказаліся думкі, яно паказалася наіўным—маск., Думкі паказацца не маглі, а яны здаліся сьмешнымі.

жычу—пол., бел.—зычу, пазычыць, пазыка.

сапачынак—супачынак.

некая—маск., бел.—неякая, нейкая.

дамашніх—маск., бел.—хатніх.

уставіўся—маск., бел.—ўталопіўся, адгэтуль оталапень (маск. остолопъ),

заспакоілася—супакоілася.

ружовых—пол., бел.—рожавых

усьпеў—маск.,—бел. пасьпеў.

настаяшчае палажэньне — маск., бел.—запраўднае.

проша—пол., бел.—калі ласка.

нячаяў—маск., бел.—не спадзяваўся.

патаскуха—маск., бел.—валацуга, валачайка.

Узбагачаныя спробамі жыцьця. Спроба па бел. значыць тое, што па маск. попытка. Тут-жа аўтор хоча сказаць дазнаньнямі жыцьця.

стосы закусак—пол., бел.—стагі, груды.

атласны—маск. Ад каштан маем каштановыя ад атлас—атласовы, як і ў народнай мове.

стала быць—маск., бел.—значыцца.

не забылі—маск., бел.—незабыліся.

броў—маск., бел. брыво, але бровы.

трон,—бел.—пасад.

лісьцік—лісток, лісточак.

назова—назоў. Як з сънъ узварілася ў усходніх славянскіх мовах сон а ў заходніх сэн, так і з на—зъвъ у у беларускай (усходняс лав). на—зоў, а ў чэскай (заходняя слав.). на—zev, як у нас, так і ў Чэхаў маем мужч. род. „Назова“ (жан. род) некаторыя ўжываюць пад па ўплывам раней пазычанага ў палякоў назва. Слова назоў ужываецца ў Мсьціслаўскім п. (гл. і Гарэцкага).

F. Sokolovskienės, G. Lano ir M. Jolko Spaustuvė, Kaune, Maironio g-vė 10-12.
Друкарня Ф. Сакалоўскай, Г. Лана і М Іолко, Коўна, Майронio 10—12.